ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ X

№ 1
Студзень 1936 г.

## ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 21.
Тэлефон адказнага рэдактара па
камутатару 20000, даб. 68.



**І. Сталін**

# З поваду смерці Леніна

*(Прамова на II Усесаюзным з'ездзе советаў 26 студзеня 1924 года)*

Таварышы! Мы, комуністы,—людзі асобага складу. Мы скроены з асобага матар'ялу. Мы—тыя, якія складаем армію вялікага пролетарскага стратэга, армію тав. Леніна. Няма нічога вышэй, як гонар належаць да гэтай арміі. Няма нічога вышэй, як званне члена партыі, заснавальнікам і кіраўнікам якой з'яўляецца тав. Ленін. Не ўсякаму дана быць членам такой партыі. Не ўсякаму дана вытрымаць нязгоды і буры, звязаныя з членствам у такой партыі. Сыны рабочага класа, сыны нужды і барацьбы, сыны неймаверных лішэнняў і гераічных намаганняў—вось хто, перш за ўсё, павінны быць членамі такой партыі. Вось чаму партыя ленінцаў, партыя комуністаў, называецца разам з тым партыяй рабочага класа.

Уходзячы ад нас, таварыш Ленін запаведаў нам трымаць высока і захоўваць у чыстаце вялікае званне члена партыі. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы з гонарам выканаем гэтую тваю запаведзь!

25 год пеставаў тав. Ленін нашу партыю і выпеставаў яе, як самую моцную і самую загартаваную ў свеце рабочую партыю. Удары царызма і яго апрычнікаў, шаленства буржуазіі і памешчыкаў, узброеныя напады Калчака і Дзенікіна, узброенае ўмяшанне Англіі і Францыі, хлусня і паклёп стовуснага буржуазнага друку,—усе гэтыя скарпіёны нязменна падалі на галаву нашай партыі на працягу чверці веку. Але наша партыя стаяла, як уцёс, адбіваючы незлічоныя ўдары ворагаў і ведучы рабочы клас наперад, да перамогі. У жорсткіх баях выкавала наша партыя адзінства і згуртаванасць сваіх радоў. Адзінствам і згуртаванасцю дабілася яна перамогі над ворагамі рабочага класа.

Уходзячы ад нас, таварыш Ленін запаведаў нам захоўваць адзінства нашай партыі, як зрэнку вока. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы з гонарам выканаем і гэту тваю запаведзь!

Цяжка і нязносна доля рабочага класа. Пакутны і цяжкі мучэнні працоўных. Рабы і рабаўладальнікі, прыгонныя і прыгоннікі, сяляне і памешчыкі, рабочыя і капіталісты, прыгнечаныя і прыгнятальнікі,—так будаваўся свет спакон вякоў, такім ён застаецца і цяпер у агромнай большасці краін. Дзесяткі і сотні раз спрабавалі працоўныя на працягу вякоў скінуць з плеч прыгнятальнікаў і стаць панамі свайго становішча. Але кожны раз, разбітыя і зганьбаваныя, вымушаны былі яны адступіць, таячы ў душы крыўду і прыніжэнне, злобу і адчай і ўстрамляючы вочы на няведамае неба, дзе яны спадзяваліся знайсці збаўленне. Ланцугі рабства заставаліся някранутымі, або старыя ланцугі змяняліся новымі, настолькі-ж цяжкімі і ўніжальнымі. Толькі ў нашай краіне ўдалося прыгнечаным і задаўленым масам працоўных скінуць з плеч панаванне памешчыкаў і капіталістаў і паставіць на яго месца панаванне рабочых і сялян. Вы ведаеце, таварышы, і цяпер

увесь свет прызнае гэта, што гэтай гіганцкай барацьбой кіраваў тав. Ленін і яго партыя. Веліч Леніна ў тым, перш за ўсё, і заключаецца, што ён, стварыўшы Рэспубліку Советаў, тым самым паказаў на справе прыгнечаным масам усяго свету, што надзея на збаўленне не страчана, што панаванне памешчыкаў і капіталістаў нядоўгавечна, што царства працы МОЖНА стварыць намаганнямі саміх працоўных, што царства працы трэба стварыць на ЗЯМЛІ, а не на небе. Гэтым ён запаліў сэрцы рабочых і сялян усяго свету надзеяй на вызваленне. Гэтым і тлумачыцца той факт, што імя Леніна стала самым любімым імем працоўных і эксплаатуемых мас.

Уходзячы ад нас, таварыш Ленін запаведаў нам захоўваць і ўмацоўваць дыктатуру пролетарыята. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы не пашкадуем сваіх сіл для таго, каб выканаць з гонарам і гэту тваю запаведзь!

Дыктатура пролетарыята стварылася ў нашай краіне на аснове саюза рабочых і сялян. Гэта першая і карэнная аснова Рэспублікі Советаў. Рабочыя і сяляне не маглі-б перамагчы капіталістаў і памешчыкаў без наяўнасці такога саюза. Рабочыя не маглі-б разбіць капіталістаў без падтрымкі сялян. Сяляне не маглі-б разбіць памешчыкаў без кіраўніцтва з боку рабочых. Аб гэтым гаворыць уся гісторыя грамадзянскай вайны ў нашай краіне. Але барацьба за ўмацаванне Рэспублікі Советаў далёка яшчэ не закончана,—яна набыла толькі новую форму. Раней саюз рабочых і сялян меў форму ваеннага саюза, бо ён быў накіраваны супроць Калчака і Дзенікіна. Цяпер саюз рабочых і сялян павінен набыць форму гаспадарчага супрацоўніцтва паміж горадам і вёскай, паміж рабочымі і сялянамі, бо ён накірован супроць купца і кулака, бо ён мае сваёй мэтай узаемнае снабжэнне сялян і рабочых усім неабходным. Вы ведаеце, што ніхто так настойліва не праводзіў гэту задачу, як тав. Ленін.

Уходзячы ад нас, таварыш Ленін запаведаў нам умацоўваць усімі сіламі саюз рабочых і сялян. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы з гонарам выканаем і гэту тваю запаведзь!

Другой асновай Рэспублікі Советаў з'яўляецца саюз працоўных нацыянальнасцей нашай краіны. Рускія і украінцы, башкіры і беларусы, грузіны і азербайджанцы, армяне і дагестанцы, татары і кіргізы, узбекі і туркмены,—усе яны аднолькава зацікаўлены ва ўмацаванні дыктатуры пролетарыята. Не толькі дыктатура пролетарыята збаўляе гэтыя народы ад ланцугоў і прыгнечання, але і гэтыя народы збаўляюць нашу Рэспубліку Советаў ад прошукаў і вылазак ворагаў рабочага класа сваёй беззаветнай адданасцю Рэспубліцы Советаў, сваёй гатоўнасцю афяраваць за яе. Вось чаму тав. Ленін няспынна гаварыў нам аб неабходнасці добраахвотнага саюза народаў нашай краіны, аб неабходнасці брацкага іх супрацоўніцтва ў рамках Саюза Рэспублік.

Уходзячы ад нас, таварыш Ленін запаведаў нам умацоўваць і расшыраць Саюз Рэспублік. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы выканаем з гонарам і гэту тваю запаведзь!

Трэцяй асновай дыктатуры пролетарыята з'яўляецца наша Чырвоная армія, наш Чырвоны флот. Ленін не раз гаварыў нам, што перадышка, адваяваная намі ў капіталістычных дзяржаў можа ака-

ваццa кароткатэрміновай. Ленін не раз указваў нам, што ўмацаванне Чырвонай арміі і палепшанне яе стану з'яўляецца адною з важнейшых задач нашай партыі. Падзеі, звязаныя з ультыматумам Керзона і з крызісам у Германіі, лішні раз пацвердзілі, што Ленін быў, як і заўсёды, праў. Паклянемся-ж, таварышы, што мы не пашкадуем сіл для таго, каб умацаваць нашу Чырвоную армію, наш Чырвоны флот.

Агромным уцёсам стаіць наша краіна, акружаная акіянам буржуазных дзяржаў. Хвалі за хвалямі кацяцца на яе, пагражаючы затапіць і размыць. А ўцёс ўсё трымаецца непахісна. У чым яе сіла? Не толькі ў тым, што краіна наша трымаецца на саюзе рабочых і сялян, што яна ўвасабляе саюз свабодных нацыянальнасцей, што яе абараняе магутная рука Чырвонай арміі і Чырвонага флоту. Сіла нашай краіны, яе моц, яе трываласць заключаецца ў тым, што яна мае глыбокае спачуванне і непарушнае падтрыманне ў сэрцах рабочых і сялян усяго свету. Рабочыя і сяляне ўсяго свету хочуць захаваць Рэспубліку Советаў, як стралу, пушчаную вернай рукой тав. Леніна ў стан ворагаў, як апору сваіх надзей на збаўленне ад гнёту і эксплаатацыі, як верны маяк, які ўказвае ім шлях вызвалення. Яны хочуць яе захаваць, і яны не дадуць яе разрушыць памешчыкам і капіталістам. У гэтым наша сіла. У гэтым сіла працоўных усіх краін. У гэтым-жа слабасць буржуазіі ўсяго свету.

Ленін ніколі не глядзеў на Рэспубліку Советаў як на самамэту. Ён заўсёды разглядаў яе як неабходнае звяно для ўзмацнення рэволюцыйнага руху ў краінах Захаду і Ўсходу, як неабходнае звяно для палегчання перамогі працоўных усяго свету над капіталам. Ленін ведаў, што толькі такое разуменне з'яўляецца правільным не толькі з пункту погляду міжнароднага, але і з пункту погляду захавання самой Рэспублікі Советаў. Ленін ведаў, што толькі такім шляхам можна ўспламяніць сэрцы працоўных усяго свету да рашучых баёў за вызваленне. Вось чаму ён, геніяльнейшы з геніяльных правадыроў пролетарыята, на другі-ж дзень пасля пролетарскай дыктатуры заклаў фундамент Інтэрнацыянала рабочых. Вось чаму ён нястомна стараўся пашыраць і ўмацоўваць саюз працоўных ўсяго свету—Комуністычны Інтэрнацыянал.

Вы бачылі за гэтыя дні паломніцтва к гробу тав. Леніна дзесяткаў і соцень тысяч працоўных. Праз некаторы час вы ўбачыце паломніцтва прадстаўнікоў мільёнаў працоўных к магіле тав. Леніна. Можаце не сумнявацца ў тым, што за прадстаўнікамі мільёнаў пацягнуцца потым прадстаўнікі дзесяткаў і соцень мільёнаў з усіх канцоў свету для таго, каб засведчыць, што Ленін быў правадыром не толькі рускага пролетарыята, не толькі еўрапейскіх рабочых, не толькі каланіяльнага Ўсходу, але і ўсяго працоўнага свету земнага шара.

Уходзячы ад нас, таварыш Ленін запаведаў нам вернасць прынцыпам Комуністычнага Інтэрнацыянала. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы не пашкадуем свайго жыцця для таго, каб умацоўваць і расшыраць саюз працоўных усяго свету—Комуністычны Інтэрнацыянал!

„Правда“ № 23,
30 студзеня 1924 г.

Н. Гікало

# Выканаем указанні вялікага Сталіна*)

— Таварышы, на гэтай нарадзе сабраліся ордэнаносцы, стаханаўцы, знатныя людзі нашай совецкай калгаснай зямлі.

Сабраліся для таго, каб разам з лепшымі людзьмі Заходняй, Чэрнігаўскай, Калінінскай абласцей, разам з урадам БССР і Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б абмеркаваць практычныя задачы, якія выцякаюць для Совецкай Беларусі з рашэння Цэнтральнага Камітэта нашай партыі і ўрада аб нячорназемнай паласе, з указанняў нашага правадыра і настаўніка таварыша **Сталіна. (Апладысменты).**

Я не буду гаварыць аб тых задачах і аб той велізарнай рабоце, якія нам прадстаяць на 1936 г. Не буду гаварыць таму, што на гэтай нарадзе былі выдатныя выступленні тт. Галадзеда, Чарвякова, Бэнэка, Картукова і, у асаблівасці, дэлегатаў—работнікаў калгасаў, брыгадзіраў, старшынь калгасаў, трактарыстаў, стаханаўцаў па рамонту трактароў, калгасніц, аграномаў, вучоных. Пасля выдатных прамоў знатных людзей калгасаў Беларусі не прыходзіцца многа гаварыць.

Каму-ж ведаць лепш, як трэба сёння працаваць у калгасе, як узняць ураджайнасць калгасных палёў, як на трактары не толькі выконваць, але і перавыконваць нормы, калі не самому старшыні калгаса, брыгадзіру, стаханаўцу-трактарысту, паляводу—знатным людзям калгасаў?

У каго-ж вучыцца нам, кіраўнікам, як лепш працаваць, як выконваць указанні таварыша **Сталіна,** калі не ў вас, рабочых, калгаснікаў, якія робяць вялікую справу соцыялістычнага будаўніцтва?

Дабівацца высокіх паказчыкаў ураджайнасці непасрэдна на полі, у калгасах і соўгасах, у брыгадах, на сваіх участках, перавыконваць нормы ў рабоце трактара, малатарні, ільнацерабілкі і іншых машынах—гэта значыць рабіць вялікую справу ўмацавання соцыялізма ў Совецкай Беларусі, на заходніх рубяжах нашага вялікага Совецкага саюза. **(Бурныя апладысменты).**

Таварышы, вас, людзей справы, якія сваімі ўласнымі рукамі дабіваюцца выдатных паказчыкаў у сельскай гаспадарцы, мы сабралі для таго, каб абмеркаваць, як выканаць указанне таварыша **Сталіна**—давесці ў бліжэйшыя 3—4 гады штогоднюю вытворчасць хлеба да 7—8 мільярдаў пудоў.

А раз таварыш **Сталін** сказаў, каб мы мелі 7—8 мільярдаў пудоў хлеба, то гэта справа, безумоўна, будзе выканана. **(Бурныя апладысменты).**

---

*) З прамовы на ўсебеларускай нарадзе перадавікоў ураджайнасці.

Таварыш **Сталін** у кожным сваім выступленні гаворыць аб тым, што ў нас стварыліся і ствараюцца людзі, якія па прадукцыйнасці працы, па ўменню працаваць, па адносінах да працы, па свайму культурнаму росту—людзі новыя, людзі комунізма. І таварыш **Сталін** вучыць нас, кіраўнікоў, як трэба гэтым людзям клапатліва і ўважліва дапамагаць, узнімаць іх, вырошчваць, ствараць абстаноўку для іх работы.

На нас, кіраўніках, ляжыць вялікая задача—дапамагчы перадавікам, знатным людзям калгасаў, стаханаўцам, дапамагчы так, як вучыць нас таварыш **Сталін.**

Майце на ўвазе, што калі мы выканаем гэта ўказанне таварыша **Сталіна,** калі дапаможам перадавым знатным людзям калгасных палёў, дапаможам стаханаўцам прамысловасці, то мы зробім адну з найвялікшых спраў.

Паглядзіце, якія выдатныя людзі выраслі і растуць у калгасах Савецкай Беларусі.

З прысутных тут 680 дэлегатаў больш паловы прэміраваны ўжо больш чым па тры разы. Значыць, гэта людзі новыя, працуюць па-новаму. Старшынь калгасаў, намеснікаў старшынь калгасаў, брыгадзіраў тут да 400 чалавек. Значыць, больш паловы прысутных—гэта людзі, якія вырашаюць справу ў калгасах.

Астатнія—гэта знатныя трактарысты і машыністы малатарань, людзі, аўладаўшыя тэхнікай, машынай. Ёсць тут стаханаўцы па рамонту трактароў. Ёсць аграномы, людзі навукі, ведаў сельскай гаспадаркі.

З 680 дэлегатаў 630 чалавек—гэта нашы беларусы. Значыць, сярод знатных людзей Беларусі па сельскай гаспадарцы велізарная большасць—гэта беларусы, якія не так даўно прыгняталіся, якіх лічылі адным з адсталых народаў, якіх оптам і ў розніцу прадавалі і польскія паны і памешчыкі, і нямецкія генералы, і ворагі беларускага народу—контррэволюцыйныя нацдэмы. А сёння з беларусаў мы маем добрых арганізатараў, знатных людзей. А сёння беларусы—гэта вялікі свабодны народ, які разам з другімі народамі Савецкага саюза пры дапамозе Чырвонай арміі вызваліўся ад усіх дармаедаў, ад усіх эксплаататараў, ад усіх памешчыкаў, паноў і цароў, якія кроў народную пілі, і робіць сваімі моцнымі пролетарскімі і калгаснымі рукамі вялікую справу будаўніцтва социялізма. **(Працяжныя апладысменты).**

Савецкая Беларусь за апошнія гады стала перадавой, ордэнаносная рэспублікай. Мы пашлі наперад таму, што нам Савецкі саюз, партыя і, у асаблівасці, асабіста таварыш **Сталін** аказалі велізарную дапамогу. **(Бурныя апладысменты).**

Мы маем у сельскай гаспадарцы некалькі тысяч трактароў, маем тысячы складанейшых машын. У 1936 годзе мы атрымліваем самыя складаныя машыны—200 камбайнаў, якіх раней Беларусь і не бачыла.

Мы маем велізарны рост нашай прамысловасці. Мы бачым сапраўдны росквіт нашай беларускай культуры, навукі, мастацтва. Выдатныя людзі выраслі і растуць. Значыць, дапамога нам аказана велізарная. Значыць, задачы, пастаўленыя на 1936 год, мы безумоўна выканаем. Трэба, каб на вялікую справу выканання ўказанняў таварыша **Сталіна** ўзнялася ўся наша калгасная Беларусь.

Таварыш **Сталін** паставіў пытанне аб тым, каб людзей берагчы,

менш перакідваць, каб людзі добра вывучалі сваю справу. А ў нас гэта ўказанне таварыша **Сталіна** яшчэ дрэнна выконваецца.

Ясна, што калі ў калгасе змяняецца па некалькі раз у год старшыня, то такі калгас дрэнна працуе. Мы гэта ў Беларусі часта бачылі.

Старшыня калгаса павінен працаваць у калгасе падрад—самае меншае 3 гады.

Старшыню калгаса без пастановы агульнага сходу калгаснікаў, як сказана ў сталінскім статуце,—а гэта непарушны закон,—ніхто не мае права знімаць. Вось тады справа будзе моцная.

Тут выступаў брыгадзір калгаса «Чырвоныя горкі», Сосніцкага сельсовета, Полацкага раёна, тав. Тачылаў, які працуе брыгадзірам у калгасе 5 год.

Значыць, чалавек па свайму калгасу, па сваёй брыгадзе ўсё ведае, усіх людзей ведае. Калі патрэбна якую работу зрабіць, то ён ведае і разлічвае, што на такую справу лепш падыдзе Сцяпан, а Іван не падыдзе, а другую справу зробіць іменна Іван.

Іменна таму ва Усціна Васільевіча Тачылава—такая бадзёрасць і ўпэўненасць, калі ён гаворыць: «Сіла наша—магутная. Мы—камандзіры сваёй зямлі. Калі разгорнутым фронтам уся мая брыгада—12 мужчын і 23 жанчыны—выйдзе на работу, дык якая зямля ні была-б, але, калі мы скажам, што яна павінна даць ураджай, яна гэты ўраджай дасць».

Правільна ён гэта сказаў. **(Апладысменты).**

Чаму тав. Тачылаў такую мае ўпэўненасць? Таму, што доўга працуе, справу ведае, людзей ведае, сілы правільна расставіў.

Вось таму мы лічым, што старшыня калгаса і брыгадзір павінен доўгі час— не менш 3 гадоў—працаваць у калгасе, каб добра ведаць гаспадарку.

Нельга цярпець такое становішча, якое было ў нас, у БССР, хоць-бы ў 1935 годзе. Ёсць раёны ў нас, у БССР, дзе старшыні калгасаў за адзін год змяніліся больш чым у палове ўсіх калгасаў гэтага раёна.

Нельга далей цярпець, калі ў паасобных раёнах—у пятай частцы ўсёй колькасці калгасаў—старшыні калгасаў мяняліся па 2—3 разы за год. Такі калгас не можа добра працаваць. Нават калі ў гэтым калгасе будуць і добрыя брыгадзіры, і калгаснікі, але не будзе кіраўніка, які ведае ўсю работу, ведае брыгады, людзей гэтых брыгад, ведае ўчасткі, насенне, машыны, коней, справа не пойдзе. А як ён можа ўсё гэта ведаць, калі ў адным калгасе 2—3 месяцы працуе, а потым у другім калгасе—некалькі месяцаў?

А вазьміце, таварышы, раён—гэта гаспадарка не маленькая. І мы лічым, што сакратар райкома партыі, старшыня райвыканкома, загадчык райземаддзела, дырэктар МТС, аграном павінны 4—5 гадоў працаваць у раёне, каб добра ведаць раён.

Таму мы рашылі, што кадры ў нас павінны быць моцныя, праверакыя, ведаючыя, авалодваючыя тэхнікай, якім мы будзем аказваць усямерную дапамогу.

Таварыш **Сталін** аддае выключную ўвагу людзям. Таварыш **Сталін** уважліва кожнага выслухоўвае і памятае кожнага калгасніка. Пасля выступлення Марыі Дземчанка на з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў таварыш **Сталін** памятаў і сачыў за тым, як яна працуе. І больш таго, украінскія таварышы расказвалі, што яны самі аб Марыі Дземчанка не ведалі. Бывала, прыедуць у Маскву і не ведаюць, што Ма-

рыя Дземчанка і яе брыгада робяць, а таварыш **Сталін** запытае: як Марыя Дземчанка працуе, ці дапамагаеце вы Марыі Дземчанка? Зразумела, украінскія таварышы зараз-жа спраўляюцца па тэлефону, пашлюць людзей, акажуць неабходную дапамогу.

Мы ўсе павінны вучыцца ў нашага роднага вялікага **Сталіна,** як патрэбна ведаць людзей і дапамагаць людзям. Дрэнны той сакратар райкома партыі, старшыня райвыканкома, дырэктар МТС, які не будзе **асабіста** ведаць знатных людзей свайго раёна, МТС, які не будзе **асабіста** ведаць лепшых работнікаў калгасаў, трактара, малатарні.

Першая ўмова—людзі павінны працаваць доўгі час, каб добра аўладаць справай. Другая ўмова—кіраўнікі павінны асабіста ведаць усіх нашых людзей, добра працуючых. Трэцяя і галоўная ўмова—мы павінны моцна дапамагаць людзям, якія працуюць па-новаму, якія даюць узоры большэвіцкай работы. Калі мы гэтыя ўмовы выканаем, калі мы будзем нашым людзям дапамагаць, як вучыць нас таварыш **Сталін,** то ўсе задачы, якія перад намі стаяць, мы не толькі выканаем, але і перавыканаем датэрмінова. **(Апладысменты).**

Наша дэлегацыя на злёце знатных людзей у Маскве заключыла дагавор на соцспаборніцтва з калгаснікамі Чэрнігаўскай абласці. Мы будзем спаборнічаць і з Заходняй, і з Калінінскай абласцю. Майце на ўвазе, што спаборнічаць нам прыдзецца не толькі з гэтымі абласцямі.

Асаблівасць 1936 года заключаецца ў тым, што ў нашым Совецкім саюзе не застаецца ні адной абласці, края, рэспублікі, якія не спаборнічалі-б па-большэвіцку. Усе па-большэвіцку хочуць працаваць. Вось у гэтым наша галоўная сіла.

І ведайце, таварышы знатныя людзі Беларусі, што нам не лёгка будзе спаборнічаць.

Совецкая Беларусь—ордэнаносная рэспубліка—стаіць у радзе перадавых краёў, абласцей і рэспублік Совецкага саюза. А вось у 1935 годзе па ільну нас абагнала Калінінская абласць, потым—Заходняя.

На злёце знатных людзей у Маскве калгаснікі і трактарысты з Калінінскай, Заходняй, Чэрнігаўскай абласцей атрымалі вышэйшую ўзнагароду—ордэн Леніна.

Глядзіце, у дэлегацыі Чэрнігаўскай абласці, якая ў нас прысутнічае, тав. Касцючэнка, трактарыстка Семёнаўскай МТС, узнагароджана ордэнам Леніна, тав. Ісачэнка—брыгадзір калгаса «Ленінскі шлях»—узнагароджан ордэнам Леніна. Мы разам з калгаснікамі, совецкімі і партыйнымі арганізацыямі Чэрнігаўскай абласці ганарымся гэтымі таварышамі. Гэта—лепшыя людзі, выдатныя людзі нашай краіны. **(Апладысменты).**

Вось у калінінскай дэлегацыі, якая прыехала да нас, таварышы Смірноў і Іваноў узнагароджаны ордэнам Леніна. **(Апладысменты).**

Значыць, у абласцях, з якімі мы будзем спаборнічаць, справа ідзе моцна і добра. Гэта патрэбна ведаць калгаснікам Совецкай Беларусі, каб яшчэ лепш працаваць і моцна па-большэвіцку спаборнічаць, не адставаць.

Мы павінны разумець, што мы спаборнічаем з большэвікамі, з людзьмі моцнага большэвіцкага слова, з трактарыстамі, з брыгадзірамі і старшынямі калгасаў—ордэнаносцамі, якія моцна рушаць справу.

І трэба добра працаваць, моцна спаборнічаць, каб у гэтым спа-

борніцтве не адстаць, а заваяваць для нашай Совецкай Беларусі першае месца. **(Апладысменты).**

Таварыш **Сталін** накіраваў нас на шлях заможнага, культурнага, цудоўнага і вясёлага жыцця. Цяпер толькі справай, толькі работай, толькі чэснымі адносінамі да працы ацэньваюць чалавека. І давайце, таварышы, даб'емся таго, каб у нашай Беларусі, у раёнах, у калгасах больш было людзей, заваяваўшых сваёй чэснай працай высокую ўзнагароду—ордэн Леніна. **(Апладысменты).**

Мы працуем на граніцы Совецкага саюза і капіталістычнага Захаду.

Мы павінны мацаваць нашы граніцы.

Таварыш **Сталін** сказаў, што чужой зямлі нам не трэба, але і сваёй зямлі, ні аднаго вяршка сваёй зямлі не аддамо нікому.

Але калі нам ворагі навяжуць вайну, то мы яе будзем весці не на нашай зямлі, а на зямлі тых, хто на нас нападзе. **(Бурныя апладысменты).**

Тав. **Молатаў** гаварыў, што позна нарадзіліся тыя капіталісты, якія думаюць на нас напасці.

Мы сталі вялікай совецкай краінай. Мы жывем заможным, культурным і радасным жыццём.

А там, у краінах капіталізма, за рубяжамі—голад і жабрацтва працоўных мас.

Паглядзіце, што піша віленскае «Слово»—буржуазная газета, якая выдаецца ў Заходняй Беларусі, аб гаспадарчым становішчы Заходняй Беларусі перад новым годам.

«Намнога горш, чым у астатняй Польшчы»,—а яны самі гавораць, што і ва ўсёй Польшчы дрэнна,—«абстаіць справа ў нас на ўсходняй акраіне, дзе прамысловыя тавары вельмі дарагія, а цэны на земляробчыя прадукты вельмі нізкія. Вось чаму грашовы расход аднаго дарослага селяніна складае тут не 11 грошаў, як падлічыў міністр Квяткоўскі для ўсёй Польшчы, а ў Заходняй Беларусі няпоўныя 4 грошы ў дзень.

На працягу апошніх пяці год значна вырасла насельніцтва ўсходніх акраін (гэта значыць Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны), аднак спажыванне не павялічылася, а наадварот—паменшылася. У рэзультаце неймавернага збяднення вёскі і вечнай пагоні за грашыма, неабходнымі для пагашэння даўгоў і падаткаў, сяляне вымушаны прадаваць неабходныя для свайго пракармлення апошнія прадукты, пакідаць на пакуты не толькі сябе, але і сваю сям'ю. Стварылася такое становішча, што на працягу раду гадоў сельская гаспадарка з'ядае ўласную прадукцыю, а калі яна вычэрпваецца, гэтыя сялянскія гаспадаркі зусім спыняюць сваё жыццё»—г. зн. даходзяць да поўнага руйнавання і жабрацтва. Гэта гаворыць буржуазная газета.

А вось што піша «Газета людова»:

«У 1930 годзе селянін купіў у растэрміноўку за 120 злотых сячкарню. Да снежня 1934 года ён выплаціў 100 злотых. Але ў гэты час у яго сячкарню забралі за падаткі.

У красавіку 1935 года гэты селянін прадаў поўморга зямлі, каб пагасіць свае даўгі, а калі прышоў у фінансавае кіраўніцтва, каб выкупіць сячкарню на атрыманыя грошы, то аказалася, што яе ўжо прадалі з таргоў. І доўг застаўся, і сячкарні няма, і поўморга зямлі няма».



Вось якое жыццё побач з нам—за граніцай, сялянскае абяздоленае жыццё.

На нашай совецкай зямлі ў гэтым годзе будуць працаваць акрамя трактароў камбайны. Мы атрымліваем тысячы складаных сельскагаспадарчых машын. А на тым баку? Ці бачыў хто-небудзь з тых, хто жыве на граніцы, хоць-бы адзін трактар або шыроказахватную ільнацерабілку на зямлі капіталістычнай, на зямлі фашысцкай? Не. Жыццё там ідзе ўніз, там ідзе збядненне і руйнаванне сялянства.

Таварыш **Сталін** правільна гаворыць: «Буржуазія можа не сумнявацца, што шматлікія прыяцелі рабочага класа СССР у Еўропе і Азіі пастараюцца ўдарыць у тыл сваім прыгнятальнікам, якія зацеялі злачынную вайну супроць радзімы рабочага класа ўсіх краін».

Абяздоленыя, прыгнечаныя, галадаючыя сяляне, якія знаходзяцца там за рубяжом,—гэта будуць нашы непасрэдныя саюзнікі. Гэта буржуазія ўбачыць на справе.

Беларускі народ, як і іншыя народы Совецкага саюза, будзе біцца на смерць за заваяванні рэволюцыі. **(Бурныя апладысменты).**

Калі нашай краінай, справай соцыялістычнага будаўніцтва, умацаваннем абароны краіны і Чырвонай арміі кіруе мудрэйшы і найвялікшы чалавек эпохі таварыш **Сталін (бурныя апладысменты),** то можна смела сказаць—наша Чырвоная армія непераможна. **(Бурныя апладысменты).**

Чырвоная армія пад вадзіцельствам сваіх маршалаў і жалезнага наркома тав. **Варашылава (апладысменты),** калі на нас нападуць, будзе біць ворагаў не на нашай зямлі, а на іх уласнай тэрыторыі. **(Бурныя апладысменты).**

Мы павінны граніцу ахоўваць, як зрэнку вока. Мы гэта абавязацельства на сябе бярэм і павінны апраўдаць яго на справе і, у першую чаргу, у нашай калгаснай вытворчасці. Тым часам мы яшчэ не ўсюды добра працуем.

І ў 1935 годзе, і ў падрыхтоўцы да 1936 года па рамонту трактароў, і па засыпцы і ачыстцы насення, і па выбарцы гаручага, і па іншых важных галінах ёсць яшчэ раёны, якія значна адстаюць. Я назаву тут гэтыя раёны. Няхай дэлегаты гэтых раёнаў, прыехаўшы на месца, скажуць раённым кіраўнікам: мы не згодны так з вамі больш працаваць. Калі вы так дрэнна будзеце кіраваць раёнам,—справа не выйдзе. Мы—знатныя людзі, а чаму наш раён не знатны, а адстаючы?

Вазьміце **Асвейскі** раён, які адставаў па веснавой сяўбе, па ўборцы ўраджаю, па загатоўцы хлеба і бульбы, па азімай сяўбе. Загатовак лёну гэты раён поўнасцю не выканаў, засыпку насення не скончыў, рамонт трактароў праходзіць дрэнна.

Вось **Расонскі, Нараўлянскі, Мсціслаўскі, Петрыкаўскі, Дзержынскі, Капаткевіцкі, Жыткавіцкі, Лагойскі** і **Лепельскі** раёны—адстаючыя раёны. А гэтыя раёны маюць вялікае значэнне.

Пара ўжо гэтым раёнам падцягнуцца!

1936 год у рабоце па сельскай гаспадарцы павінен прайсці пад лозунгам—**ні аднаго адстаючага раёна ў БССР.**

Выконваючы ўказанні таварыша **Сталіна,** мы, правёўшы праверку партыйных дакументаў, рады нашай партыйнай арганізацыі—КП(б)Б моцна ачысцілі. Мы працуем на граніцы, і вораг, каб шкодзіць нам, імкнецца пралезці ў рады нашай партыі. Карыстаючыся тым, што была ў нашых партыйных арганізацыях расхлябанасць і арганізацыйная распушчанасць, што не было ў радзе месц большэвіцкай

пільнасці, парушаўся статут партыі, ворагі пралезлі ў рады нашых партыйных арганізацый.

І мы можам цяпер сказаць вам, лепшым людзям калгаснай Беларусі, што наша КП(б)Б ачысцілася ад ворагаў, што наша КП(б)Б— гэта моцная большэвіцкая арганізацыя, якая павядзе ўпэўнена беларускі народ да новых перамог пад вялікім сцягам **Леніна—Сталіна. (Бурныя апладысменты).**

Мы добра ведаем,—і гэта зараз пацвярджаецца зноў знойдзенымі дакументамі,—што таварыш **Сталін** яшчэ ў 1917 годзе, у гады грамадзянскай вайны, у гады нямецкай і белапольскай акупацый разам з таварышом **Леніным** непасрэдна кіраваў барацьбой Чырвонай арміі і беларускага народу супроць прыгнятальнікаў.

Таварыш **Сталін** неаднаразова ўказваў, што трэба дапамагчы беларускім работнікам, трэба дапамагчы беларускаму народу.

Беларускі народ добра ведае, што таварыш **Сталін** з'яўляецца ініцыятарам стварэння Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. **(Бурныя апладысменты).**

Большэвікі, рабочыя і калгаснікі Совецкай Беларусі апраўдаюць сваёй гераічнай работай любоў, клопаты і дапамогу нашага вялікага роднага **Сталіна** і будуць вернымі да канца справе пролетарскага інтэрнацыяналізма і вялікаму вучэнню **Леніна—Сталіна. (Бурныя апладысменты, пераходзячыя ў авацыю. Усе ўстаюць. Крыкі: «Няхай жыве ленінская партыя! Няхай жыве наш правадыр таварыш Сталін!»).**

---

# За ленінска-сталінскія кадры

*К 12-й гадавіне са дня смерці Леніна*

У жалобныя ленінскія дні комуністы ўсіх краін з асаблівай уважлівасцю правяраюць пройдзены імі шлях, правяраюць, як ішла барацьба за справу **Леніна,** якія новыя пытанні паўсталі перад пралетарыятам і як гэтыя пытанні, кіруючыся вучэннем **Леніна—Сталіна,** трэба вырашаць.

Адным з такіх рашаючых пытанняў на сучаснай ступені развіцця сусветнага рабочага руху ў 12-ю гадавіну смерці геніяльнага праваднра і настаўніка сусветнага пралетарыята з'яўляецца пытанне аб кадрах комуністычных партый.

**Ленін** стварыў **партыю новага тыпу,** адметную ад усіх партый II Інтэрнацыянала, партыю, узброеную адзінай сапраўды навуковай тэорыяй марксізма-ленінізма, партыю, якая з'яўляецца перадавым атрадам рабочага класа. **Ленін** вучыў, што не можа быць створана, не можа расці і развівацца партыя, не можа ажыццяўляцца масавая большэвіцкая палітыка без арганізацыі лепшых людзей рабочага класа. без стварэння кадраў пралетарскіх рэволюцыянераў, якія выкоўваюцца ў масавай рэволюцыйнай барацьбе, кадраў, якія тысячамі ніцяў звязаны з масамі на прадпрыемствах, у масавых арганізацыях і т. д.

Вырошчванне, умацаванне, правільная расстаноўка рэволюцыйных кадраў—важнейшая ўмова пераможнай барацьбы пралетарыята. Ад іх ідэйна-палітычнай стойкасці, ад іх умення дзейнічаць як сапраўдныя большэвікі і ў будні работы і ў момант крутых змен абстаноўкі, ад іх умення згуртаваць вакол сябе мільённыя масы і павесці іх у бой залежыць ператварэнне рэальнай магчымасці пераможнай пралетарскай рэволюцыі ў рэчаіснасць.

* * *

Гістарычная паласа, якая адкрываецца перад сусветным комуністычным рухам, прад'яўляе да компартый новыя, больш высокія патрабаванні: ад комуністаў патрабуецца велізарнейшая рэволюцыйная актыўнасць, ініцыятыва і смеласць у ажыццяўленні масавай большэвіцкай палітыкі, нястомная барацьба за ўстанаўленне адзінства дзеянняў рабочага класа, гэтага **рашаючага** звяна падрыхтоўкі працоўных мас да вялікіх баёў за сваё вызваленне.

Новая тактычная арыентыроўка, прынятая VII кангрэсам Комінтэрна, патрабуе і новых метадаў работы і барацьбы, а таксама **асаблівых якасцей** у тых людзей, якія рашылі афяраваць свае жыццё і свае сілы справе рэволюцыі, справе барацьбы за комунізм.

Важнейшай задачай усіх секцый Комінтэрна зараз з'яўляецца барацьба за выкоўванне ў саміх секцыях такіх партыйных кадраў, якія маглі-б у спецыфічных абставінах данай краіны працаваць па-новаму, кіраваць на сваім участку па-новаму. Якімі-ж павінны быць гэтыя кадры, дзе іх знайсці, як іх падрыхтаваць, як іх выкарыстаць, як дапамагчы ім расці—вось вострыя пытанні практычнай барацьбы, на якія павінна даць адказы наша **палітыка кадраў**. У розных краінах—розныя адказы ў залежнасці ад розных этапаў развіцця рэвалюцыйнага руху, узроўню развіцця самой компартыі, сілы ўплыву рэфармізма, традыцый рабочага руху і, безумоўна, у залежнасці ад агульнай эканамічнай і палітычнай абстаноўкі ў краіне.

Але ёсць і агульныя для ўсіх секцый Комінтэрна задачы партыйнай палітыкі кадраў, якія базіруюцца на багацейшым вопыце бальшэвікоў, памножаным на вопыт міжнароднага комуністычнага руху. Ні ў адной краіне, пісаў **Ленін**, «не было перажыта нават прыблізна так многа ў сэнсе рэволюцыйнага вопыту, шпаркасці і разнастайнасці змены розных форм руху, легальнага і нелегальнага, мірнага і бурнага, падпольнага і адкрытага, гурткавога і масавага, парламенцкага і тэрарыстычнага». Ні ў адной краіне, працягваў **Ленін**, «не было сканцэнтравана на такім кароткім прамежку часу такога багацця форм, адценняў, метадаў барацьбы **ўсіх** класаў сучаснага грамадства...» *). Таму **ведаць** асноўнае ў вопыце рускіх большэвікоў, **здолець правільна** выкарыстаць гэты вопыт—значыць знайсці важнейшыя прадпасылкі правільнай палітыкі кадраў у кожнай секцыі Комінтэрна.

**Ленін** як правадыр партыі, у якіх-бы умовах ён сам ні знаходзіўся: на легальным або нелегальным становішчы, у ссылцы, у эміграцыі або на пасту старшыні Соўнаркома,—заўсёды адным з першых сваіх абавязкаў лічыў непасрэдна, асабіста займацца падборам, выхаваннем, расстаноўкай кадраў. Гэта-ж з'яўляецца характэрнаю рысай штодзеннай партыйна-палітычнай, дзяржаўнай, гаспадарчай, ваеннай работы таварыша **Сталіна**, які ніколі не пераставаў і не перастае непасрэдна, асабіста займацца пытаннямі кадраў партыі. **Ленін** і **Сталін** як сапраўдныя правадыры большэвізма з велізарнейшай пагардай адносіліся да розных меншавіцкіх і трацкісцкіх «правадыроў», якія, лічачы сябе «чыстымі палітыкамі», як вядома, па-панску, зняважліва, падыходзілі да клапатлівай штодзеннай работы ў галіне арганізацыйных пытанняў, у прыватнасці да пытання аб кадрах.

Яшчэ задоўга да рэволюцыі, у самыя цяжкія перыяды царскага падполля, **Ленін**, распрацоўваючы шляхі і метады рэволюцыйнай барацьбы, усямерна падкрэсліваў рашаючае значэнне праблемы кадраў.

> «Супроць нас, супроць маленькіх груп соцыялістаў, якія туляюцца па шырокаму рускаму «падполлю», стаіць гіганцкі механізм магутнейшай сучаснай дзяржавы, якая напружвае ўсе сілы, каб задавіць соцыялізм і дэмакратыю» **).

У гэтых умовах **Ленін** пачаў выкоўваць большэвіцкія арганізацыі. Ён уважліва, ва ўсіх падрабязнасцях распрацоўваў спосабы стварэння рэволюцыйных арганізацый і **рашаючае месца ўдзяляў пытанням кадраў, канспірацыі, дысцыпліны.** Ленін пісаў:

> «Без узмацнення і развіцця рэволюцыйнай дысцыпліны, арганізацыі і канспірацыі немагчыма барацьба з урадам. А канспіра-

*) бор твор., т. XXV, стар. 175.
**) Збор твор., т. II, стар. 501.

цыя перш за ўсё патрабуе спецыялізацыі паасобных гурткоў і асоб, на паасобных функцыях работы і прадастаўлення яднаючай ролі самаму нязначнаму па ліку членаў цэнтральнаму ядру «Саюза барацьбы». Паасобныя функцыі рэволюцыйнай работы бясконца разнастайны: патрэбны агітатары легальныя, якія ўмеюць гаварыць сярод рабочых так, каб іх **нельга было** прыцягнуць к суду за гэта, умеюць гаварыць толькі *a*, прадастаўляючы іншым сказаць *b* і *c*. Патрэбны распаўсюджвальнікі літаратуры, лісткоў. Патрэбны арганізатары рабочых гурткоў і груп. Патрэбны карэспандэнты з усіх фабрык і заводаў, дастаўляючыя звесткі аб усіх здарэннях. Патрэбны людзі, якія-б сачылі за шпіёнамі і правакатарамі. Патрэбны ўстраіцелі канспірацыйных кватэр. Патрэбны людзі для перадачы літаратуры, для перадачы даручэнняў, для зносін усякага роду. Патрэбны зборшчыкі грошай. Патрэбны агенты ў асяроддзі інтэлігенцыі і чыноўніцтва, сутыкаючыся з рабочымі, з фабрычна-заводскім бытам, з адміністрацыяй (з паліцыяй, фабрычнай інспекцыяй і т. д.). Патрэбны людзі для зносін з рознымі гарадамі Расіі і іншых краін. Патрэбны людзі для ўстройства розных спосабаў механічнага ўзнаўлення ўсякай літаратуры. Патрэбны людзі для хавання літаратуры і іншых рэчаў і т. д. і т. д. Чым драбней, мяльчэй будзе тая справа, якую возьме на сябе паасобны чалавек або паасобная група,—тым больш шансаў, што яму ўдасца абдумана паставіць гэтую справу і найбольш гарантаваць яе ад краху, абгаварыць усе канспірацыйныя прызатнасці, прымяніўшы ўсемагчымыя спосабы ашукаць пільнасць жандараў і ўвесці іх у заблуканне, тым больш надзейны поспех справы, тым труднэй для паліцыі і жандараў прасачыць рэволюцыянера і сувязь яго з арганізацыяй, тым лягчэй будзе для рэволюцыйнай партыі замяняць загінуўшых агентаў і членаў іншымі без ушчэрбу для ўсёй справы» *).

**Ленін** неаднаразова на разнастайных этапах развіцця рэволюцыйнага руху вельмі падрабязна ставіў усе пытанні стварэння і выхавання кадраў: аб спецыялізацыі рэволюцыйнай работы, аб раздрабленні функцый і аб падборы людзей па спецыяльных работах, аб падборы і выхаванні людзей, якія цалкам авалодваюць паасобнымі гэтымі функцыямі і забяспечваюць строгую канспірацыю і дысцыпліну.

Выхоўваючы і вырошчваючы кадры рэволюцыянераў, кіруючы паасобнымі рэволюцыйнымі гурткамі, уважліва распрацоўваючы формы і метады рэволюцыйнай барацьбы ва ўмовах паліцэйскага тэрора і варварскіх ганенняў, **Ленін** распрацаваў план стварэння будучай вялікай партыі, ВКП(б), партыі новага тыпу. І тут на першае месца **Ленін** высунуў праблему кадраў і спецыяльна пытанне аб прафесіянальных рэволюцыянерах.

«І вось я сцвярджаю:—пісаў Ленін,—1) што ні адзін рэволюцыйны рух не можа быць трывалым без устойлівай і хаваючай пераемнасць арганізацыі кіраўнікоў; 2) што чым шырэй маса, якая стыхійна ўцягваецца ў барацьбу, складае базіс руху і прымае ўдзел у ім, тым настойлівей неабходнасць у такой арганізацыі і тым трывалей павінна быць гэта арганізацыя (бо тым

*) Збор твор., т. II, стар. 189.

лягчэй усякім дэмагогам захапіць неразвітыя слаі мас); 3) што такая арганізацыя павінна складацца галоўным чынам з людзей, якія прафесіянальна займаюцца рэволюцыйнай дзейнасцю; 4) што ў самадзяржаўнай краіне, чым больш мы **звузім** склад членаў такой арганізацыі да ўдзелу ў ёй такіх толькі членаў, якія прафесіянальна займаюцца рэволюцыйнай дзейнасцю і атрымалі прафесіянальную падрыхтоўку ў майстэрстве барацьбы з палітычнай паліцыяй, тым трудней будзе «вылавіць» такую арганізацыю, і—5)—тым **шырэй** будзе склад асоб і з рабочага класа і з астатніх класаў грамадства, якія будуць мець магчымасць удзельнічаць у руху і актыўна працаваць у ім» *).

Асноўную крыніцу для вярбоўкі партыйных кадраў ён бачыў у рабочым класе. Асноўнай задачай прафесіянальных рэволюцыянераў ён лічыў сістэматычную работу з перадавікамі-рабочымі па іх ідэйна-палітычнаму выхаванню, па ўздыму іх да ўзроўню прафесіянальных рэволюцыянераў.

**Ленін** жорстка высмейваў і бічаваў тых з практыкаў, якія былі раўнадушны і нядбайны да рэволюцыйнай тэорыі, імкнуліся ў сваёй дзейнасці не к таму, каб узняць масы да ўзроўню авангарда, а самі апускаліся да ўзроўню несвядомых і неарганізаваных. У адносінах такіх дзяльцоў Ленін указаў, што яны звычайна складаюць рэзервы для апартуністычных хістанняў у рабочым руху.

Па меры росту рэволюцыйнага руху, па меры пашырэння сеткі партыйных арганізацый пытанне аб кадрах набывала ўсё больш актуальнае значэнне.

**Ленін** бязлітасна высмейваў тых «арганізатараў», якія скардзіліся на няхватку работнікаў, якія праблему кадраў лічылі невырашальнай, і вучыў, як трэба шукаць і вылучаць новых работнікаў з гушчы рабочай масы.

**Ленін**, геніяльны стратэг рэволюцыі, у абстаноўцы бурнага нарастання рэволюцыйнага руху 1905 г. пісаў:

> «Я-б раіў прама расстрэльваць на месцы тых, хто дазваляе сабе гаварыць, што людзей няма. У Расіі людзей цьма, трэба толькі шырэй і смялей, смялей і шырэй, яшчэ раз шырэй і яшчэ раз смялей вербаваць моладзь... Трэба з адчайнай хуткасцю яднаць і пускаць у ход усіх рэволюцыйна-ініцыятыўных людзей. Не бойцеся іх непадрыхтаванасці, не дрыжыце з повбаду іх нявопытнасці і няразвітасці» **).

У сакавіку 1905 г. у артыкуле «Новыя задачы і новыя сілы» **Ленін** пісаў:

> «Рэволюцыйная эпоха для соцыял-дэмакратыі ўсёроўна, што ваенны час для арміі. Трэба пашыраць кадры нашай арміі, пераводзіць яе з мірных кантынгентаў на ваенныя, мабілізаваць запасных і рэзервных, заклікаць пад сцягі атрымаўшых водпуск, наладжваць новыя дапаможныя карпусы, атрады і службы. Трэба не забываць, што на вайне немінуча і неабходна папаўняць свае рады менш падрыхтаванымі рэкрутамі, замяняць скрозь ды ўсюды афіцэраў простымі салдатамі, паскараць і спрашчаць вылучэнне салдат у афіцэры» ***).

---

*) Збор тв. т. IV, стар. 456.
**) Збор тв. т. VII, стар. 102.
***) Збор тв., т. VII, стар. 148.

Важна не толькі ўмець збіраць масы на барацьбу ў момант агульнага рэволюцыйнага ўздыму: не менш, калі не больш важна, **умець адступаць**. Пасля рэволюцыі 1905 г. «з усіх разбітых апазіцыйных і рэволюцыйных партый большэвікі адступілі ў найбольшым парадку...» **(Ленін)**. Гэта тлумачылася загартаванасцю большэвіцкіх кадраў, іх непрымірымасцю да «рэволюцыйнай фразы», іх здольнасцю нават у самых трудных умовах рэакцыі і тэрора весці рэволюцыйную работу, выкарыстоўваючы ўсе легальныя магчымасці.

**Трэба біцца за стварэнне такіх кадраў, якія не ўпадаюць у паніку пасля паражэння і якія могуць навучыцца працаваць на карысць рэволюцыі, нават ва ўмовах самай цёмнай рэакцыі,** сапраўды працаваць, а не балбатаць, прыбіраючыся ва «ультрарэволюцыйныя» вопраткі, аб «нежаданні дапамагаць фашыстам» або аб «нежаданні дапамагаць рэакцыйным соцыял-дэмакратам», г. зн. выступаць у ролі «наглядальнікаў і рэгістратараў набягаючых хваль у чаканні добрага надвор'я», аб якіх так ярка і маляўніча гаварыў т. Дзімітраў на VII кангрэсе Комінтэрна. Трэба вырасціць такія кадры, якія ўмеюць беззаветна наступаць у рашаючыя моманты і якія ўмеюць, калі гэта патрэбна, адступаць у парадку, захоўваючы сувязі з масамі, захоўваючы ўпэўненасць у надыходзячай перамозе, навучаючыся працаваць у самых цяжкіх умовах, гібка прыстасоўваючы метады работы да абстаноўкі, якая змяняецца, і ўвесь час да канца застаюцца адданымі адной мэце, адной справе—справе рэволюцыі.

* * *

На якія неабходныя якасці кадраў указваў Ленін перад Окцябрскім паўстаннем? Кульмінацыйным-жа пунктам барацьбы за захоп улады з'яўляецца ўзброенае паўстанне. Натуральна, што гэты найбольш востры момант з'яўляецца вышэйшай праверкай усёй папярэдняй работы компартыі і якасці яе кадраў. Перад Окцябрскім паўстаннем, падкрэсліваючы, што трэба адносіцца да паўстання як да майстэрства, **Ленін** пісаў:

> «Вылучыць **самыя рашучыя** элементы (нашых «ударнікаў» і **рабочую моладзь**, а роўна лепшых матросаў) у невялікія атрады для заняцця імі ўсіх важнейшых пунктаў і **для ўдзелу** іх паўсюды, ва ўсіх важных аперацыях, напрыклад:
>
> Абкружыць і адрэзаць Піцер, узяць яго камбінаванай атакай флота, рабочых і войска,—такая задача, якая патрабуе **майстэрства і патройнай смеласці.**
>
> Скласці атрады найлепшых рабочых са стрэльбамі і бомбамі для наступлення і акружэння «цэнтраў» ворага (юнкерскія школы, тэлеграф і тэлефон і іншае) з лозунгам: **загінуць усім, але не прапусціць непрыяцеля»** *).

Такія неабходныя якасці кадраў. Гэтыя патрабаванні адносяцца і к масам, якія прымаюць удзел у паўстанні, і ўдзесяцера больш—да кіруючых кадраў. Але ад кіраўнікоў **Ленін** патрабаваў яшчэ большага. Перш за ўсё—**умення падпарадкаваць усё рашэнню галоўнай задачы, поспеху паўстання. Далей, умення намеціць «спрыяючы момант і мэтазгодныя спосабы наступлення».** А для гэтага кіраўнікі павінны ў поўнай меры **ўладаць метадам марксізма-ленінізма,** умець

*) Збор тв., т. XXI, стар. 320.

**даць** на гэтай аснове **вычарпальны палітычны аналіз абстаноўкі:** міжнароднага становішча, расстаноўкі сіл унутры краіны, падліку сіл праціўніка і ўласных, пунктаў паўстання, магчымасці забяспечыць нейтралітэт хістаючыхся слаёў і т. д.

Асобае значэнне ў гэтых умовах набывае задача правільнай **расстаноўкі** кадраў, і тут з асобаю сілай сказваецца неабходнасць **спецыялізацыі** кадраў на вырашэнні строга вызначаных задач. Знайсці правільнае спалучэнне масавай ініцыятывы са строга вызначаным планам барацьбы—у гэтым і заключаецца майстэрства кіраўніка паўстання, паколькі гэта паўстанне наспела.

Агромнае значэнне надавала большэвіцкая партыя рабоце ўнутры ўзброеных сіл ворага. Кадры, якія партыя кідае на гэту, асоба адказную работу, павінны ўладаць многімі дадатковымі якасцямі: таварышы, якія працуюць у гэтай абстаноўцы, павінны вырашыць па крайняй меры дзве задачы: мінімум—не даць выступіць узброенай часці супроць паўстаўшых, максімум—перацягнуць яе на свой бок. Яны павінны як ніхто **ўмець разумець настрой салдацкіх мас:** ад іх работы, ад іх умення праявіць ініцыятыву і звязаць партыю з масамі, правільна ацаніць суадносіны сіл будзе залежаць вельмі многае.

Зараз-жа пасля пераможнага Окцябра трэба было працаваць над стварэннем такіх кадраў большэвікоў, якія здолелі-б весці за сабой масы ў абарону дыктатуры пролетарыята. Тады і ў паследуючы перыяд грамадзянскай вайны ленінска-сталінская барацьба за кадры азначала барацьбу за выратаванне дыктатуры пролетарыята, барацьбу за яе ўсталенне, умацаванне. Пасля сканчэння грамадзянскай вайны, ва ўмовах голаду і развалу ўсёй народнай гаспадаркі, трэба было скалачваць кадры, здольныя самаадданна змагацца за ўзнаўленне гаспадаркі краіны, за ўмацаванне партыі, за ўмацаванне совецкіх органаў. У той перыяд трэба было скалачваць кадры большэвікоў, якія не бянтэжацца перад нечуванымі труднасцямі, здолелі зразумець сэнс і значэнне вялікага ленінскага павароту ад «ваеннага комунізма» к нэпу.

На XI з'ездзе партыі, у 1922 г., **Ленін** гаварыў:

> «У сувязі з нэпам у нас прымаюцца вазіцца, перарабляць установы, засноўваць новыя ўстановы. Гэта—шкаднейшая балбатня. Мы прышлі к таму, што гвозд становішча—у людзях, у падборы людзей» *).

**Сталін** наступнымі словамі вызначаў патрэбны краіне тып правадыра-арганізатара:

> «Што значыць быць правадыром-арганізатарам у нашых умовах, калі ва ўлады стаіць пролетарыят? Гэта не значыць падабраць памочнікаў, скласці канцэлярыю і даваць праз яе распараджэнні. Быць правадыром-арганізатарам у нашых умовах—гэта значыць, па-першае, ведаць работнікаў, умець схватваць іх годнасці і недахопы, умець падыйсці да работнікаў, па-другое, умець расставіць работнікаў так:
> 1) каб кожны работнік адчуваў сябе на месцы;
> 2) каб кожны работнік мог даць рэволюцыі максімум таго, што наогул здольны ён даць па сваіх асабістых якасцях;

*) Збор. твор., т. XXVII, стар. 255.



3) каб такога роду расстаноўка работнікаў дала ў сваім выніку не перабоі, а ўзгодненасць, адзінства, агульны ўздым работы ў цэлым;

4) каб агульны напрамак арганізаванай такім чынам работы служыў выражэннем і ажыццяўленнем той палітычнай ідэі, у імя якой праводзіцца расстаноўка работнікаў па пастах» *).

Пасля смерці **Леніна** пачынаецца новая паласа развіцця рэвалюцыі, паласа, якая патрабуе мабілізацыі і напружання ўсіх сіл для перамагання каласальных труднасцей. Абвастраючаяся класавая барацьба ў краіне знаходзіць сваё адлюстраванне ў партыі і ў рабочым класе. Агентура класавых ворагаў унутры партыі спрабавала рэвізаваць ленінізм, спрабавала раскалоць бальшэвіцкую партыю і звярнуць яе з ленінска-сталінскага шляху на шлях капітуляцыі перад груднасцямі, на шлях рэстаўрацыі капіталізма. ВКП(б) пад кіраўніцтвам **Сталіна,** вялікага саратніка Леніна, разграміла контррэвалюцыянераў трацкістаў-зіноўеўцаў, правых і «левых» капітулянтаў. У гэтай барацьбе **Сталін,** верны вучэнню, традыцыям Леніна, скалаціў кадры, выхаваў іх у духу вернасці заветам Ільіча.

У гэты перыяд барацьба за кадры азначала барацьбу за адзінства партыі, за ленінізм, за будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне, супроць апартунізма, здрадніцтва, капітулянцтва. Тав. **Сталін,** успамінаючы гэты перыяд барацьбы, гаварыў:

> «Неабходна было пагэтаму ўзброіцца моцнымі нервамі, бальшэвіцкай вытрымкай і ўпартай цярплівасцю, каб перамагчы першыя няўдачы і няўхільна ісці наперад да вялікай мэты, не дапускаючы хістанняў і няўпэўненасці ў сваіх радах» **).

Апартуністы і капітулянты

> «... не заўсёды абмяжоўваліся крытыкай і пасіўным супраціўленнем. Яны пагражалі нам узняццем паўстання ў партыі супроць Цэнтральнага Камітэта. Больш таго: яны пагражалі сяму-таму з нас кулямі. Відавочна яны разлічвалі застрашыць нас і прымусіць нас звярнуць з ленінскага шляху. Гэтыя людзі, відавочна, забыліся, што мы, бальшэвікі,—людзі асобага пакрою. Яны забылі, што бальшэвікоў не застрашыш ні труднасцямі, ні пагрозамі. Яны забылі, што нас каваў вялікі Ленін, наш правадыр, наш настаўнік, наш бацька, які не ведаў і не прызнаваў страху ў барацьбе. Яны забылі, што чым сільней шалеюць ворагі і чым больш упадаюць у істэрыку праціўнікі ўнутры партыі, тым больш накаляюцца бальшэвікі для новай барацьбы і тым імклівей рухаюцца яны наперад» ***).

Пад кіраўніцтвам **Сталіна** партыя дасягнула сусветнагістарычных перамог: яна ператварыла бедную, разбураную, тэхнічна немачную і некультурную краіну ў краіну магутную, у краіну індустрыяльную, краіну перамогшага соцыялізма. К 12 гадавіне справа **Леніна**—соцыялізм—перамог у СССР канчаткова і беспаваротна. Наступіў момант, калі для ўсіх стала відавочнай перамога, трыумф генеральнай лініі ВКП(б) па індустрыялізацыі і калектывізацыі, па пабудове бяскласа-

*) „Пролетарская революция" № 11 за лістапад 1924 года. Арт. **Сталіна** „Аб Я. М. Свердлове". Гл. таксама „Правду" ад 16 сакавіка 1934 года.

**) Прамова т. **Сталіна** на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі 4 мая 1935 года.

***) Там-жа.

вага грамадства. Іменна ў гэты момант зноў раздаўся голас вялікага **Сталіна** аб людзях, аб кадрах.

Сталін гаварыў:

> «... упор павінен быць зроблен цяпер на людзях, на кадрах, на работніках, ауладаўшых тэхнікай. Вось чаму стары лозунг—«тэхніка вырашае ўсё» з'яўляецца адлюстраваннем ужо пройдзенага перыяду, калі ў нас быў голад у галіне тэхнікі,—павінен быць цяпер заменен новым лозунгам, лозунгам аб тым, што «кадры вырашаюць усё». У гэтым цяпер галоўнае» *).

Сталінская пастаноўка пытання аб большэвіках, партыйных і непартыйных, стала магутным стымулам вырошчвання новых мільёнаў будаўнікоў соцыялізма. Сталінская клапатлівасць аб людзях, яго ўстаноўка на неабходнасць беражлівых і ўважлівых адносін да кожнага работніка, яго ўказанні аб тым, што людзей «трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае пладовае дрэва», сталінскі баявы лозунг **«Кадры вырашаюць усё»**—сталі баявой праграмай усёй партыі, усёй краіны. У сучасны момант магутнае развіццё стаханаўскага руху з'яўляецца лепшым адказам на заклік правадыра, практычным ажыццяўленнем гэтых установак вялікага **Сталіна.**

* * *

На ўсім працягу гісторыі большэвізма праблема кадраў была важнейшай праблемай. Ажыццяўляючы ленінска-сталінскую кадравую палітыку, кадравую работу, большэвізм перамог. І ў сучасны момант у цэнтры ўвагі большэвікоў стаіць праблема кадраў. Большэвізм, ачышчаючы свае рады ад класава-чуждых, антыпартыйных, разлажыўшыхся, бюракратычных і шпіёнскіх элементаў, узнімаючы рэволюцыйную пільнасць,—гэтым самым умацоўвае перш за ўсё свае кадры.

Задача ўсіх компартый—зучыцца ў большэвікоў гэтай безупыннай, нястомнай рабоце з кадрамі. Задача ўсіх компартый—зразумець, засвоіць ленінска-сталінскую пастаноўку пытання аб ролі і значэнні кадраў у партыі і ў рабочым руху, зразумець і засвоіць ленінска-сталінскія метады работы з кадрамі. Без усякага пераўвелічэння можна канстатаваць, што для ўсіх секцый Комінтэрна найбольш уражальнае месца—гэта работа з кадрамі. Для раду секцый Комінтэрна слабасць работы па вырошчванню, падрыхтоўцы і падбору кадраў, недачоты і памылкі ў гэтай галіне, няправільная палітыка кадраў сталі галоўнейшым тормазам у іх развіцці. Буржуазныя, фашысцкія ворагі комуністычных партый, дасканала разумеючы рашаючую ролю кадраў і слабасць компартый іменна ў гэтай галіне, не шкадуюць сіл і сродкаў для выкарыстання гэтай слабасці. Паслядоўна ажыццяўляючы сістэму крывавага тэрору і фізічнага знішчэння лепшых кадраў партыі, буржуазныя і фашысцкія ўрады адначасова не шкадуюць сродкаў для аблытвання рэволюцыйнага руху сеткай шпіёнаў і правакатараў. У гэтых умовах рашаючай задачай секцый Комінтэрна з'яўляецца павышэнне рэволюцыйнай пільнасці і ў гэтым духу выхаванне, падбор, правільная расстаноўка кадраў.

З трыбуны VII кангрэса Комінтэрна т. Дзімітраў, саратнік вялікага **Сталіна,** заклікаў комуністычныя партыі сканцэнтраваць сваю ўвагу на праблеме кадраў.

*) Прамова т. **Сталіна** на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі 4 мая 1935 года.

Тав. Дзімітраў, выходзячы з вопыту большэвізма, даў падрабязны аналіз правільнай палітыкі кадраў. Ён падкрэсліў неабходнасць сапраўднага ведання людзей з боку кіруючых работнікаў і органаў партыі. Ён падкрэсліў агромнае значэнне умелага, правільнага выкарыстання кадраў і правільнай іх расстаноўкі. Тав. Дзімітраў гаварыў аб неабходнасці сістэматычнай дапамогі кадрам, клопату аб кадрах, уменні берагчы і захоўваць кадры. Тав. Дзімітраў даў галоўныя крытэрыі для кіраўніцтва ў падборы кадраў.

«Якім **асноўным крытэрыем**,—гаворыць тав. Дзімітраў,—павінны мы кіравацца пры падборы кадраў?

Першае: **найглыбейшая адданасць** справе рабочага класа, **вернасць партыі**, праверaная ў баях, у турмах, на судзе—перад тварам класавага ворага.

Другое: цяснейшая **звязанасць з масамі**—жыць інтарэсамі мас, адчуваць пульс жыцця мас, іх настроі і запатрабаванні. Аўтарытэт кіраўнікоў нашых партыйных арганізацый павінен быць перш за ўсё заснаваны на тым, што маса бачыць у іх сваіх важакоў, пераконваецца на ўласным вопыце ў іх здольнасці быць кіраўнікамі, у іх рашучасці і самаадданасці ў барацьбе.

Трэцяе: уменне **самастойна арыентавацца ў абстаноўцы** і не баяцца **адказнасці за рашэнні.** Не той кіраўнік, хто баіцца браць на сябе адказнасць. Не той большэвік, хто не ўмее праяўляць ініцыятыву, хто разважае—«выканаю толькі тое, што мне скажуць». Толькі той сапраўдны большэвіцкі кіраўнік, хто не губляе галаву ў моманты паражэння, не зазнаецца ў моманты поспеху, хто праяўляе несакрушальную цвёрдасць у правядзенні рашэнняў. Лепш за ўсё кадры развіваюцца і растуць тады, калі яны ставяцца перад неабходнасцю самастойна вырашаць канкрэтныя задачы барацьбы і адчуваюць на сябе ўсю адказнасць за гэта.

Чацвертае: **дысцыплінаванасць і большэвіцкая** загартоўка як у барацьбе супроць класавага ворага, так і ў непрымірымасці да ўсіх ухілаў ад лініі большэвізма.

Мы павінны, таварышы, тым сільней падкрэсліваць неабходнасць гэтых умоў правільнага падбору кадраў, таму што на практыцы вельмі часта аддаецца перавага такому таварышу, які, напрыклад, умее літаратурна пісаць, прыгожа гаварыць, але не з'яўляецца чалавекам справы і не здатны для барацьбы, перад другім таварышом, які, быць можа, не так добра ўмее пісаць і выступаць, але з'яўляецца стойкім, ініцыятыўным, звязаным з масамі, здольным ісці ў бой і весці іншых на барацьбу. **(Апладысменты).** Ці мала выпадкаў, калі сектант, дактрынёр, рэзанёр выцясняе адданага масавіка, сапраўднага рабочага важака?

Нашы кіруючыя кадры павінны спалучаць веданне таго, што ім трэба рабіць, з **большэвіцкай вытрымкай і рэволюцыйным характарам і воляй для правядзення гэтага ў жыццё»** *).

Асноўныя звенні партыі павінны мець кадры, якія, як вучыць вопыт ВКП(б) і як указаў тав. Дзімітраў, цяснейшым чынам звязаны з масамі, жывуць інтарэсамі мас, адчуваюць пульс жыцця мас, іх на-

*) **Г. Дзімітраў.** „Наступленне фашызма і задачы Комуністычнага інтэрнацыянала ў барацьбе за адзінства рабочага класа супроць фашызма", стар. 118—119. Партвыдат, 1935.

строі і запатрабаванні. Толькі такіх людзей і належыць высоўваць, падбіраць, у гэтым духу трэба выхоўваць старых актывістаў.

Людзей трэба правяраць у рабоце і ў баях; іх трэба вылучаць на адказную работу ў залежнасці ад таго, як яны сябе паказалі на практычнай штодзеннай рабоце ў масах, пры перамаганні труднасцей і асабліва ў вострыя моманты барацьбы. Лепшай праверкай комуніста з'яўляецца яго актыўная барацьба разам з масамі і на чале мас у легальных і нелегальных умовах, яго паводзіны ў час забастоўкі, пры масавых выступленнях, у турме, на працэсах перад класавым судом і т. д. **Лепшая школа для праверкі, падрыхтоўкі і выхавання комуніста-актывіста—практычная работа і барацьба!**

Мы за апошні час маем у компартыях прыклады вылучэння, якія далі добрыя вынікі. Нізавога работніка, які ў класавых сутычках з ворагам паказаў сябе стойкім і ўмелым байцом, мы павінны смела высоўваць на адказную кіруючую работу.

Новая практычная арыентоўка, прынятая VII кангрэсам Комуністычнага Інтэрнацыянала, ставіць па-новаму і пытанне аб кадрах. Тав. Дзімітраў сказаў у сваім заключным слове на кангрэсе:

> «Пытанне аб кадрах набывае асаблівую вострасць яшчэ і таму, што пад нашым уплывам разгортваецца масавы рух адзінага фронту, які высоўвае многія тысячы новых пролетарскіх актывістаў... »*).

Зусім відавочна, што рух адзінага фронту ставіць новыя задачы перад кадрамі компартый. Хіба не ясна, што, напрыклад, комуністычны актывіст павінен інакш працаваць у аб'яднанай профсаюзнай арганізацыі чым да гэтага часу ў старым чырвоным профсаюзе? Тут ён вымушан уважліва прадуманымі, пераканаўчымі аргументамі, дзейсным паказам заваяваць на свой бок профсаюзна-арганізаваную масу.

Шырокае прымяненне тактыкі адзінага фронту па-новаму патрабуе стварэння новага тыпу комуністычнага актывіста. Гэта актывіст, які дасканала ведае настрой і падыход соцыял-дэмакратычных рабочых да вострых пытанняў штодзеннай барацьбы. Гэта актывіст, які ўладае здольнасцю ў таварыскай форме, аргументамі і парадамі дапамагчы па-рэфармісцку выхаваным рабочым і функцыянерам пераадолець свае забабоны. Гэта рабочы дзеяч, які ўмее паспяхова прымяняць усе прыёмы барацьбы за штодзенныя патрабаванні рабочай масы і карыстаецца аўтарытэтам далёка за межамі сваёй партыйнай арганізацыі, якога рабочыя масы прызнаюць сваім важаком.

На VII кангрэсе Комінтэрна т. Дзімітраў з усёй катэгарычнасцю паставіў перад компартыямі, якія знаходзяцца ва ўмовах фашысцкай дыктатуры, задачу работы ў масавых фашысцкіх арганізацыях. Тав. Дзімітраў напомніў старажытнае сказанне аб узяцці Троі, калі атакуючая армія з дапамогай славутага траянскага каня пранікла ў крэпасць ворага:

> «Мы, рэволюцыйныя рабочыя, мне здаецца, не павінны сцясняцца прымяняць тую-ж тактыку ў адносінах нашага фашысцкага ворага, які абараняецца ад народу жывой сцяной сваіх галаварэзаў» ***).

---

*) Г. Дзімітраў. „Наступленне фашызма і задачы Комуністычнага інтэрнацыянала ў барацьбе за адзінства рабочага класа супроць фашызма". Стар. 116. Партвыдат. 1935.
Там-жа, стар. 51

Але прымяненне гэтай тактыкі патрабуе ад нашых актывістаў асобага ўмення, асобых якасцей. Тым часам неабходна з усёй сілай падкрэсліць, што вельмі часта нашы таварышы, механічна паўтараючы словы Дзімітрава аб траянскім кані, слаба змагаюцца за правядзенне гэтай тактыкі ў сваёй штодзеннай рабоце. Комуністу-актывісту, які працуе ў масавай фашысцкай арганізацыі, прыходзіцца праводзіць сваю большэвіцкую работу па мабілізацыі мас, карыстаючыся шырока і тымі формамі і магчымасцямі, якія выклікаюць палітыка і дзеянні ворага.

Уменне самастойна арыентавацца ў абстаноўцы і не баяцца адказнасці за рашэнні, бязумоўна,—адна з важнейшых якасцей комуніста-актывіста. Гэту якасць мы павінны заўсёды прывіваць кожнаму комуністычнаму актывісту. Але гэта якасць набывае асабліва вялікае значэнне ва ўмовах фашысцкага падполля, дзе сувязь з вышэйстаячымі партыйнымі інстанцыямі не можа быць заўсёды такой надзейнай, дзе гэта сувязь часта наогул перарываецца.

Само сабою зразумела, што ўвесь аб'ём **непасрэдных задач палітыкі кадраў адметны ў краінах, дзе рабочы рух загнаны ў падполле ў параўнанні з краінамі легальнага руху. Патрэбы пэўнай абстаноўкі патрабуюць і кадраў пэўнага тыпу.**

Праводзімая компартыямі тактыка заваёвы шырокіх мас для рэволюцыйнай барацьбы ставіць таксама па-новаму ўсе ўнутрыпартыйныя пытанні. Новыя масы рабочых і функцыянераў знаходзяць шлях к нашым партыям. Да нас прыходзяць людзі, якія яшчэ далёка не зжылі свае старыя, рэфармісцкія ўяўленні і погляды. Мы павінны ўцягнуць іх у жывую работу нашага партыйнага калектыва, навучыць іх па-марксісцку-ленінску мысліць і дзейнічаць. Гэта ў першую чаргу ставіць вялікія задачы перад старымі кадрамі нашых партыйных арганізацый. Гэтыя кадры самі павінны перабудавацца і падцягнуцца.

Перад комуністычнымі кадрамі стаяць новыя вялікія задачы; чым больш шырокую масавую палітыку праводзіць компартыя, тым больш вытрыманымі і падрыхтаванымі па-большэвіцку павінны быць кадры партыі.

* * *

У секцыях Комінтэрна вырасла плеяда сапраўдных большэвікоў, ленінцаў-сталінцаў.

На бліскучых узорах большэвіцкай барацьбы, якія паказаў лепшы прадстаўнік гэтай сталінскай кагорты, вырасшай у краінах капітала,—т. Дзімітраў, вучацца і будуць вучыцца кадры комуністычных партый.

Яны вучацца рэволюцыйнай стойкасці, бязмежнай адданасці справе пролетарскай рэволюцыі, справе комунізма на ўзорах гераічнай барацьбы тт. **Тэльмана і Фан Чжы-міна, Ракошы і Антыкайнена, Грамшы і Іцыкава, Тэрачыні і Йонко Панова,** на ўзорах барацьбы большэвіцкіх кадраў, выпеставаных **Леніным і Сталіным.**

Для ўсіх комуністычных партый пытанне аб кадрах у сучасны момант з'яўляецца рашаючым. Неабходна ўмець прымяняць большэвіцкую тэорыю і вопыт да патрэб сучаснага этапа міжнароднага рабочага руху. Для паспяховага вырашэння гэтага пытання трэба няўхільна вучыцца ў **Леніна і Сталіна.**

**«Коммунистический Интернационал»**

# Аб выніках снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б

Рашэнні снежаньскага пленума Цэнтральнага камітэта ВКП(б) аб задачах прамысловасці і транспарту ў сувязі са стаханаўскім рухам і аб выніках праверкі партдакументаў маюць выключнае значэнне ў справе ўмацавання маналітнасці і боездольнасці радоў нашай партыі, заваявання новых, сусветна-гістарычнага значэння перамог соцыялізма ў нашай краіне.

Вынікі гераічнай барацьбы пролетарыята і ўсіх працоўных нашай краіны пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, на чале з геніяльным правадыром усіх працоўных—таварышом **Сталіным,** ушчэнт разбілі ўсе контррэволюцыйныя, апартуністычныя тэорыі аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне. Жыццё паказала, што наша большэвіцкая партыя—перадавы авангард рабочага класа—пад кіраўніцтвам таварыша **Сталіна,** непахісна і паслядоўна ажыццяўляючы вялікія заветы Леніна, забяспечыла небывалы рост эканамічнай і палітычнай магутнасці нашай краіны і ператварыла яе з адсталай аграрнай у перадавую індустрыяльную, з буйнейшай у свеце сельскай гаспадаркай, узброенай навейшай сучаснай тэхнікай.

Рост эканамічнай магутнасці нашай краіны на соцыялістычнай аснове забяспечыў і неймаверны ўздым культурнага ўзроўню і добрабыту працоўных мас. «Жыць стала лепш, таварышы! Жыць стала весялей». Гэта ў сваю чаргу стварыла ўмовы для небывалага ў гісторыі разгортвання творчай ініцыятывы шырокіх мас нашай краіны. Пад кіраўніцтвам тав. Сталіна партыя выявіла, вырасціла і выхавала сотні тысяч таленавітых арганізатараў і будаўнікоў, да канца адданых справе соцыялізма.

Мінулы год азнаймаваўся новымі велізарнейшымі перамогамі соцыялізма.

Узнікненне і разгортванне стаханаўскага руху, да якога зараз прыкавана ўвага ўсёй нашай краіны, усіх працоўных, усёй ленінска-сталінскай партыі і яе Цэнтральнага камітэта, ёсць сусветна-гістарычная перамога пролетарыята, перамога ленінска-сталінскай палітыкі партыі, вынік геніяльнага кіраўніцтва тав. Сталіна будаўніцтвам соцыялізма ў нашай краіне.

У стаханаўскім руху адлюстроўваюцца гіганцкія поспехі соцыялізма, рост культуры і добрабыту працоўных мас.

Таварыш **Сталін** у сваёй прамове на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў указаў:

«Значэнне стаханаўскага руху заключаецца ў тым, што ён з'яўляецца такім рухам, які ламае старыя тэхнічныя нормы,

як недастатковыя, перакрывае ў цэлым радзе выпадкаў прадукцыйнасць працы перадавых капіталістычных краін і адкрывае, такім чынам, практычную магчымасць далейшага ўмацавання соцыялізма ў нашай краіне, магчымасць ператварэння нашай краіны ў найбольш заможную краіну.

...Ён адкрывае нам той шлях, на якім толькі і можна дабіцца тых вышэйшых паказчыкаў прадукцыйнасці працы, якія неабходны для пераходу ад соцыялізма к комунізму і знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай.

...Ён падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма к комунізму».

Рашэнні пленума ЦК ВКП(б) адкрываюць шырокі шлях для далейшага развіцця творчай ініцыятывы мільёнаых мас нашай соцыялістычнай радзімы, узнімаюць стаханаўскі рух на новую, вышэйшую ступень, накіроўваюць яго ў арганізаванае русло.

За апошні час стаханаўскі рух у нашай рэспубліцы, як і ва ўсім Совецкім саюзе, набыў больш шырокі размах, у ім адбыліся новыя якасныя зрухі. Ад стаханаўцаў адзіночак прадпрыемствы пачалі пераходзіць да арганізацыі стаханаўскіх сутак, пяцідзенак і дэкад, стаханаўскіх змен і брыгад, якія далі выдатныя вынікі там, дзе заводскія партыйныя арганізацыі, заводакіраўніцтва і інжынерна-тэхнічныя работнікі ўдзялялі падрыхтоўцы іх сур'ёзную ўвагу і па-сапраўднаму ўзначалілі стаханаўскі рух. Нязмерна вырасла прадукцыйнасць усяго прадпрыемства і перавыкананне планавага задання.

Так, бабруйскі фанерны завод імя Кірава ўжо ў першыя дні стаханаўскай дэкады выканаў планавае заданне на 120 проц. Гомельская абутковая фабрыка «Праца» за першыя шэсць дзён стаханаўскай дэкады выканала план на 110,95 проц., выпусціўшы 12.429 пар абутку, замест 11.202. Менскі завод імя Кірава за першыя пяць дзён стаханаўскай дэкады выканаў планавае заданне на 120 проц. Барысаўская запалкавая фабрыка імя Кірава за стаханаўскую дэкаду выпусціла 40.200 скрынак запалак, замест 36.000.

Вынікі работы прамысловасці БССР за студзень месяц яшчэ раз сведчаць аб выключным значэнні стаханаўскага руху ў справе павышэння прадукцыйнасці працы. Калі ў першыя месяцы мінулага года большая частка прадпрыемстваў значна недавыканала план, то сёлета наша прамысловасць у сувязі з разгортваннем стаханаўскага руху закончыла першы месяц па большасці галін з перавыкананнем.

Так, цалкам металаапрацоўчая прамысловасць БССР за студзень выканала план на 101,6 проц. валавой прадукцыі (у нязменных цэнах 1926-27 гг.), а паасобныя прадпрыемствы далі яшчэ больш высокія паказчыкі: завод імя Кірава (Менск) выканаў месячны план на 121,8 проц., завод імя Варашылава—на 105,9 проц., «Пролетарскі молат» (Барысаў)—на 128,2 проц., «Комінтэрн» (Віцебск)—на 124,6 проц. і т. д. Таксама дрэваапрацоўчая прамысловасць закончыла месячны план на 103,9 проц., швейная—на 100,9 проц. і т. д.

Аднак не на ўсіх прадпрыемствах партыйныя арганізацыі і заводакіраўніцтвы праявілі ініцыятыву ў большэвіцкім разгортванні стаханаўскага руху і накіраванні яго ў арганізаванае русло. Цэлы рад прадпрыемстваў закончыў першы месяц са значным недавыкананнем плана.

Прамысловасць будматар'ялаў студзеньскі план выканала толькі на 82,1 проц., тэкстыльная—на 74,7 проц. і т. д. Паасобныя прадпрыемствы тэкстыльнай прамысловасці далі яшчэ ніжэйшыя паказчыкі: панчошна-трыкатажная ф-ка імя «8-га сакавіка»—62,4 проц., баваўняна-папяровая фабрыка—39,2 проц.

Чым тлумачыцца ганебнае адставанне гэтых прадпрыемстваў у першы месяц стаханаўскага года? Справа ў тым, што іх кіраўніцтва, партыйныя і профсаюзныя арганізацыі не зрабілі адпаведных вывадаў з указанняў тав. Сталіна на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў, з рашэнняў апошніх пленумаў ЦК, не перабудавалі сваю работу і не ўзначалілі стаханаўскі рух.

Партыйныя і профсаюзныя арганізацыі, камандзіры прамысловасці і транспарту, інжынерна-тэхнічныя работнікі павінны цвёрда памятаць указанні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), што:

> «Стаханаўскі рух азначае арганізацыю працы па-новаму, рацыяналізацыю тэхналагічных працэсаў, правільны падзел працы ў вытворчасці, вызваленне кваліфікаваных рабочых ад другараднай падрыхтоўчай работы, лепшую арганізацыю рабочага месца, забяспечанне шпаркага росту прадукцыйнасці працы, забяспечанне значнага росту заработнай платы рабочых і служачых».

Арганізацыя стаханаўскага руху не можа быць забяспечана толькі мітынгаваннем, славеснай дэкларацыйнасцю, як гэта яшчэ практыкуецца на паасобных прадпрыемствах. Кіраўнікі прадпрыемстваў, трэстаў, гаспадарчых наркаматаў, партыйныя і профсаюзныя арганізацыі павінны па-большэвіцку ўзначаліць стаханаўскі рух на аснове карэннай перабудовы ўсёй работы па кіраўніцтву і арганізацыі вытворчасці на прадпрыемствах.

Трэба памятаць, што далейшае разгортванне стаханаўскага руху і ўздым яго на вышэйшую ступень (арганізацыя стаханаўскіх сутак, пяцідзенак і дэкад, стаханаўскіх брыгад, змен і цэхаў, ператварэнне кожнага завода, фабрыкі, чыгуначнага дэпо, вузла і т. д. у суцэльна стаханаўскія) патрабуе арганізацыі не толькі рабочага месца кожнага стаханаўца, але і ўсяго завода, цэха, канвеера.

Камандзіры прамысловасці, партыйныя і профсаюзныя арганізацыі прадпрыемстваў павінны цвёрда засвоіць, што па-сапраўднаму, па-большэвіцку ўзначаліць стаханаўскі рух і накіраваць яго ў арганізаванае русло яны змогуць толькі тады, калі будуць добра ведаць сваё прадпрыемства, усе працэсы вытворчасці ўнутры прадпрыемства—работу кожнага цэха, канвеера, брыгады, работу кожнага рабочага, калі яны будуць ведаць жывых людзей і іх здольнасці.

Пленум ЦК ВКП(б) у сваёй рэзалюцыі выключна чотка і дыферэнцыявана вызначыў задачы паасобных галін прамысловасці і транспарту ў справе далейшага разгортвання стаханаўскага руху, павышэння прадукцыйнасці працы, поўнага выкарыстання тэхнічнай магутнасці прадпрыемства.

Так, для цяжкай і ўсёй здабываючай прамысловасці (камена-вугальнай, руднай і нафтавай, горнай і каляровай металургіі і інш.) пленум указаў:

> «Арганізацыя стаханаўскага руху павінна мець у гэтых галінах асноўнай сваёй мэтай максімальнае павелічэнне вытвор-

часці і зніжэнне яе сабекошту, выходзячы з таго, што вытворчая праграма з'яўляецца толькі мінімальным абавязковым заданнем».

У машынабудаўнічай прамысловасці стаханаўскі рух павінен быць накіраваны ў першую чаргу на лепшае выкарыстанне метала і рабочай сілы, павышэнне выкарыстання машын, на высокую якасць і паддзешаўленне вырабаў машынабудаўнічай прамысловасці, на лепшае выкарыстанне існуючага тэхнічнага абсталявання. У галінах цяжкай прамысловасці, якія працуюць на дэфіцытнай сыравіне, стаханаўскі рух павінен спрыяць эканомнаму выкарыстанню сыравіны, барацьбе з бракам, стратамі і т. п.

У харчовай прамысловасці далейшае разгортванне стаханаўскага руху, побач з барацьбой за павелічэнне прадукцыйнасці працы і колькасці выпускаемай прадукцыі, павінна быць накіравана на барацьбу за максімальнае скарачэнне страт у вытворчасці—сыравіны, поўфабрыкатаў і іншых матар'ялаў, на ўсямернае палепшанне смакавых і спажыўных якасцей харчовых прадуктаў, на пашырэнне асартыменту вырабаў у адпаведнасці з патрабаваннямі шырокіх мас спажыўцоў, на барацьбу за зніжэнне сабекошту выпускаемай прадукцыі.

Перад лёгкай прамысловасцю, у якой, як указаў у сваім выступленні на пленуме ЦК ВКП(б) тав. Андрэеў, «найбольш ярка выражаны слабасці разгортвання стаханаўскага руху і няправільны яго напрамак», снежаньскі пленум ЦК ВКП(б) паставіў выключна важныя задачы:

«Забяспечыць найбольш поўнае выкарыстанне вытворчых магутнасцей і павышэнне каэфіцыента карыснага дзеяння абсталявання шляхам знішчэння прастояў і павелічэння хуткасцей машын, станкоў і агрэгатаў. Пры пераходзе стаханаўцаў на абслугоўванне большай колькасці станкоў і машын забяспечыць далейшае павышэнне прадукцыйнасці абсталявання.

... Дабіцца эканоміі ў выдаткаванні сыравіны, поўнага выкарыстання адыходаў і ўгараў, шырокага развіцця і выкарыстання замяніцеляў пры адначасовым палепшанні асартыменту, якасці прадукцыі і яе падзешаўленні».

Лёгкая прамысловасць у чацвертым годзе другой пяцігодкі павінна забяспечыць усё больш узрастаючыя запатрабаванні шырокіх мас працоўных на прадметы шырспажыву, палепшыць асартымент і якасць сваёй прадукцыі, дабіцца яе падзешаўлення.

Узначалены тав. Кагановічам наш чыгуначны транспарт за апошні час дабіўся буйных дасягненняў. Аднак, бурны эканамічны рост краіны прад'яўляе да яго ўсё больш высокія патрабаванні. Таму баявой задачай усіх камандзіраў і палітработнікаў транспарту з'яўляецца мабілізацыя ўсёй масы транспартнікаў на ажыццяўленне ўказанняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб далейшых задачах транспарту ў сувязі са стаханаўскім рухам:

«Першачарговым патрабаваннем, абавязковым для ўсіх служб чыгуначнага транспарту, для ўсіх прафесій, з'яўляецца безаварыйная работа. Работа без аварый і крушэнняў—рашаючы паказчык стаханаўска-крывaносаўскай работы на транспарце».

Снежаньскі пленум ЦК ВКП(б) адзначыў, што існуючая сістэма і палітыка ўстанаўлення норм выпрацоўкі не адпавядае дасягнутаму ўзроўню перадавой тэхнікі, бо «робіць існуючую практыку нармавання працы тормазам на шляху далейшага росту прадукцыйнасці працы і заработку рабочых». Таму пленум прызнаў:

«Неабходна замяніць цяперашнія тэхнічныя нормы, як застарэлыя, больш высокімі нормамі і змяніць адпаведна нормы выпрацоўкі ў бок некаторага іх павышэння з тым, аднак, каб ва ўмовах прагрэсіўнай эдзельшчыны цяперашнія расцэнкі былі захаваны, а фонд заработнай платы з прычыны росту стаханаўскага руху быў павялічаны».

З гэтага ўказання не вынікае, што існуючыя нормы выпрацоўкі могуць быць механічна павялічаны; пленум сурова папярэджвае ад такога падыходу пры пераглядзе і павелічэнні норм выпрацоўкі. Гэта выключна важнае і сур'ёзнае мерапрыемства павінна праводзіцца пры дэталёвым і ўсебаковым вывучэнні вытворчых магчымасцей цэхаў і прадпрыемстваў, вопыту работы перадавых стаханаўцаў. Новыя нормы павінны распрацоўвацца пры шырокім удзеле рабочых-стаханаўцаў.

Падагульваючы вынікі разгортвання стаханаўскага руху на прадпрыемствах нашай рэспублікі і ўскрыўшы ўсе недахопы, якія мелі месца ў нашай прамысловасці ў пачатку разгортвання стаханаўскага руху, студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б распрацаваў і вызначыў канкрэтныя задачы як для ўсёй нашай прамысловасці ў цэлым, так і для паасобных яе галін у справе далейшага разгортвання стаханаўскага руху на аснове ажыццяўлення пастаноў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша **Сталіна**.

Так, напрыклад, па **металапрамысловасці** (Белметалатрэст і завод імя Кірава—Менск, «Чырвоны Окцябр»—Орша, імя Дзімітрава—Магілеў і інш.) разгортванне канструктарскай работы і далейшае пашырэнне стаханаўскага руху павінна быць накіравана на палепшанне якасці і асартыменту выпускаемай прадукцыі.

Па прамысловасці **будматар'ялаў** (цагельнай, вапнавай і т. д.), якая адыгрывае выключную ролю ў справе забяспечання выканання грандыёзнага плана новага будаўніцтва, пленум ЦК КП(б)Б, адзначаючы недастатковае разгортванне стаханаўскага руху, абавязвае Нарккаммясцпром, Белпромсовет, райвыканкомы і будаўнічыя арганізацыі дабіцца шырокага разгортвання стаханаўскага руху, накіроўваючы яго на выкананне і перавыкананне плана 1936 года па выпуску будматар'ялаў, на высокую якасць будаўніцтва, зніжэнне не менш як на 15 проц. сабекошту будаўніцтва і павелічэнне прадукцыйнасці працы не менш як на 35 проц. Разам з тым, перад будаўнічымі арганізацыямі пастаўлена задача рацыяналізацыі пастаноўкі будаўнічай справы, лепшага выкарыстання механізмаў і т. д. Ажыццяўленне ўсіх гэтых задач павінна быць шчыльна ўвязана з барацьбой за палепшанне матар'яльна-бытавых і культурных умоў рабочых будаўнікоў.

Па лясной і дрэваапрацоўчай прамысловасці, рад галін каторых значна адстае ў разгортванні стаханаўскага руху, асабліва лесазагатоўкі і вывазка, пленум ЦК КП(б)Б абавязвае кіраўнікоў леспрамгасаў накіраваць, на аснове шырокай папулярызацыі вопыту лепшых стаханаўцаў, разгортванне стаханаўскага руху на поўнае выкары-

станне наяўнай механізацыі па загатоўках і вывазках лесаматар'ялаў, на завяршэнне плана лесазагатовак і вывазкі за першы квартал. Запалкавыя фабрыкі і фанерныя заводы павінны накіраваць далейшае разгортванне стаханаўскага руху на барацьбу за павышэнне прадукцыйнасці працы, за поўнае і эканомнае выкарыстанне сыравіны і палепшанне якасці прадукцыі.

Адной з цэнтральных задач, пастаўленых перад народнай гаспадаркай у другую пяцігодку, з'яўляецца рэзкае палепшанне матар'яльна-бытавога і культурнага становішча шырокіх мас працоўных нашай краіны. Выключную ролю ў ажыццяўленні гэтай задачы адыгрывае лёгкая прамысловасць, якая павінна забяспечыць усё ўзрастаючыя запатрабаванні мас добраякаснымі таварамі і прадуктамі шырокага спажывання.

Ва ўсёй прамысловасці БССР лёгкая прамысловасць па сваёй удзельнай вазе займае выключна вялікае месца, аднак па сваёй рабоце і якасці прадукцыі адстае ад задач, пастаўленых перад ёю партыяй і ўрадам у другую пяцігодку.

Суровая крытыка недахопаў лёгкай прамысловасці ў справе разгортвання стаханаўскага руху, даная тав. Андрэевым, цалкам адносіцца і да лёгкай прамысловасці БССР.

Партыйныя арганізацыі і заводакіраўніцтвы раду прадпрыемстваў нашай лёгкай прамысловасці ў пачатку разгортвання стаханаўскага руху не толькі не ўзначалілі ініцыятыву і вытворчы энтузіязм перадавых рабочых, але аказаліся ад іх у баку, пусцілі на самацёк разгортванне стаханаўскага руху.

Такія адносіны кіраўніцтва развязалі рукі класава-варожым элементам. На паасобных прадпрыемствах (віцебская ільнапрадзільная ф-ка імя Кагановіча і інш.) класава-варожыя і антысовецкія элементы спрабавалі шляхам сабатажу і прамога супраціўлення затармазіць справу разгортвання стаханаўскага руху. Толькі пры непасрэдным умяшанні ЦК КП(б)Б вылазкам класавых ворагаў быў нанесен сакрушальны ўдар.

Аднак разгром першых вылазак класава-варожых элементаў супроць стаханаўскага руху не гаворыць за тое, што класавы вораг і яго агентура спынілі барацьбу супроць разгортвання творчай ініцыятывы народных мас. Таму далейшае паспяховае разгортванне стаханаўскага руху патрабуе самай бязлітаснай барацьбы з усялякімі праявамі і імкненнем класава-варожых элементаў сарваць стаханаўскі рух, патрабуе рашучай барацьбы з яго сабатажнікамі.

Пленум ЦК КП(б)Б абавязаў лёгкую прамысловасць ліквідаваць недахопы і, на аснове шырокага разгортвання стаханаўскага руху, забяспечыць высокую прадукцыйнасць працы, эканомнае выкарыстанне сыравіны, палепшанне якасці і падзешаўленне прадукцыі, выкарыстанне да дна высокай тэхнікі.

Такія-ж канкрэтныя задачы пастаўлены пленумам ЦК КП(б)Б перад усімі галінамі лёгкай прамысловасці БССР: швейнай, скурана-абутковай, шклянай, тарфянай і т. д., а таксама перад прадпрыемствамі комунальнай гаспадаркі.

Неадкладная задача партыйных, профсаюзных і совецкіх арганізацый, камандзіраў і інжынерна-тэхнічных работнікаў прамысловасці—па-большэвіцку ўключыцца ў барацьбу за ажыццяўленне рашэнняў пленумаў ЦК, памятаючы, што БССР павінна паказаць узоры разгортвання стаханаўскага руху, бо гэтаму абавязвае нас высокая ўзнагарода—ордэн Леніна.

Рэзалюцыя студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б павінна стаць баявою праграмай прамысловасці БССР у барацьбе за выкананне грандыёзных задач, пастаўленых перад ёю планам чацвертага года другой пяцігодкі.

Пленум ЦК КП(б)Б указаў на выключнае значэнне авангарднай ролі комуністаў у справе далейшага разгортвання стаханаўскага руху:

> «Пленум ЦК КП(б)Б ставіць перад усімі АК, ГК і РК КП(б)Б прамысловых раёнаў у якасці важнейшай задачы—забяспечанне вядучай ролі комуністаў і комсамольцаў на вытворчасці ў справе развіцця і ўзначалення стаханаўскага руху і выкарыстання лепшых узораў партмасавай работы маскоўскіх, ленінградскіх і данецкіх большэвікоў у гэтай галіне з тым, каб пытанні кіраўніцтва стаханаўскім рухам і дапамогі стаханаўцам занялі ў практычнай рабоце акругкомаў, гаркомаў, райкомаў і іх сакратароў адно з цэнтральных месц».

Партыйныя, профсаюзныя і совецкія арганізацыі, кіраўнікі і камандзіры прамысловасці павінны цвёрда засвоіць, што рашэнні пленумаў ЦК патрабуюць канкрэтнага дыферэнцыяванага кіраўніцтва кожным участкам прадпрыемства, соўгаса, калгаса, на аснове вывучэння канкрэтных людзей—стаханаўцаў, умоў іх работы, норм выпрацоўкі, ведання таго, што перашкаджае паспяховаму разгортванню стаханаўскага руху.

Поспех у разгортванні стаханаўскага руху, уздым яго на вышэйшую ступень—пераход на стаханаўскія суткі, дэкады і т. д., цэлыя стаханаўскія цэхі і прадпрыемствы—можа быць забяспечан толькі пры ўмове правільнай расстаноўкі партыйных сіл, ліквідацыі арганізацыйных непаладак, пры ўмове, калі ўсе інжынерна-тэхнічныя работнікі будуць уцягнуты ў стаханаўскі рух і ўзначаляць яго.

Арганізацыя тэхнічнай вучобы рабочых, паглыбленне тэхнічных ведаў стаханаўцаў і інжынерна-тэхнічных работнікаў павінна стаць неад'емнаю часткай работы па далейшаму разгортванню стаханаўскага руху ва ўсіх галінах прамысловасці, соўгасах і калгасах.

* * *

Праверка партыйных дакументаў, праведзеная па ініцыятыве таварыша **Сталіна,** з'яўлялася выключна важным палітычным мерапрыемствам па ачыстцы партыі ад усіх класава-варожых, контррэволюцыйных і шпіёнскіх элементаў, якія шляхам ашуканства і двурушніцтва, скарыстаўшы прытупленне класавай пільнасці і запушчанасць партыйнай гаспадаркі, здолелі пралезці ў рады нашай партыі.

Вынікі праверкі партдакументаў з асаблівасю сілай пацвердзілі неаднаразовыя ўказанні партыі і яе правадыра—тав. **Сталіна,** што класавыя ворагі па меры росту нашых поспехаў і перамогі соцыялізма ў нашай краіне прыбягаюць да найбольш утончаных метадаў барацьбы супроць партыі і дыктатуры пролетарыята, выкарыстоўваючы для ажыццяўлення сваіх контррэволюцыйных замыслаў у першую чаргу апартуністычнае дабрадушша і страту класавай пільнасці.

У рашэннях снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) адзначана:

> «Галоўны ўрок, як гэта паказаў вопыт праверкі партыйных дакументаў, заключаецца ў тым, што члены партыі і партый-

ныя арганізацыі ўсё яшчэ дрэнна засвоілі неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) аб неабходнасці ўсямернага павышэння бальшэвіцкай пільнасці і дысцыпліны сярод членаў партыі».

Забыццё ўказанняў ЦК, ленінска-сталінскай бальшэвіцкай традыцыі ў адносінах да партыйнай работы і захавання дакументаў, страта рэвалюцыйнай пільнасці прывялі ва многіх выпадках да грубейшага парушэння статута партыі.

Студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б прама ўказаў, што «у працэсе праверкі партдакументаў па КП(б)Б ускрыты масавыя факты грубейшага парушэння статута партыі», якое выразілася ў тым, што ў партыю прымалі цэлымі групамі, па некалькі дзесяткаў і соцень чалавек адразу, без індывідуальнага адбору і вывучэння кожнай кандыдатуры, не цікавіліся тым, каму ўручаецца дакумент на права насіць высокае званне члена комуністычнай партыі бальшэвікоў. Групавыя прыёмы ў партыю практыкаваліся не толькі нізавымі партарганізацыямі, але многімі райкомамі і гаркомамі партыі.

Былі таксама выпадкі, калі партыйныя білеты выдаваліся без зацверджання агульных сходаў пярвічных партарганізацый і бюро РК, толькі на падставе рашэння парткомаў і прыёмачных камісій. Без адпаведнага афармлення і зацверджання вышэйшымі партарганізацыямі прымаліся выхадцы з іншых партый. Толькі за 1931 і 1932 гг. у КП(б)Б прынята з парушэннем статута каля 2.000 чалавек.

Грубейшыя парушэнні статута партыі садзейнічалі таму, што ў рады нашай партыі пранікла вялікая колькасць класава-варожых і контррэвалюцыйных элементаў.

> «Праверка партыйных дакументаў у КП(б)Б,—як указана ў рашэнні пленума ЦК КП(б)Б,—з асаблівай рэзкасцю ўскрыла, што іменна масавае парушэнне ў партарганізацыях КП(б)Б статута партыі і было, галоўным чынам, выкарыстана класавым ворагам для пранікнення ў партыю».

Пленумы ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б у сваіх рашэннях падкрэслілі, што засмечанасць радоў нашай партыі рознымі прахадзімцамі, жулікамі, аферыстамі і прамымі ворагамі партыі і пролетарыята тлумачыцца толькі адсутнасцю бальшэвіцкай пільнасці, забыццём бальшэвіцкіх прынцыпаў, запушчанасцю партыйнай гаспадаркі і грубым парушэннем статута.

Праверка партыйных дакументаў па КП(б)Б прашла на высокім палітычным узроўні. Яна ўскрыла ўсе недахопы ў справе захоўвання арганізацыйных прынцыпаў бальшэвізма, ачысціла рады партыі ад жулікаў, аферыстаў, класава-чуждых кулацкіх і контррэвалюцыйных элементаў, ад двурушнікаў, контррэвалюцыйнага ахвосця трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, эсэраў, нацдэмаў, шпіёнаў і іншых людзей, пралезшых у рады партыі, каб прыкрыць партыйным білетам свае антыпартыйныя, контррэвалюцыйныя дзеянні.

> «Партыйныя арганізацыі, адначасова з выкрыццём пралезшых у партыю чуждых людзей, у значнай меры перамаглі элементы... арганізацыйнай распушчанасці, прывялі ў парадак улік членаў партыі, лепш вывучылі комуністаў і на гэтай аснове высунулі многіх новых, здольных работнікаў на кіруючую партыйную, совецкую і гаспадарчую работу» (з рэзалюцыі пленума ЦК ВКП(б)).

Па КП(б)Б у час праверкі выяўлены і вылучаны на адказную партыйную работу 783 комуністы, на кааперацыйную і гаспадарчую—1027 чалавек.

У працэсе праверкі партыйныя арганізацыі ўскрылі недахопы сваёй работы і на ліквідацыю іх мабілізавалі партыйныя масы. У выніку значна палепшылася ўся партыйна-арганізацыйная і палітыка-выхаваўчая работа сярод комуністаў, павысілася іх рэвалюцыйная пільнасць.

Аднак на дасягнутых поспехах мы не можам супакоіцца.

Таварыш **Сталін** у сваім дакладзе на XVII парт з'ездзе папярэджваў партыю і партыйныя арганізацыі ад зазнайства і самасупакоенасці:

> «Няма нічога небяспечней, як падобныя настроі, бо яны раззбройваюць партыю і дэмабілізуюць яе рады. Калі такія настроі стануць пераважаць у нашай краіне, мы можам аказацца перад пагрозай зрыву ўсіх нашых поспехаў.
>
> Адсюль першы вывад: **не захапляцца дасягнутымі поспехамі і не зазнавацца»**.

У аснову ўсёй сваёй далейшай работы партыйныя арганізацыі і іх кіраўнікі павінны пакласці ўказанне снежаньскага пленума ЦК ВКП(б):

> «Пленум ЦК ВКП(б) абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі да канца засвоіць гэтыя ўрокі і палажыць канец агіднасцям, якія былі выяўлены ў ходзе праверкі партыйных дакументаў. Толькі засвоіўшы гэтыя ўрокі і паслядоўна выконваючы неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) аб усямерным павышэнні рэвалюцыйнай большэвіцкай пільнасці і неабходнасці «узняць узровень нашай арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва», партарганізацыі змогуць да канца выкарчаваць карэнні апартуністычнага дабрадушша, заастрыць большэвіцкую пільнасць членаў партыі, выхаваць партыйны апарат у духу большэвіцкай астраты і непрымірымасці і дабіцца таго, што статут партыі стане сапраўды непарушнай асновай яе ўнутрыпартыйнага жыцця».

Задача цяпер заключаецца ў тым, каб на аснове замацавання дасягнутых поспехаў па-большэвіцку змагацца за далейшы ўздым і палепшанне ўсёй партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы.

Адным з важнейшых мерапрыемстваў па замацаванню вынікаў праверкі партдакументаў і далейшаму ўмацаванню боездольнасці радоў партыі з'яўляецца абмен і выдача новых партыйных білетаў.

Абмен партыйных білетаў нельга разглядаць як простую тэхнічную работу. Гэта выключнай важнасці арганізацыйна-палітычнае мерапрыемства павінна забяспечыць нам далейшае ўмацаванне радоў партыі, ачысціць яе ад людзей, недастойных высокага звання комуніста, ад людзей пасіўных.

Работа гэта, паводле рашэння снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), ускладаецца непасрэдна на першых сакратароў гаркомаў і райкомаў партыі, якія нясуць персанальную адказнасць за ўзорнае яе правядзенне.

> «Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што пры абмене партыйных білетаў партыйныя арганізацыі могуць і не выдаваць пар-

> тыйны білет сяму-таму з членаў партыі, хоць-бы і прашоўшых праверку партыйных дакументаў, калі гэтыя члены партыі не апраўдваюць высокага звання членаў партыі. Калі пры праверцы партыйных дакументаў асноўную ўвагу партыйныя арганізацыі сканцэнтроўвалі на тым, каб выкрыць ашуканчым шляхам пранікшых у ВКП(б) ворагаў партыі, усякага роду прахадзімцаў і жулікаў, то пры абмене асноўную ўвагу неабходна звярнуць на тое, каб вызваліцца ад пасіўных людзей, якія не апраўдваюць высокага звання члена партыі, якія выпадкова папалі ў рады ВКП(б)».

Пры вырашэнні пытання аб выдачы партбілета таму ці іншаму з пасіўных членаў або кандыдатаў партыі неабходна падыходзіць строга індывідуальна. Трэба ўсебакова вызучыць кожнага чалавека, выясніць прычыны яго пасіўнасці, даведацца аб тым, якія мерапрыемствы прымала партыйная арганізацыя для ўцягнення яго ў актыўную партыйную работу. І толькі тады, калі канчаткова будзе высветлена, што даны таварыш безнадзейны, што ў партыі ён будзе толькі баластам, можна выносіць рашэнне аб пазбаўленні яго права атрымаць новы партыйны або кандыдацкі білет.

Уся работа па абмену партыйных білетаў павінна быць арганізавана і праведзена так, каб яна садзейнічала далейшай ачыстцы радоў партыі ад усіх чуждых і варожых элементаў.

Вакол абмену партбілетаў павінны быць мабілізаваны ўсе партыйныя арганізацыі і кожны комуніст паасобку. Яны павінны зразумець усю яе палітычную сутнасць і ўсвядоміць, што партбілет могуць атрымаць людзі, вартыя высокага звання члена Комуністычнай партыі большэвікоў.

Уся работа па абмену партбілетаў павінна быць праведзена ў строгай адпаведнасці з рашэннем студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б:

> «Пленум абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі забяспечыць такое правядзенне абмену партыйных білетаў, каб гэта мерапрыемства яшчэ больш умацавала і згуртавала партыйную арганізацыю, узмацніла-б актыўны ўдзел комуніста ў палітычным жыцці партыі і краіны, умацавала-б арганізацыйныя прынцыпы большэвізма».

У выніку праверкі партыйных дакументаў мы дабіліся некаторых поспехаў у справе ўпарадквання партыйнай гаспадаркі. Аднак, рашаючае значэнне ў справе замацавання гэтых поспехаў, поўнай ліквідацыі арганізацыйнай распушчанасці і навядзення большэвіцкага парадку ва ўласным партыйным доме мае па-большэвіцку арганізаваны абмен партыйных дакументаў.

Статут партыі павінен стаць непахісным і непарушным законам ва ўсёй партыйнай рабоце.

Адным з цэнтральных пытанняў усёй унутрыпартыйнай работы, як гэта неаднаразова адзначалася ЦК партыі і таварышом Сталіным, з'яўляецца партыйная прапаганда, якая павінна забяспечыць усямернае павышэнне рэволюцыйнай пільнасці комуністаў, узбройваць іх марксісцка-ленінска-сталінскай тэорыяй для паспяховай барацьбы за далейшыя перамогі соцыялізма.

Аднак да апошняга часу гэтаму ўчастку работы рад партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў не ўдзяляў належнай увагі, у выніку чаго, як адзначыў студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б,

«...у становішчы партыйнай прапаганды і палітычнай агітацыі зусім правільна і своечасова ЦК ВКП(б) былі ўскрыты буйнейшыя недахопы».

Пленум ЦК КП(б)Б асабліва падкрэсліў, што ўскрытыя ЦК ВКП(б) недахопы ў пастаноўцы партыйнай прапаганды з'яўляюцца прамым вынікам таго, што як аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б, так і сакратары РК і ГК КП(б)Б, не забяспечылі штодзеннага канкрэтнага кіраўніцтва і кантролю за выкананнем неаднаразовых указанняў і рашэнняў ЦК партыі аб прапагандысцкай рабоце.

Усё гэта прывяло да таго, што прапагандысцкія кадры, якія адыгрываюць выключна важную ролю ў справе выхавання комуністаў і ўзбраення іх марксісцка-ленінска-сталінскай тэорыяй, аказаліся ў паасобных партарганізацыях засмечанымі класава-чуждымі і варожымі элементамі.

Праверка партыйных дакументаў забяспечыла значную ачыстку прапагандысцкіх кадраў ад класава-чуждых элементаў, значна ўзмацніла ўвагу партыйных арганізацый у адносінах да прапагандысцкай работы, узняла зацікаўленасць комуністаў партыйнай вучобай, аўладаннем марксісцка-ленінска-сталінскай тэорыяй.

Аднак мы не можам супакоіцца на дасягнутых поспехах. У справе пастаноўкі партыйнай прапаганды і масавай палітычнай агітацыі ўсё яшчэ ёсць рад сур'ёзнейшых недахопаў. Пленум ЦК КП(б)Б па дакладу тав. Коніка адзначыў нездавальняючы падбор і вызучэнне прапагандысцкіх кадраў у радзе партыйных арганізацый (Магілеў, Гомель, Лепель, Плешчаніцы, Менск, Бялынічы і інш.); нездавальняючае кіраўніцтва і дапамогу прапагандыстам у павышэнні іх палітычна-тэарэтычнага і культурнага ўзроўню; няправільную арганізацыйную пабудову сеткі партыйнай вучобы і адсутнасць дыферэнцыяванага падыходу да комуністаў пры камплектаванні школ і гурткоў; нездавальняючае становішча палітычнай агітацыі, адсутнасць сістэматычнай работы з кадрамі агітатараў і т. д.

Усё гэта, як адзначана ў рашэннях пленума ЦК, з'яўляецца вынікам таго, што кіраўнікі партарганізацый усё яшчэ недастаткова займаюцца пытаннямі выхавання комуністаў, да гэтага часу не ўдзяляюць дастатковай увагі пытанням арганізацыі партыйнай прапаганды.

Партыйная прапаганда на сучасным этапе адыгрывае выключна важную ролю ў справе далейшага павышэння рэволюцыйнай пільнасці комуністаў, замацавання вынікаў праверкі партыйных дакументаў і ўздыму ўсёй партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы да ўзроўню палітычных задач.

Пленум ЦК ВКП(б) асабліва падкрэсліў, што перад партыйнымі арганізацыямі КП(б)Б

«...у галіне партыйнай прапаганды стаяць асабліва сур'ёзныя і адказныя задачы, вынікаючыя з пагранічнага становішча рэспублікі і з таго факту, што... у паасобных звеннях партыйнай арганізацыі ўсё яшчэ жывы астаткі разгромленай партыяй контррэволюцыйнай ідэалогіі нацдэмаўшчыны, эсэраўшчыны і бундызма».

Пленум ЦК КП(б)Б распрацаваў і вызначыў канкрэтныя мерапрыемствы і задачы для рэзкага палепшання партыйнай прапаганды

і палітычнай агітацыі і папярэдзіў усе партарганізацыі, што высокая якасць партыйнай прапаганды можа быць забяспечана

> толькі пры рашучай барацьбе з фармалізмам, шаблонам, самацёкам у арганізацыі партасветы, пры самым сур'ёзным і дакладным падборы прапагандысцкіх кадраў,... пры сапраўды большэвіцкім кіраўніцтве кіраўнікоў партарганізацый гэтай асноўнай галіной унутрыпартыйнай работы».

Барацьба за ажыццяўленне рашэнняў студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б аб рэзкім уздыме і палепшанні партыйнай прапаганды і палітычнай агітацыі павінна стаць у цэнтры ўвагі ўсіх партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў.

Побач з абменам і выдачай новых партбілетаў пленумы ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б паставілі перад усімі партыйнымі арганізацыямі важнейшую задачу—падрыхтавацца да новага прыёму ў партыю, які пачынаецца з 1 ліпеня 1936 года.

Дазвол на прыём новых членаў і кандыдатаў у партыю атрымаюць тыя партарганізацыі, якія агульным узроўнем усёй сваёй партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы пакажуць, што яны здольны забяспечыць большэвіцкае выхаванне новых людзей, якія ўключацца ў рады нашай партыі.

Таму ўся работа па абмену партбілетаў павінна быць цесна ўвязана з далейшым уздымам і палепшаннем усёй партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы, з рэзкім палепшаннем работы са спачуваючымі і комсамолам, як асноўным рэзервам папаўнення радоў нашай партыі.

Пленум ЦК КП(б)Б прама ўказвае, што ў выніку слабой работы са спачуваючымі мы маем рад фактаў спынення росту груп спачуваючых за лік лепшых людзей нашай краіны, стаханаўцаў прамысловасці, ударнікаў соцыялістычных палёў і лепшай часткі беспартыйнага актыва.

Пленум ЦК абавязвае РК, ГК і пярвічныя партарганізацыі распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы для рэзкага ўздыму і палепшання ўсёй работы са спачуваючымі, уцягнення новых людзей у групы спачуваючых, арганізацыі палітыка-выхаваўчай работы сярод спачуваючых, «выкоўваючы ў іх навык большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны».

Задача ўсіх партыйных арганізацый—па-большэвіцку змагацца за ажыццяўленне рашэнняў пленумаў ЦК, каб сваёй практычнай работай забяспечыць поўную падрыхтаванасць да новага прыёму ў партыю.

Падрыхтоўка да новага прыёму павінна быць цесна ўвязана з далейшым уздымам рэволюцыйнай пільнасці кожнага комуніста, каб выключыць усякую магчымасць пранікнення ў рады партыі класава-чуждых, варожых і контррэволюцыйных элементаў.

Пленум катэгарычна забараніў які-б там ні было калектыўны і групавы прыём у партыю. Новы прыём павінен праводзіцца выключна ў строга індывідуальным парадку, пры ўсебаковым і дэталёвым вывучэнні кожнага чалавека, які будзе прымацца ў рады ленінска-сталінскай партыі.

Рады нашай партыі, як гэта адзначана ў рашэнні пленумаў ЦК, павінны папаўняцца выключна за лік лепшых людзей нашай краіны:

стаханӑуцаў прамысловасці і транспарту, ударнікаў соцыялістычных палёў і перадавой совецкай інтэлігенцыі, правераных ў практычнай рабоце і да канца адданых справе партыі і пролетарыята, справе соцыялістычнага будаўніцтва.

Цвёрда засвоіць рашэнні пленумаў ЦК і па-большэвіцку змагацца за іх ажыццяўленне на практыцы, за непарушнасць статута партыі—баявая задача ўсіх партыйных арганізацый і кожнага комуніста паасобку.

---

Д. Конік

# Узняць выхаванне комуністаў да ўзроўню палітычных задач партыі

Партыйна-палітычнае выхаванне членаў і кандыдатаў партыі заўсёды займала і займае важнейшае месца ў нашай партыйнай рабоце.

Тав. Сталін яшчэ на XVII з'ездзе партыі ўказаў на неабходнасць:

1. Узняць тэарэтычны ўзровень партыі на належную вышыню;
2. Узмацніць ідэалагічную работу ва ўсіх звеннях партыі;
3. Весьці нястомную прапаганду ленінізма ў радах партыі;
4. Выхоўваць партарганізацыі і акружаючы іх беспартыйны актыў у духу ленінскага інтэрнацыяналізма;
5. Не замазваць, а крытыкаваць смела адхіленні некаторых таварышоў ад марксізма-ленінізма;
6. Сістэматычна выкрываць ідэалогію і рэшткі ідэалогіі варожых ленінізму плыней».

Марксізм-ленінізм асвятляе нам шлях у барацьбе за перамогу. Ён дае нам сілу арыентыроўкі і ўпэўненасць у перамозе нашай справы. Ён вучыць нас быць заўсёды і ўсюды ў баявой гатоўнасці, улівае ў нас новую энергію, волю, рэволюцыйную празарлівасць і стойкасць.

Пастаўленыя перад нашай партыяй задачы ў сучасны момант асабліва востра патрабуюць сістэматычнага павышэння ідэйна-палітычнай узброенасці кожнага члена і кандыдата партыі. Гэтага патрабуе абстаноўка, у якой завяршаецца пабудова бяскласавага социялістычнага грамадства.

Пабудова бяскласавага соцыялістычнага грамадства, пераадоленне перажыткаў не толькі ў эканоміцы, але і ў свядомасці мільёнаў людзей нашай краіны, патрабуе велізарнага ўздыму культурнага і палітычнага ўзроўню кожнага свядомага будаўніка соцыялізма і ў першую чаргу—кожнага члена, кандыдата і спачуваючага нашай большэвіцкай партыі.

Усе партыйныя арганізацыі абавязаны яшчэ больш узмацніць барацьбу за ідэйную ўзброенасць комуністаў, і гэтага патрабуюць асаблівасці класавай барацьбы на сучасным этапе. Патрабаванне партыйнага статута аб тым, што кожны комуніст абавязан з дня ў дзень працаваць над сваім ідэйным узбраеннем, ёсць непахісны партыйны закон. Гэту зусім відавочную для кожнага большэвіка ісціну яшчэ прыходзіцца напамінаць, бо сярод некаторых комуністаў яшчэ сустра-

каецца процістаўленне практычнай работы свайму тэарэтычнаму росту.

Выніікі праверкі партдакументаў з выключнай вострасцю падкрэсліваюць неабходнасць павышэння рэволюцыйнай партыйнай пільнасці, а гэта значыць—сістэматычнай работы над ідэйна-палітычнай узброенасцю кожнага комуніста.

Трэба прама сказаць, што пастаноўка справы партыйнай прапаганды і агітацыі ў радзе партарганізацый (Ветрына, Жлобін, Лельчыцы, Чэрвень і інш.) яшчэ далёка адстае ад задач, пастаўленых правадыром нашай партыі—тав. Сталіным.

Прапаганда і агітацыя ў радзе раёнаў стаіць яшчэ на празмерна нізкім узроўні. Партарганізацыі не заўсёды клапоцяцца аб правільным кірунку і арганізацыі партыйнай прапаганды і агітацыі, а ў выніку—дапускаюцца скажэнні, шкалярства, схаластычнасць, на што зусім правільна ўказаў у сваім рашэнні ЦК ВКП(б), прапрацоўваемы матар'ял не заўсёды ўвязваецца з палітычнымі задачамі і барацьбой партыі ў сучасны момант.

Цэнтральны Камітэт ВКП(б) за апошні час вынес рад пастаноў аб партыйнай прапагандзе, у якіх асудзіў падмену сур'ёзнай вучобы траскатнёю і шуміхай, усклаў на сакратароў парткомаў непасрэднае кіраўніцтва камплектаваннем партшкол, абавязаў прапусціць усіх прапагандыстаў праз спецыяльна вылучаныя камісіі, указаў на неабходнасць палепшыць выкладанне гісторыі партыі.

Рашэнне ЦК ВКП(б) не знашло належнага праламлення ў справе арганізацыі сапраўднага кіраўніцтва партыйнай прапагандай, у выніку чаго з'явіліся буйнейшыя недахопы ў пастаноўцы партыйнай прапаганды, якія былі ўскрыты ЦК ВКП(б). Самы факт пастаноўкі нашага даклада на Оргбюро ЦК ВКП(б) сведчыць аб велізарнай увазе з боку ЦК ВКП(б) гэтаму важнейшаму ўчастку партыйнай работы. ЦК ВКП(б) падверг сур'ёзнай крытыцы работу аддзела партыйнай прапаганды ЦК КП(б)Б і ўказаў нам на тое, што ў нас яшчэ ёсць сур'ёзнейшыя недахопы ў справе арганізацыі і кіраўніцтва прапагандысцкай работай.

Пленум ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні таксама зусім правільна падверг рэзкай крытыцы ў асаблівасці работу аддзела партыйнай прапаганды і з усёй рашучасцю падкрэсліў:

> «Гэтыя недахопы з'явіліся прамым рэзультатам таго, што ЦК КП(б)Б не кіраваў штодзенна гэтай важнейшай справай, а аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б і асабіста загадчык аддзелам партпрапаганды і агітацыі тав. Конік не арганізавалі канкрэтнага аперацыйнага кіраўніцтва, кантролю за становішчам партпрапаганды і агітацыі і праверкі выканання рашэння ЦК ВКП(б) аб прапагандысцкай рабоце».

Пастанова ЦК партыі «Аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы час» з асаблівай вострасцю паставіла пытанне аб сістэматычнай рабоце над павышэннем ідэйна-палітычнага ўзроўню ў першую чаргу прапагандысцкіх кадраў, бо **якасць работы ў школах і гуртках залежыць перш за ўсё ад узроўню падрыхтоўкі і ідэйнай узброенасці самога прапагандыста.**

Недахопы ў падборы і рабоце з прапагандысцкімі кадрамі непасрэдна звязаны таксама і з тым, што большасць гаркомаў і райкомаў партыі ўсур'ёз не займаліся гэтай справай. Для цэлага раду раёнаў характэрна неўпарадкаванасць уліку, адсутнасць сістэматычнага

вывучэння, штодзеннай работы і клапатлівага вырошчвання прапагандыстаў, засмечанасць іх складу, што асабліва падкрэсліў пленум ЦК КП(б)Б:

> «Нездавальняючае становішча справы падбору і вывучэння прапагандысцкіх кадраў у радзе партыйных арганізацый (Магілеў, Гомель, Лепель, Плешчаніцы, Менск, Бялынічы, Чэрвень і інш.), дзе, у выніку несур'ёзных адносін з боку ГК і РК КП(б)Б, у ролі «прапагандыстаў», як паказала праверка партдакументаў, аказаліся чуждыя і неправераныя людзі».

Найбольш яскравым прыкладам засмечанасці прапагандысцкага складу з'яўлялася магілеўская партарганізацыя, дзе пры праверцы партдакументаў выкрыты і выгнаны з радоў партыі каля 16 былых прапагандыстаў.

Вось твар некаторых з іх:

Васілеўскі—сын буйнага кулака. Пасля лютаўскай рэволюцыі быў кіруючым работнікам партыі эсэраў. Пасля разгрому эсэраў у 1919 г. прымкнуў да «талстоўцаў», у далейшым—яры нацдэм, супрацоўнік Ігнатоўскага і Лёсіка. Гэты тып у 1925 г. пралязае ў кандыдаты ВКП(б), а ў апошнія гады прыстрайваецца кіраўніком партыйнай школы.

Вяршынін—казачы есаул, з сям'і буйнага сібірскага кулака. У час Окцябрскай рэволюцыі аховаў стаўку галоўнакамандуючага карнілаўскіх войск. Гэты белагвардзеец, да выкрыцця яго, працаваў у якасці выкладчыка палітэканоміі ў соўпартшколе і вячэрнім комвузе. Яму-ж даручаецца кіраўніцтва партыйным гуртком.

Такія факты прытуплення партыйнай пільнасці мелі месца і ў іншых партарганізацыях.

Ідэйны ўзровень прапаганды залежыць у першую чаргу ад таго, каму даручаецца кіраўніцтва гуртком і школай. Поспех і якасць работы партыйнай школы залежыць галоўным чынам ад прапагандыста.

Гэта не раз падкрэслівалася правадырамі нашай партыі—Леніным і Сталіным.

Ленін яшчэ ў 1902 годзе пісаў:

> «Да рэчы, з поваду прапагандыстаў я хацеў-бы яшчэ сказаць некалькі слоў супроць звычайнага **перапаўнення** гэтай прафесіі малаздольнымі людзьмі і прыніжэння тэтым узроўню прапаганды. У нас іншы раз усякі студэнт без разбору лічыцца прапагандыстам, і ўся **моладзь** патрабуе, каб ёй «далі гурток» і т. п. З гэтым належала-б змагацца, бо шкоды ад гэтага бывае вельмі многа. Сапраўды вытрыманых прынцыпова і здольных прапагандыстаў **вельмі нямнога** (і каб стаць гэткім, трэба парадкам павучыцца і панабраць вопыту), і такіх людзей трэба спецыялізаваць, займаць іх цалкам і берагчы сугуба» *).

Так Ільіч вучыў нас адносіцца да падбору прапагандыстаў і да работы з імі. Гэтаму-ж вучыць нас і тав. Сталін. У рашэнні ЦК аб прапагандысцкай рабоце ён звярнуў увагу на неабходнасць падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі прапагандыстаў, на належную арганізацыю работы з імі.

Аб гэтым, нажаль, забываюць некаторыя партарганізацыі. У радзе партарганізацый праходзяць самацёкам семінары, індывідуаль-

*) **Ленін**, т. V, стар. 185.

ныя кансультацыі, палітычныя інфармацыі, абмен вопытам, снабжэнне літаратурай, наглядными дапаможнікамі і іншымі матар'яламі да заняткаў; не арганізавана палягчэнне нагрузкі прапагандыстам і работа над сістэматычным павышэннем іх тэарэтычнага, палітычнага і культурнага ўзроўню. Пропсемінары наведваюцца неакуратна, і змест іх работы не заўсёды задавальняе прапагандыстаў.

Індывідуальныя кансультацыі, на якіх прапагандыст мог-бы атрымаць адказ на хвалюючыя яго пытанні, заўвагі па плану заняткаў, указанні, як лепш прыпадносіць слухачам матар'ял, што і як выкарыстоўваць з наглядных дапаможнікаў,—не арганізаваны.

Пленум ЦК КП(б)Б зусім ясна адзначыў:

> «Важнейшая справа прапаганды ленінізма, вывучэнне гісторыі ВКП(б), КП(б)Б ва многіх выпадках даручаецца слаба падрыхтаваным прапагандыстам (Мазыр, Лельчыцы, Жлобін, Віцебск, Нароўля і інш.), а асноўны кадр партыйных работнікаў у сваёй большасці не вядзе непасрэднай прапагандысцкай работы».

Таму не выпадковы факты спрашчэнства і прамых скажэнняў гісторыі партыі.

У Гомелі прапагандыст тав. Каплан сцвярджаў, што ліберальная буржуазія ў рэволюцыю з'яўлялася рэволюцыйнай сілай, рухаючай сілай рэволюцыі.

У тым-жа Гомелі прапагандыст тав. Фрыдман прадыктаваў слухачам для запісу ў сшытак наступную фразу: «Народнікі лічылі, што ў Расіі павінна быць соцыялістычная рэволюцыя».

Праверка прапагандыстаў у Полацкім раёне паказала, што частка іх з прапагандысцкай работай справіцца не можа з-за непадрыхтаванасці.

Тав. Гваздзёва, напрыклад, была прапагандыстам палітшколы і не магла растлумачыць, што такое «СССР».

Тав. Казлоў, вылучаны кіраўніком гуртка па гісторыі партыі, сам гісторыі партыі ніколі не вывучаў.

Прапагандысты раду партарганізацый (Лельчыцы, Жлобін, Нароўля), рыхтуючыся да заняткаў, не чытаюць класікаў марксізма-ленінізма.

Падобныя недапушчальныя факты маглі мець месца толькі таму, што парткамітэты па сутнасці не кіравалі партвучобай, кожным прапагандыстам, гуртком, заняткамі, слухачом, не цікавіліся тым, як прапагандыст рыхтуецца да заняткаў, як слухачы засвоілі кожную пройдзеную тэму.

За апошні час партарганізацыі пачалі ўдзяляць вялікую ўвагу кіраўніцтву партпрапагандай. Да такіх у першую чаргу трэба аднесці мазырскі акруговы камітэт партыі. Сакратары акругкома тт. Ананьеў і Раманенка асабіста гутарылі амаль з усімі прапагандыстамі акругі, правяралі кожнага і толькі пасля гэтага склад прапагандыстаў быў зацверджан на бюро.

Мы маем многа фактаў, якія гавораць аб тым, як значна палепшылася ў радзе партарганізацый пастаноўка справы партыйнай прапаганды. Мы маем добрыя ўзоры работы школ, прапагандыстаў-энтузіястаў, усёй душой адданых сваёй справе.

Так было, напрыклад, у Віцебску.

Тав. **Трубнікаў** працуе механікам фабрыкі і кіруе школай паліт-

граматы. Не гледзячы на недастатковую падрыхтоўку да прапагандысцкай работы, ён можа служыць узорам любоўных адносін к даручанай справе. Старанна рыхтуецца да заняткаў, складае планы, дыяграмы, канспекты, падбірае бягучы матар'ял па розных пытаннях тэмы, спецыяльна працуе з адстаючымі, ходзіць да іх на дом. Нядаўна зрабіў справаздачу на пленуме гаркома партыі.

Тав. Каган—член партыі з 1930 года, працуе на фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» і кіруе гуртком па гісторыі партыі, у якім займаецца 20 чалавек у дзве змены. Скончыў двухмесячныя курсы прапагандыстаў. Старанна рыхтуецца да заняткаў, прапрацоўвае класікаў марксізма-ленінізма. Да першай тэмы прачытаў «Што рабіць?» Леніна, даклад тав. Берыя, «Сталін і Хашым», «Тры крыніцы—тры складаныя часткі марксізма-ленінізма» і паасобныя раздзелы з «Пытанняў ленінізма». Да другой тэмы, акрамя падручніка, чытаў «Крок наперад—два назад» і рэзалюцыю II з'езда партыі. Да тэмы «1905 год» прапрацаваў артыкулы Леніна «Даклад аб рэволюцыі 1905 года», «Аб III з'ездзе партыі», «Спутник агитатора» № 23—24.

Тав. Каган працуе на-даму з адстаючымі слухачамі тт. Гурэвіч, Піцерскай і Шульман. З мастацкай літаратуры за апошні час прачытаў: «Як гартавалася сталь» Астроўскага, «Я люблю» Аўдзеенкі, «Маці» Горкага і інш.

У Віцебску, Гомелі, Менску і розных раёнах многа добрых прапагандыстаў, пра якіх мы мала ведаем, але ведаць абавязаны.

**На ўчастку партыйнай асветы, як і ўсюды, патрэбна чуласць, клопаты і ўвага да людзей.** Асабліва гэта неабходна, калі справа ідзе аб ідэйным выхаванні кадраў прапагандыстаў, аб іх тэарэтычным узбраенні, узбагачэнні. **Патрэбны асабліва клапатлівыя адносіны да кожнага прапагандыста паасобку.**

Аднак такіх адносін мы яшчэ не маем у цэлым радзе партарганізацый, на што зусім правільна ўказала «Правда» у сваёй перадавіцы ад 9/II-36 г.:

> «У Татарыі, Беларусі, Чэлябінскай вобласці няма яшчэ самых элементарных клопатаў аб прапагандыстах. Нават на буйных заводах сустракаюцца партыйныя кіраўнікі, якія не разумеюць, што яны самі павінны быць узорам прапагандыста».

Праверка партдакументаў, побач з выяўленнем чуждых партыі людзей, паказала, што комуністы, якія выраслі за час свайго прабывання ў радах нашай партыі, заставаліся незаўважанымі, тым часам як многія з іх могуць быць прапагандыстамі. Так, у Бабруйскім раёне выяўлена 50 комуністаў, здольных да прапагандысцкай работы. Ім цяпер аказваецца штодзенная канкрэтная дапамога.

У Барысаўскім, Плешчаніцкім, Чэрыкаўскім, Глускім і іншых раёнах таксама выяўлены і падрыхтаваны для прапагандысцкай работы многія члены партыі.

Разам з упарадкаваннем сваёй партыйнай гаспадаркі мы абавязаны навесці ўзорны парадак і ў гаспадарцы прапагандысцкай. Кожны райком і гарком партыі павінен наладзіць дакладны ўлік усіх прапагандыстаў.

Тав. **Гікала** неаднакроць указваў нам і крытыкаваў нашы недахопы, асабліва падкрэсліваючы неабходнасць навесці парадак у прапагандысцкай гаспадарцы, вывучыць кадры прапагандыстаў,

прапрацаваць вынікі праверкі партдакументаў—гэты каштоўны матэр'ял, які адкрывае вельмі многае ў гісторыі нашай партыі.

У рашэнні ЦК ВКП(б) адзначана:

> «Усе прапагандысты павінны быць праверэны спецыяльнымі камісіямі ў складзе кіруючых работнікаў райкомаў і лепшых прапагандыстаў і зацверджаны на бюро райкома».

Гэтыя ўказанні рад райкомаў да апошняга часу фактычна не выконваў. Нават у тых выпадках, калі для праверкі прапагандыстаў пры райкомах ствараліся камісіі, іх работа насіла кампанейскі характар.

**Партарганізацыі абавязаны сістэматычна вывучаць свае прапагандысцкія кадры ў працэсе іх заняткаў, на пропсемінары, на сходах партыйных груп, у час індывідуальных кансультацый, сістэматычна заслухоўваць іх справаздачы на паседжаннях парткома, бюро райкома.**

Асаблівая ўвага павінна быць звернута на тое, наколькі палітычна завострана выкладае прапагандыст вучэнне Маркса-Энгельса-Леніна-Сталіна, як звязвае вывучэнне рэволюцыйнай тэорыі з пытаннямі бягучай палітыкі партыі.

Партарганізацыі павінны стварыць прапагандыстам неабходныя ўмовы для работы і перш за ўсё ўзняць іх аўтарытэт у вачах партыйнай арганізацыі. Партыйныя арганізацыі і іх кіраўнікі павінны акружыць прапагандыста ўвагай і клопатамі, дабіцца, каб ён не загружаўся іншай работай, акрамя асноўнай, прадаставіць яму ўсе магчымасці для сістэматычнай паглыбленай падрыхтоўкі да заняткаў. Толькі пры гэтай умове мы можам дабіцца значных поспехаў у павышэнні якасці партыйнай вучобы.

Семінары прапагандыстаў зараз павінны карэнным чынам змяніць характар сваёй работы і служыць, галоўным чынам, задачам сістэматычнага павышэння палітычнага ўзроўню прапагандыста на **падставе вывучэння асноўных твораў класікаў марксізма-ленінізма** і неабходных партыйных дакументаў. Перад заняткамі гуртка трэба ўсюды і абавязкова арганізаваць індывідуальную кансультацыю, асабліва рабочых і калгасных прапагандыстаў.

> «З прапагандыстамі і агітатарамі неабходна сістэматычна працаваць, інструктаваць іх, выпраўляць іх памылкі і дапамагаць спецыяльнымі лекцыямі, арганізацыяй семінараў, наладжваннем кансультацый пры партгабінетах» **(Стэцкі).**

Да кансультацыі павінен быць прыцягнут створаны ў адпаведнасці з пастановай ЦК пры партыйных камітэтах актыў прапагандыстаў.

Трэба, нарэшце, засвоіць, што добра пастаўленая палітычная інфармацыя, своечасовае азнаямленне прапагандыстаў з важнейшымі партыйнымі дакументамі і падзеямі ўнутранага і міжнароднага жыцця нашай краіны і партыі мае рашаючае значэнне для работы прапагандыстаў.

Побач з семінарамі, кансультацыяй і палітычнай інфармацыяй сакратара, неабходна таксама сістэматычна практыкаваць чытку для прапагандыстаў высокакваліфікаваных дакладаў і лекцый на актуальныя палітычныя і тэарэтычныя тэмы, з тым каб прапагандыстаў заўсёды трымаць у курсе палітычнага жыцця партыі і краіны, важнейшых праблем гісторыі партыі, ленінізма, палітычнай эканоміі і т. д.

**Партыйны габінет павінен на справе стаць цэнтрам арганізацыі ўсіх відаў дапамогі прапагандыстам.** Партыйныя габінеты павінны падрыхтаваць матар'ялы да кожных заняткаў у партыйных школах і гуртках (падбор бягучай палітычнай і мастацкай літаратуры, наглядных дапаможнікаў, карт, дыяграм і т. п.).

Яны павінны таксама арганізаваць узорныя заняткі вопытных прапагандыстаў, каб рабочыя-прапагандысты маглі бачыць, як трэба ставіць пытанні, выкарыстоўваць наглядныя дапаможнікі, увязваць бягучую палітыку з прапрацоўкай гісторыі партыі і ленінізма.

Пастанова ЦК ВКП(б) патрабуе індывідуальнага падыходу ў партвучобе да кожнага члена і кандыдата партыі, да кожнага спачуваючага. Аднак не ўсе парт'арганізацыі правільна пабудавалі партыйную сетку. Замест таго, каб уважліва прагледзець склад гурткоў, зрабіць некаторую перагрупоўку слухачоў, яны, па сутнасці, пачалі праводзіць агульныя пераўкамплектаванні, не ўлічваючы ступені падрыхтаванасці і жадання комуніста.

Так, у Жыткавіцкім раёне, у гуртку па гісторыі партыі займаліся малаграматныя (Еўсеенка і інш.), а ў кандыдацкай школе—зусім няграматныя: Окунец (не здолеў прачытаць назву газеты «Правда»), Жогаль, Купрацэвіч, Макарэвіч, Шкада і інш.

У Мазырскім раёне ў гуртку па гісторыі партыі, якім кіруе тав. Левін, знаходзіліся зусім няграматныя, як Курцэр, Перэльман, Заяц, Нодэльман. У гэтым-жа гуртку хацелі вывучаць гісторыю партыі на яўрэйскай мове тт. Гонікман, Курцэр і інш., але іх жаданне не было ўлічана.

На заводзе «Чырвоны Окцябр» у гуртку па гісторыі партыі (кіраўнік тав. Пліткевіч), побач з падрыхтаванымі былі палітычна адсталыя таварышы, як Берман, Гофман, Мінкевіч, Раніцкі; таварышы Гонікман Ц. і Паліцкая хацелі вывучаць гісторыю партыі на яўрэйскай мове. Такі гурток быў створан толькі пасля нашага ўказання.

Не менш характэрна камплектаваліся гурткі па гісторыі партыі ў Петрыкаўскім раёне. Большасць гурткоў і школ перавялі на вывучэнне гісторыі партыі, пачынаючы з пасляокцябрскага перыяда, не праверыўшы ведаў слухачоў, не закончыўшы з імі праграмы.

У Гомелі гурткі і школы камплектаваліся таксама без уліку палітычнага і агульна-адукацыйнага ўзроўню і запатрабаванняў паасобных комуністаў, кіруючыся выключна тэрытарыяльным прызнакам. У гурткі па гісторыі партыі залічаны тт. Кавалёў і Даманікаў (Сельмаш), Левінаў і Баскін (ф-ка «Комінтэрн»), Чайкоў і Кастусёў (Ерміна), Лапіцкая (Давідаўка), Брэйгін (ф-ка «Спартак»), тым часам як па сваіму палітычнаму ўзроўню яны падыходзяць толькі ў гурткі палітграматы. Тт. Чайкоў і Кастусёва не ведаюць нават, колькі рэспублік уваходзіць у СССР. Тав. Брэйгін на пытанне, што такое дэмакратычны цэнтралізм, даслоўна адказаў: «У нас зараз дэмакратычны цэнтралізм шырока прымяняецца. Вось, напрыклад, калі нашаму дырэктару Карасіку трэба пабудаваць яшчэ адзін цэх, прыкладна,—біськвітны, дык яму не абавязкова зварочвацца ў цэнтр за дазволам, ён можа толькі дагаварыцца з мясцовымі органамі і пачаць пабудову гэтага цэха. У гэтай справе ён мае вялікую самастойнасць».

Комуністы-адзіночкі горада механічна былі вызначаны ў вячэрнюю СПШ, дзе побач з даволі граматнымі сядзяць таварышы, якія ўпершыню прыступілі да партвучобы.

Гэтыя паасобныя са шматлікіх падобных прыкладаў сведчаць аб тым, што многія партыйныя кіраўнікі, сакратары райкомаў недастаткова цікавіліся справай ідэйнага выхавання комуністаў.

Самым буйным недахопам у галіне арганізацыі партыйнай прапаганды з'яўлялася практыка сезоннасці ў партвучобе.

У рашэнні ЦК партыі «Аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы час» з усёй рашучасцю падкрэслена:

> «Палітыка-выхаваўчая работа партыі не можа насіць «сезоннага» характару, а павінна весціся сістэматычна, на працягу ўсяго года».

Аднак рад райкомаў партыі (Менск, Талачыно, Капыль, Мсціслаўль і інш.) не забяспечылі таго, каб гэта рашэнне праводзілася ў жыццё. У Дзержынскім, Кіраўскім і іншых раёнах гурткі і школы не працавалі вясною і ўлетку, а ва многіх—нават і ў асеннія месяцы.

З паданых фактаў відаць, што не ўсе партарганізацыі ў належнай меры ўсвядомілі шкоднасць сезоннасці ў партыйнай прапагандзе і прама ігнаравалі адпаведны пункт рашэння Цэнтральнага Камітэта ВКП(б).

Пастанова ЦК ВКП(б) таксама патрабуе:

> «У ходзе заняткаў усіх школ і гурткоў абавязкова праводзіць гутаркі з членамі гурткоў па пытаннях палітыкі партыі і міжнароднага становішча, растлумачваючы членам гурткоў няясныя для іх або цікавячыя іх пытанні».

Як-жа выконваецца гэты пункт пастановы?

У Глуску, напрыклад, комуністы партарганізацыі МТС на пытанне, як яны разумеюць рашэнне партыі і ўрада аб увядзенні персанальных званняў у Чырвонай арміі, прама сказалі, што яны не разбіраліся ў гэтым пытанні. Аказалася, што прапагандысты на занятках у школах і ў гуртках не лічылі патрэбным удзяляць увагу гэтаму пытанню.

Абследванне многіх гурткоў паказала, што слухачы вельмі дрэнна рыхтуюцца да заняткаў. Палітычны ўзровень заняткаў ва многіх школах і гуртках даволі нізкі. Слухачы гуртка гісторыі партыі ў Капаткевіцкім раёне літаральна не ведалі зместу ўжо прапрацаванай імі тэмы і не маглі адказаць на самыя элементарныя пытанні бягучай палітыкі нашай партыі і совецкай дзяржавы, некаторыя не здолелі вытлумачыць розніцу паміж дыктатурай пролетарыята і дыктатурай буржуазіі. Слухачы гуртка ва Уздзенскім раёне не ведалі карэнных разыходжанняў паміж большэвікамі і меншавікамі ў 1905 годзе, сутнасці фашызма і т. д.

Рашэннем ЦК нашай партыі было прапанавана ўсім партыйным арганізацыям вывучыць даклад тав. Берыя. Значэнне гэтага даклада для ўсіх ясна, гэта—каштоўнейшы ўклад у гісторыю нашай партыі. У дакладзе тав. Берыя з велізарнай гістарычнай глыбінёю паказана работа, праведзеная тав. Сталіным, які ўзначальваў большэвіцкія арганізацыі Закаўказзя і з'явіўся асновапаложнікам ленінскай арганізацыі ў Закаўказзі.

Як-жа выконвалася гэта рашэнне ЦК?

Даклад тав. Берыя неабходна было прапрацаваць ва ўсіх школах і гуртках, кожны комуніст павінен быў добра яго засвоіць. Тым ча-

сам віцебская і рад іншых партарганізацый усё яшчэ не заняліся гэтай справай. Даклад тав. Берыя не стаў яшчэ ва многіх партыйных арганізацыях асноўным дакументам па вывучэнню гісторыі нашай партыі.

Кіраўнікі партасветы не наведваюць заняткаў, не ставяць даклады, не ўнікаюць у сутнасць і метады работы школ і гурткоў. Усё яшчэ дапускаюцца грубейшыя скажэнні пры камплектаванні, не знішчана шкалярства, гурткі адарваны ад жывога жыцця.

Рэдка можна знайсці прапагандыста, які-б праходзіў праграму, загадзя намеціўшы план і тэмы. Зусім правільна адзначыў бюлетэнь ЦК ВКП(б) «В помощь партийной учебе», што барацьбу з устанаўленнем стандартных тэрмінаў пры выкананні вучэбнага плана многія гурткі зразумелі, як адмаўленне ад усякіх планаў і тэрмінаў. Праверка выявіла факты, калі на адну тэму трацілася па 5—6 заняткаў. Партыйныя камітэты абавязаны не толькі заслухваць справаздачы аб рабоце гурткоў, але і ўнікаць у яе сутнасць, разабрацца ў яе змесце, планах, тэрмінах, метадах і т. п. Неабходна кожнаму гуртку даць план і тэрміны работы.

Каб палепшыць канкрэтнае кіраўніцтва і дапамогу прапагандыстам, гурткам, школам, ЦК ВКП(б) прапанаваў:

> «Арганізаваць пры камітэтах актыў прапагандыстаў і агітатараў для вядзення прапагандысцкай і агітацыйнай работы па заданнях партыйных камітэтаў, сістэматычна інструктуючы і падрыхтоўваючы гэты актыў».

Падбіраць актыў прапагандыстаў трэба выключна ўважліва, усебакова абгаварыць кожную кандыдатуру і зацвердзіць на бюро ГК і РК. Гэты актыў, сістэматычна інструктуемы і падрыхтоўваемы партыйным камітэтам, павінен функцыянаваць, як жывы палітычны апарат, які дзейнічае па ўказаннях райкома.

Вось чаму і бюро ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове «Аб стварэнні пры гаркомах і райкомах актыва прапагандыстаў і агітатараў» падкрэслівае:

> «Апіраючыся на актыў прапагандыстаў і агітатараў, раённыя камітэты партыі змогуць лепш арганізаваць і паставіць работу па партасвеце і абслужыць бягучай злобадзённай агітацыяй шырокія масы працоўных».

Многія раёны не зразумелі гэтага важнейшага рашэння ЦК нашай партыі і абмежаваліся тым, што зацвердзілі на бюро спісы актыва прапагандыстаў і агітатараў. Больш таго, рад партыйных камітэтаў уключылі ў актыў не толькі ўсіх прапагандыстаў, але амаль і ўсіх комуністаў, якім у той ці іншы час даручалася зрабіць даклад або выступленне на палітычную тэму (Жлобін, Бягомля, Плешчаніцы).

Актыў гэты створан амаль ва ўсіх раёнах, але ў большасці выкарыстоўваецца ў якасці бяседчыкаў і дакладчыкаў, тым часам як асноўная яго задача—інструктаваць прапагандыстаў і агітатараў, практычна дапамагаючы ім у найлепшай арганізацыі агітацыйна-прапагандысцкай работы.

Партарганізацыі павінны забяспечыць сапраўднае кіраўніцтва гэтым актывам, распрацаваць канкрэтны план выкарыстання і работы з ім у адпаведнасці з пастановай пленума ЦК КП(б)Б.

Сур'ёзнейшай задачай з'яўляецца арганізацыя масавай палітыч-

най агітацыі для ідэйнага ўзбраення ў духу марксізма-ленінізма членаў партыі і беспартыйных мас.

Штодзенная агітацыйная работа непасрэдна ў цэху, брыгадзе, змене (палітгутаркі, групавая чытка газет, паліт'інфармацыі, адказы на цікавячыя рабочых пытанні) не пастаўлена яшчэ на належную вышыню, асабліва на начных зменах, дзе яна нярэдка зводзіцца да паасобных дакладаў у сувязі з той ці іншай палітычнай кампаніяй.

Праверкай у Бабруйску, Віцебску і Гомелі выяўлена, што значная частка рабочых своечасова не інфармуецца аб важнейшых рашэннях партыі і ўрада.

Склад агітатараў і чытчыкаў-бяседчыкаў не зацвярджаецца на парткоме і ў лепшым выпадку вызначаецца парторгамі цэхаў. Не дзіва, што сярод іх значны процант палітычна непадрыхтаваных.

На віцебскіх фабрыках «КІМ», «Сцяг індустрыялізацыі» і некаторых іншых не было прапрацавана рашэнне ЦК ВКП(б) «Аб становішчы палітычнай агітацыі на Балахнінскім камбінаце».

У пастаноўцы партыйнай прапаганды вялікае значэнне набывае завочнае навучанне для партыйна-комсамольскага актыва, калгаснага актыва і комуністаў-адзіночак. Праўда, у гэтай галіне партвучобы рад раёнаў (Осіповічы, Капыль) мае значны зрух, асабліва ў справе арганізацыі і кіраўніцтва завочным навучаннем. Аднак трэба з усёй рашучасцю падкрэсліць наяўнасць многіх недахопаў, галоўным з якіх з'яўляецца тое, што Інстытут завочнага партнавучання і яго кіраўнікі (Бекерман) не ведаюць завочнікаў, дрэнна імі кіруюць і напраўляюць работу кожнага. Партарганізацыі не цікавяцца вучобай завочнікаў, не ведаюць іх, не дапамагаюць у рабоце. Сакратары райкомаў самі не цікавяцца тым, як завочнік засвойвае пройдзеныя тэмы. Не ўсе радыёпартаўдыторыі працуюць. Большасць іх не абсталявана, не мае той утульнасці, якая-б давала магчымасць завочніку сістэматычна працаваць над сабой. Такое становішча ў далейшым нецярпіма. Партарганізацыі павінны забяспечыць штодзеннае кіраўніцтва завочнай партыйнай вучобай комуністаў, як гэтага патрабуе пленум ЦК КП(б)Б.

Наша грамадскае жыццё з кожным днём становіцца ўсё больш разнастайным, узнімаецца культурны ўзровень працоўных, множацца іх запросы і патрабаванні. Рабочы і калгаснік нашай краіны хочуць ведаць, як жыве і змагаецца пралетарыят і працоўнае сялянства Захаду і Ўсходу, цікавяцца падзеямі ў Абісініі, Кітаі і т. д. На гэтыя хвалюючыя пытанні своечасова і граматна павінна адказваць бальшэвіцкая агітацыя, якая заўсёды была магутнаю зброяй нашай партыі.

Каб палепшыць агітацыйную работу і палітычную інфармацыю сярод шырокіх мас рабочых, калгаснікаў, працоўных аднаасобнікаў, трэба перш за ўсё стала працаваць з агітатарамі, забяспечыць іх літаратурай, сістэматычна павышаць культурны ўзровень.

Кадры агітатараў і бяседчыкаў-чытчыкаў павінны ствараться з лепшых, палітычна граматных і вытрыманых партыйцаў, а для гэтага партыйныя камітэты абавязаны глыбока вывучыць кожнага з іх на сваім прадпрыемстве, штодзенна працаваць з імі і толькі пасля ўсебаковага абгаварэння кандыдатуры зацвярджаць яе на парткоме, як гэтага патрабуе рэзалюцыя пленума:

«Пленум ЦК КП(б)Б патрабуе ад партыйных камітэтаў штодзеннай сістэматычнай дапамогі агітатарам, бяседчыкам-чытчы-

кам у павышэнні іх палітычнага і агульнаасветнага ўзроўню, асабістага кіраўніцтва сакратара парткома агіткалектывам, сістэматычнага інструктажу іх па ўсіх бягучых пытаннях палітыкі партыі, совецкай улады і палітычнай інфармацыі па пытаннях жыцця сваёй партарганізацыі, ажыццяўляючы рашэнне ЦК ВКП(б) «Аб становішчы палітычнай агітацыі на Балахнінскім папяровым камбінаце».

Партыйныя арганізацыі павінны бязлітасна змагацца супроць тых, хто лічыць, што па меры нашага пераможнага прасоўвання ўперад агітацыя траціць сваё баявое значэнне. Нельга забываць, што перад партыяй стаіць яшчэ вялікая задача: па-соцыялістычнаму перавыхаваць мільёны калгаснікаў—учарайшых аднаасобнікаў, агромныя масы рабочых і работніц, якія ўпершыню прышлі ў соцыялістычную вытворчасць, моладзь, якая не ведала старога ладу.

Выключна вялікі задачы партыйнай прапаганды ў сувязі з велізарным ростам стаханаўскага руху, агромнае значэнне якога неабходна давесці да свядомасці кожнага партыйца, кожнага рабочага, яшчэ і яшчэ раз глыбока праапрацаваць з імі прамовы таварыша Сталіна.

**Важнейшая і адказнейшая зазача партарганізацый, кожнага агітатара—растлумачыць сталінскі лозунг аб давядзенні ў бліжэйшым будучым штогодняй вытворчасці хлеба да 7—8 мільярдаў пудоў.**

Задача ўсіх партарганізацый—па-большэвіцку выканаць рашэнне пленума ЦК КП(б)Б аб выхаванні стаханаўцаў:

> «Пленум ЦК абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі ўцягнуць у сетку партыйнай і палітычнай вучобы ўсіх стаханаўцаў, перадавікоў з тым, каб іх ідэйна-палітычна выхаваць. Для гэтага неабходна ўлічыць запросы, узровень палітычнай і тэхнічнай граматнасці стаханаўцаў, арганізуючы для іх, па меры неабходнасці, паасобныя гурткі, аказваючы ім штодзённую дапамогу ў павышэнні іх агульнага культурна-тэхнічнага і палітычнага ўзроўню.

Нельга гаварыць аб сур'ёзным палепшанні партыйнай прапаганды, пакуль усе партыйныя арганізацыі не зразумеюць, што «для сапраўды большэвіцкай пастаноўкі справы партыйнай прапаганды патрабуецца перш за ўсё арганізацыйная работа».

Каб карэнным чынам палепшыць, астрэй адтачыць зброю большэвіцкай прапаганды, кіраўніцтва ёю павінны ўзяць у свае рукі самі сакратары партыйных камітэтаў. Гэта—іх першы абавязак.

Праверка партыйных дакументаў у цэлым радзе выпадкаў выявіла вялікую палітычную няграматнасць членаў партыі. Таму абавязак кожнага сакратара—сістэматычна займацца прапагандысцкай работай, наведваць школы, гурткі, сачыць за работай прапагандыстаў, усямерна дапамагаць ім.

Гэтага патрабуе студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б, які пры абгаварэнні становішча партыйнай прапаганды і агітацыі адзначыў у ёй рад сур'ёзных недахопаў і канкрэтна вызначыў далейшыя задачы.

ЦК ВКП(б) у сваіх апошніх указаннях асабліва падкрэсліў:

> «Трэба паставіць на належную вышыню выкладанне гісторыі партыі сярод членаў партыі, вывучэнне ўсіх і ўсякіх антыпартыйных груповак у гісторыі нашай партыі, іх прыёмаў барацьбы з лініяй партыі, іх тактыкі і тым больш,—вывучэнне

тактыкі і прыёмаў барацьбы нашай партыі з антыпартыйнымі групоўкамі, тактыкі і прыёмаў, даўшых нашай партыі магчымасць перамагаць і разбіць на-галаву гэтыя групоўкі. Трэба, каб члены партыі былі знаёмы не толькі з тым, як партыя змагалася і перамагала кадэтаў, эсэраў, меншавікоў, анархістаў, але і з тым, як партыя змагалася і перамагала трацкістаў, «дэмакратычных цэнтралістаў», «рабочую апазіцыю», зіноўеўцаў, правых ухілістаў, права-лявацкіх вырадкаў і т. д. Нельга забываць, што веданне і разуменне гісторыі нашай партыі з'яўляецца важнейшым сродкам, неабходным для таго, каб забяспечыць поўнасцю рэвалюцыйную пільнасць членаў партыі».

---

**А. Рыскін**

Сакратар менскага гаркома КП(б)Б

# Рэалізацыя вынікаў праверкі—баявая задача партарганізацыі *)

У маі месяцы 1935 года па ініцыятыве таварыша **Сталіна** было прынята рашэнне ЦК нашай партыі і разасланы адпаведны ліст аб арганізацыі і правядзенні праверкі партыйных дакументаў ва ўсёй нашай партыі, ва ўсіх нашых партыйных арганізацыях.

У дырэктыве ЦК ВКП(б) было сказана:

> «ЦК ВКП(б) устанавіў, што ў радзе партыйных арганізацый пануе грубейшае сваявольства ў абыходжанні з партыйнымі білетамі і зусім нецярпімы хаос ва ўліку комуністаў. Праверка ўскрыла шматлікія факты, калі ворагі партыі і рабочага класа карысталіся доступам да партыйных дакументаў, атрымалі партыйныя білеты і прыкрывалі імі сваю гнусную работу па падрыву справы партыі і совецкай дзяржавы. Падобнае нецярпімае абыходжанне з зажнейшымі партыйнымі дакументамі, пры якім ворагі партыі маглі свабодна пранікаць у нашы рады, беспакарана карыстаючыся ў сваёй падрыўной рабоце званнем члена партыі, сведчыць аб арганізацыйнай распушчанасці партыйнай арганізацыі, аб недапушчальным дабрадушшы і ратазействе сярод членаў партыі».

Указанні ЦК ВКП(б) былі пакладзены ў аснову ўсёй работы па праверцы партыйных дакументаў у нашай партыйнай арганізацыі, улічваючы пры гэтым яе асаблівасці, як партарганізацыі прымежнай.

Праверка партыйных дакументаў ператварылася ў велізарнай зажнасці арганізацыйна-палітычнае мерапрыемства па ўмацаванню маналітнасці радоў нашай партыі, што цалкам і поўнасцю пацвярджаецца вынікамі праверкі па менскай партарганізацыі.

Праверку партыйных дакументаў мы павінны былі правесці ў двухмесячны тэрмін. Аднак праведзена яна была ў 6—7 месяцаў, і то мы справіліся з гэтай работай толькі пры велізарнай дапамозе ЦК нашай партыі, асабіста тт. Гікало, Валковіча, Рубінштэйна і ўсёй нашай менскай партыйнай арганізацыі.

Трэба з усёй рашучасцю падкрэсліць, што бюро менскага гаркома партыі і я, як яго сакратар, дапусцілі ў пачатку праверкі партдакументаў рад памылак, у выніку якіх праверка, па нашай партарганіза-

*) З выступлення на пленуме менскага гаркома КП(б)Б.

цыі ў першы час праходзіла нездавальняюча. Але своечасовае ўмяшанне і агромная дапамога, якую аказалі нам у гэтай справе ЦК партыі і асабіста тав. Гікало, спрыялі таму, што дапушчаныя намі ў першыя дні, у пачатку развароту работы, памылкі і недахопы, мы выправілі на-хаду і па ўсёй нашай партыйнай арганізацыі праводзілі праверку на тым узроўні, якога патрабаваў ад нас Цэнтральны Камітэт і правадыр нашай партыі—таварыш Сталін.

У праверку партдакументаў была ўцягнута амаль уся менская партарганізацыя. Асабліва актыўны ўдзел прымала вялікая колькасць як гарадскога, так і рэспубліканскага актыва, не гаворачы ўжо аб сакратарах парткомаў, парторгах і, зразумела, аб апараце гарадскога і раённых партыйных камітэтаў.

У радзе звенняў нашай партарганізацыі праявілася выключная актыўнасць. Калі ў пачатку праверкі партдакументаў паступала абмежаваная колькасць заяў з кампраметуючым матар'ялам, то ў працэсе праверкі паступіла звыш 2000 пісьмовых заяў, не лічачы ўсякага роду вусных, прычым паступалі яны не толькі ад членаў партыі, але і ад беспартыйных. Па асобных партарганізацыях колькасць заяў дасягнула велізарнай лічбы. Па адной Акадэміі навук, дзе было 127 членаў партыі, паступіла больш 150 заяў. Гэта безумоўна не значыць, што заявы паступілі на ўсіх комуністаў,—на паасобных членаў партыі было падана па 3 і 4 заявы. Яны многа дапамаглі нам у рабоце і часам былі асноўным матар'ялам пры праверцы і вынясенні рашэння аб члене партыі.

Аднак, не ўсе нізавыя партарганізацыі і звенні падышлі да праверкі як след. У паасобных партыйных арганізацыях выявілася не толькі неразуменне, не толькі антыпартыйныя праявы, але проста класава-варожыя вылазкі ў самай непрыкрытай форме.

Абмяжуюся толькі двума прыкладамі.

У партарганізацыі Палітэхнічнага інстытута праверка ўжо набліжалася к канцу, а толку было мала: самакрытыка не разгарнулася, ніякіх заяў не паступіла. Тады мы спынілі праверку і пачалі яе нанова. У першую чаргу мы праверылі партдакументы сакратара парткома Сямёнава, на якога, паміж іншым, мелі кампраметуючы матар'ял. Нашы меркаванні цалкам пацвердзіліся. Сямёнаў аказаўся чуждым элементам. Ён не толькі не садзейнічаў арганізацыі партыйных і беспартыйных мас вакол праверкі, але ўзначальваў лінію супраціўлення ёй.

Адстараніўшы гэтага чалавека і абнавіўшы кіраўніцтва, мы на сходзе партарганізацыі адкрыта паставілі пытанне аб становішчы праверкі. У выніку ўжо на гэтым сходзе было падана больш 20 заяў з выключна кампраметуючым матар'ялам, на падставе якога выключана значная колькасць чуждых партыі людзей.

Другі прыклад датычыць партарганізацыі ВПІ, дзе яшчэ да праверкі партдакументаў была выкрыта і выгнана контррэволюцыйная групоўка. Праверка гэтай арганізацыі ўжо набліжалася к канцу, але амаль ніякіх вынікаў не дала. Мы парашылі ў ліку іншых партарганізацый адмяніць праверку і ў пярвічнай партарганізацыі ВПІ. Калі мы разгарнулі як след работу і востра падышлі да ўсіх спраў, што тварыліся ў гэтай партарганізацыі, то выкрылі ў ёй многа чужакоў, у тым ліку і прамых шпіёнаў.

З гэтых двух фактаў відаць, што праверка партыйных дакументаў не ўсюды праходзіла гладка. У паасобных партарганізацыях былі

яўна выражаныя антыпартыйныя, антысовецкія варожыя настроі. Класавы вораг зразумеў, што значыць праверка партыйных дакументаў і ўсяляк супраціўляўся правільнаму мерапрыемству партыі—рашучай ачыстцы партыйных радоў ад усяго наноснага, чуждага, варожага, што прыталілася ў нашай менскай партыйнай арганізацыі.

Многія з нас памятаюць, як праходзіла чыстка партыі да гэтай праверкі. Трэба прама сказаць, што ніколі мы так не правяралі партарганізацыі як зараз; ніколі так грунтоўна не аслабаняліся ад чужакоў, трацкісцкіх, меншавіцкіх, эсэраўскіх, бундаўскіх, нацдэмаўскіх элементаў, ад прамых правакатараў і шпіёнаў, ашуканчым шляхам прабраўшыхся ў партыю.

За час праверкі мы выключылі з нашай арганізацыі 1.178 членаў партыі і 439 кандыдатаў, а ўсяго 1.617 чал., г. зн. больш 18 проц. усёй арганізацыі. Па асобных пярвічных партарганізацыях процант засмечанасці быў значна большы. Так, з БелАН выключана 30 проц. агульнай колькасці членаў партарганізацыі, з Наркамсувязі—37 проц., ЦС АСО—31 проц., Наркамасветы—28 проц., Дзяржплана—21 проц., Галоўдартранса—25 проц., Наркамзема—19 проц., Дзяржбібліятэкі—44 проц.

Але справа не столькі ў процантах, у вялікай колькасці выключаных, колькі ў тым, што сярод выключаных ёсць значная колькасць асоб, якія займалі даволі адказныя месцы ў нашай рабоце, да якіх у свой час, нават у перыяды чыстак, ніяк не дабіраліся, а зараз дабраліся і даволі грунтоўна.

Чаму праверка дала такія рэзультаты?

Галоўным чынам таму, што мы смела правяралі і ачышчалі свае рады без палітыканства і «гешэфтмахерства», а выключна на высокай большэвіцкай прынцыповай аснове, ведаючы і будучы ўпэўненымі, што іменна гэтага і толькі гэтага патрабуе ад нас ЦК КП(б)Б і асабіста тав. **Гікало.** А ці заўсёды так было ў нашай менскай арганізацыі? Не, не заўсёды, і далёка не заўсёды.

На гэтай прынцыповай большэвіцкай аснове выхоўваўся за апошнія гады наш актыў, на гэтай аснове ён большэвізаваўся ў працэсе праверкі, згуртоўваўся вакол ЦК КП(б)Б, на гэтай-жа аснове, як ніколі, згуртоўваліся нашы рады вакол ленінскага ЦК ВКП(б) і вялікага **Сталіна.**

Прыведзеныя лічбы і факты засмечанасці сведчаць аб выключным прытупленні большэвіцкай пільнасці ў радзе звенняў нашай партыйнай арганізацыі.

Адну з вялікіх груп, каля палозы ўсіх выключаных, складаюць так званыя чужакі, якія, скарыстаўшы ратазейства паасобных партыйных кіраўнікоў, скрылі сваё мінулае і пралезлі ў партыю.

Возьмем к прыкладу хоць-бы Гурло, аб якім пісалі ўжо, як аб яўным прахадзімцу, называўшым сябе не толькі партызанам, але і камандзірам партызанскага атрада.

Што-ж ён прадстаўляе сабой у рэчаіснасці?

У 1917 г., яўна манархічна настроены, ён прымае ўдзел у карнілаўскіх атрадах, у 1918-1919 гг. знаходзіцца на тэрыторыі белых — у Чэхаславакіі, у 1919 г.—актыўны контррэвалюцыянер, у перыяд белапольскай акупацыі працуе ў магістраце, прымае ўдзел ва ўсіх справах па аграбленню сялян разам з усёй эсэраўскай капыльскай бандай. Гэты чалавек, скарыстаўшы элементы сямейнасці, групаўшчыны, кругавой парукі, пры агромнай дозе прытуплення пільнасці

з нашага боку, ухітрыўся на працягу 15 год не толькі выдаваць сябе за камандзіра чырвонага партызанскага атрада, які ніколі на Капыльшчыне не існаваў, але і пралезці ашуканчым шляхам у партыю пры дапамозе Мароза і Піліла, якія адзін другога ўцягнулі ў яе рады.

Такі твар аднаго з гэтай асноўнай групы. Прыблізна такі-ж твар і большасці з групы чужакоў, якія ашуканчым шляхам прабраліся ў партыю і доўгі час трымаліся ў ёй пры самым агідным прытупленні нашай партыйнай большэвіцкай пільнасці.

Другая група—гэта двурушнікі, трацкісты і звязаныя з імі асобы.

У нашай мэнскай партыйнай арганізацыі ў свой час (1923-1927 гг.) была даволі вялікая трацкісцкая групоўка. У перыяд 1927-28 гг. і ў 1930 г. значная частка трацкістаў была выкрыта і выключана з радоў партыі. У час прапрацоўкі ліста ў сувязі з забойствам тав. Кірава было выкрыта і выключана з нашай партарганізацыі яшчэ каля 60 двурушнікаў трацкістаў, аднак партарганізацыя канчаткова ад іх тады не вызвалілася. Пры праверцы партыйных дакументаў мы выкрылі і выключылі яшчэ 127 трацкістаў двурушнікаў і звязаных з імі асоб.

Сярод выключаных трацкістаў знаходзіліся не толькі так званыя адзіночкі, але і людзі, у той ці іншай форме згрупаваныя.

Адным з найбольш яркіх тыпаў выключаных трацкістаў двурушнікаў з'яўляецца Кармін—былы выкладчык ВКСГШБ, у мінулым актыўны сіяніст, выхадзец з дробнабуржуазнай клерыкальнай сям'і. Ужо ў 1921 г. Кармін выключаўся з партыі, як ідэалагічна няўстойлівы элемент, але потым быў адноўлены. Пачынаючы з 1928 года, як намі дакладна ўстаноўлена, ён быў цесна звязан з вядомай трацкісцка-зіноўеўскай групоўкаю Неўскага-Анатольева ў Маскве, якая ў першых лічбах студзеня мінулага года была арыштавана ў сувязі са справай падонкаў зіноўеўска-каменеўскага ахвосця. Кармін уцалеў таму, што яго ў той час не было ў Маскве, ён сядзеў у нас — у Менску. Гэтага тыпа мы выкрылі і выключылі з радоў партыі.

Вось другі тып двурушніка—Герман, былы дацэнт БДУ. Сын варшаўскага фабрыканта, ён у 1920 г. служыць у польскай арміі, у 1923 г. прабіраецца ў БССР, уступае ў комсамол, а потым у партыю, скрыўшы сваё соцыяльнае паходжанне. З 1927 г., яшчэ не будучы членам партыі, ён прымыкае да трацкістаў і, як гэта зараз устаноўлена, увесь час двурушнічае, застаючыся на контррэволюцыйнай трацкісцкай плацформе і ведучы актыўную контррэволюцыйную трацкісцкую работу. Ён спачатку не прызнаваўся ў двурушніцтве, але пасля таго, як мы яго выключылі, пачаў прызнавацца. Вось толькі адна вытрымка з яго паказанняў: «Прызнаюся, што я на працягу раду апошніх год не выкрываў сябе, як трацкіста, хоць у 1929 г. стаў на правільны шлях у той частцы, дзе я прызнаўся на чыстцы 1929 г. у прыналежнасці да трацкізма. Аднак, з 1932 г. я зноў застаўся на пазіцыях контррэволюцыйнага трацкізма, не быў згодзен з лініяй партыі, заставаўся, такім чынам, двурушнікам у партыі, лічачы, што ў партыі існуе тэрмідор і што партыя ідзе да выраджэння».

Такім чынам зусім відавочна, што Герман—двурушнік, контррэволюцыянер, самы сапраўдны трацкіст-белагвардзеец.

У сувязі з трацкісцкімі спразамі перад намі прашоў яшчэ цэлы рад асоб, якія ў мінулым належалі да іншых антысовецкіх і антыпар-

тыйных груповак і праяўлялі асаблівую актыўнасць у барацьбе з нашай партыяй. У адносінах гэтых контррэволюцыйных элементаў мы правялі адзіную лінію: самым рашучым чынам ачысціць ад іх нашы рады, з коранем вырваўшы рэшткі ворагаў партыі.

Трэцяя група выключаных—выхадцы з дробнабуржуазных нацыяналістычных партый. У нашай менскай партарганізацыі такіх выхадцаў было даволі многа—каля 4 проц. у адносінах да агульнай колькасці членаў партыі. Асноўная група іх улілася ў нашы рады ў перыяд масавага ўступлення ў партыю (1921-23 гг.), астатняя частка ўступіла пасля. Усе яны прымаліся без індывідуальнага адбору. Для нас цяпер зусім ясна, што яны не толькі не прадстаўлялі каштоўнасці для нашай партыі, але многія з іх як былі, так і засталіся, тымі-ж бундаўцамі, сіяністамі, меншавікамі, эсэрамі і не апраўдалі вялікае званне члена большэвіцкай партыі.

Чацвертая група выключаных—нацдэмы і асобы, звязаныя з імі.

У 1930-1931 гг. наша партыя і органы пролетарскай дыктатуры выкрылі як унутры партыі, так і па-за ёю, даволі вялікую контррэволюцыйную нацдэмаўскую арганізацыю і нанеслі ёй сакрушальны ўдар. Аднак многія актыўныя яе дзеячы тады яшчэ не былі выкрыты і засталіся ў нашых радах.

Аналізуючы вынікі праверкі, мы глыбока вывучалі тыя шляхі і каналы, праз якія ворагам удавалася пранікнуць у нашы рады.

Асноўным каналам пранікнення гэтых людзей у партыю было суцэльнае ашуканства з іх боку пры выключным прытупленні пільнасці нашых партыйных арганізацый. Белагвардзеец абавязкова стараўся скрыць сваё мінулае і ўцясацца ў давер'е, кулак цягнуў кулака ў рады нашай партыі. Асабліва даверчыва прымалі ў нас так званых палітычных эмігрантаў, пад шыльдай якіх часта скрываліся контррэволюцыйныя нацдэмаўскія і шпіёнскія элементы.

* * *

Якія ўрокі выцякаюць з праверкі партдакументаў для нашай менскай партарганізацыі?

У рашэннях пленума ЦК ВКП(б) па дакладу тав. **Ежова** сказана:

> «Галоўным урокам, як гэта паказаў вопыт праверкі партдакументаў, з'яўляецца тое, што члены партыі і некаторыя партарганізацыі ўсё яшчэ дрэнна засвоілі неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) аб неабходнасці ўсямернага павышэння большэвіцкай пільнасці і дысцыпліны сярод членаў партыі».

Праверка партыйных дакументаў паказала, што класавы вораг па меры росту нашых сіл прыбягае да найбольш утончаных метадаў пралязання ў яе рады, карыстаючыся прытупленнем класавай пільнасці, парушэннем статута.

Толькі адсутнасцю большэвіцкай пільнасці можна вытлумачыць факты грубага парушэння статута партыі ва многіх партарганізацыях, дзе злачынна падыходзілі да выдачы партыйных дакументаў, не адбіралі партбілеты ў выключаных, цалкам перадаверылі тэхнічнаму апарату такія важнейшыя партыйныя абавязкі, як прыём і здыманне з уліку новых членаў, хаванне партдакументаў і т. п.

Толькі злачынным ігнараваннем большэвіцкай пільнасці, бесшабашным парушэннем партыйнага статута, антыбольшэвіцкімі адносінамі да партыйнай гаспадаркі можна вытлумачыць тое, што засме-

чанасць радоў многіх нашых партарганізацый дасягнула выключных памераў.

Гэту акалічнасць асабліва трэба памятаць нам, большэвікам менскай партарганізацыі, ад якой яшчэ ў большай меры патрабуецца большэвіцкая пільнасць і завостранасць і ў якой партыйная гаспадарка знаходзілася ў найгоршым стане.

У працэсе праверкі былі выяўлены ў архівах гаркома і раду менскіх пярвічных партарганізацый дакументы, якія характарызуюць абураючыя адносіны паасобных кіраўнікоў партарганізацый да прыёму ў партыю. Дакладна ўстаноўлена, што ў гэтай важнейшай справе існавала кампанейшчына і пагоня за процантамі. Гэта акалічнасць, бясспрэчна, звязана з наяўнасцю ў нашай партарганізацыі вялікай колькасці выхадцаў з розных контррэволюцыйных партый. Паміма парушэння статута, паасобныя партработнікі па-меншавіцку, па-бундаўску, па-эсэраўску падыходзілі да прыёму ў члены партыі. Устаноўлена, што ў партыю прымалі не індывідуальна, а калектыўна, цэлымі пачкамі. Такая сістэма практыкавалася не толькі ў нізавых партарганізацыях, але і ў гаркоме, што ў значнай меры палегчыла доступ у партыю класава-варожым элементам.

Цэнтральны Камітэт партыі рэзка асудзіў такую практыку, што павінна паслужыць для нас выключна сур'ёзным урокам, асабліва зараз—напярэдадні новага прыёму ў партыю.

Вострыя вывады мы павінны зрабіць і ў адносінах упарадкавання партыйнай гаспадаркі, бо пастаўлена яна была ў нас значна горш, чым у іншых партарганізацыях. У працэсе праверкі партдакументаў мы прынялі ўжо адпаведныя меры, але супакойвацца на гэтым не прыходзіцца.

Выдача новых партдакументаў павінна стаць такім этапам, калі ва ўсім нашым уласным партыйным доме будзе наведзен сапраўды большэвіцкі парадак у поўным сэнсе гэтага слова.

* * *

Калі праверка партдакументаў мае для нашай партыі каласальнае значэнне з пункту погляду ачысткі яе радоў ад усяго варожага, чуждага, то не меншае значэнне яна мае для ажыўлення ўсёй партыйна-масавай работы.

Без усякага пераўвелічэння можна сказаць, што ў справе вывучэння пярвічных партыйных арганізацый, актывізацыі людзей і інш. мы за час праверкі дасягнулі такіх поспехаў, якіх пры іншых умовах дабіваліся-б гадамі. Праўда, не ўсё яшчэ ў нас на гэтым участку добра, але бясспрэчна адно: праверка партдакументаў выключна ажывіла партыйнае жыццё ва ўсіх яго галінах.

Узяць хоць-бы такі факт, як непасрэдная гутарка сакратароў гаркома, райкомаў, членаў бюро не толькі з актывам, але і з усімі радавымі членамі партыі менскай партарганізацыі. У гутарках мы даведваліся не толькі аб дрэнных баках людзей, але і аб добрых, не проста выслухоўвалі, але і давалі практычныя парады, указанні.

Па сутнасці прароблена выключна вялікая работа, што бясспрэчна мела вялікі ўплыў на людзей. Сярод іх знойдзены вырасшыя, дзельныя таварышы, якіх можна прасоўваць наперад, на больш адказныя ўчасткі партыйнай, профсаюзнай і гаспадарчай работы.

Па ўсёй менскай партарганізацыі ў працэсе праверкі партдакумен-

таў вылучаны, галоўным чынам на партыйную работу, 144 комуністы: па сталінскаму райкому—50, па кагановічскаму—57 і па варашылаўскаму—37.

Прывядзем характарыстыкі паасобных таварышоў:

Тав. **Петрухін**—член партыі з 1919 г. прашоў школу грамадзянскай вайны ў радах Чырвонай арміі, апошні час працаваў сакратаром парткома завода імя Варашылава. Мы вылучылі яго ў якасці нам. сакратара кагановічскага РК.

Тав. **Перачынскі**—у мінулым беспрытульны, з 1922 г. працаваў на заводзе «Большэвік», апошні час—сакратаром парткома. Гэты вельмі здольны таварыш будзе нядрэнным партработнікам, калі яшчэ больш узмоцнена папрацуе над сабой. Мы яго вылучылі нам. сакратара варашылаўскага РК.

Прыблізна да такой-жа катэгорыі людзей падыходзіць і тав. **Дзяткова**—нам. сакратара сталінскага РК.

Інструктары горрайкомаў КП(б)Б у асноўным вылучаны таксама ў працэсе праверкі партдакументаў.

Гэтых вылучаных людзей раней мы не ведалі толькі таму, што не займаліся імі па сутнасці. У выяўленні іх не мала дапамаглі нам паасобныя пярвічныя партарганізацыі. З заводаў «Большэвік» і імя Кірава вылучана група нядрэнных сакратароў парткомаў.

Нажаль, не ўсе партарганізацыі як след займаліся гэтай справай.

У выніку праверкі мы даведаліся аб прарыўных участках, слабых звеннях нашай партарганізацыі. Некаторыя сакратары не толькі не справіліся з работай, але і не варты былі насіць высокае званне члена партыі. Таму мы вымушаны былі адстараніць іх ад работы, а некаторых выключыць з партыі.

Гэта гаворыць аб тым, што мы людзей несур'ёзна падбіралі.

Нам неабходна сур'ёзна заняцца такімі звеннямі, як партыйныя арганізацыі БелАН, ЦС АСО, Наркамсувязі, Інстытута прамысловасці, Наркамасветы, Наркомунгаса, Белкаапсаюза і раду іншых, умацаваць іх, дапамагчы ім па-большэвіцку наладзіць і разгарнуць партыйную работу.

Бясспрэчны вынік праверкі—рост актыўнасці нашай партыйнай арганізацыі, павышэнне большэвіцкай пільнасці, хоць яшчэ і недастатковае.

Якасць партыйных дзён значна палепшылася. Яны сталі больш цікавымі, праходзяць жывей. Асабліва адчуваецца гэта ў апошні час на заводзе імя Кірава, на фабрыцы «Комунарка» і іншых прадпрыемствах. Узрасла цяга комуністаў да вучобы, да кнігі, да павышэння свайго ідэйна-палітычнага і культурнага ўзроўню. Але гэта далёка не ўсё, што нам патрэбна.

Праверка партдакументаў выявіла рад недахопаў у пабудове нашых пярвічных партарганізацый. За гэта нас правільна крытыкавала «Правда». У працэсе праверкі мы рэарганізавалі структуру пярвічных партарганізацый і зараз павінны заняцца завяршэннем гэтай справы.

Трэба спыніцца яшчэ на адным выключнай важнасці пытанні—на ідэйна-палітычным узроўні членаў партыі, які ўсё яшчэ вельмі нізкі, асабліва ў кандыдатаў.

У апошні час, у сувязі з праверкай партдакументаў, у нас значна ажывілася партыйная прапаганда. Партыйная сетка лепш пабудавана, ліквідавана сезоннасць, узрос інтарэс да вучобы, павысіўся процант

наведвання школ і гурткоў. Аднак дасягнутае нас ні ў якой меры не здавальняе.

Мы ўсё яшчэ мала ўвагі ўдзяляем гэтаму адказнейшаму ўчастку партыйнай работы, не гледзячы на неаднаразовыя ўказанні ЦК партыі і асабіста таварыша Сталіна.

ЦК ВКП(б) у сваім лісце ўсім арганізацыям партыі пісаў:

«Трэба паставіць на належную вышыню выкладанне гісторыі партыі сярод членаў партыі, вывучэнне ўсіх і ўсякіх антыпартыйных груповак у гісторыі нашай партыі, іх прыёмы ў барацьбе з лініяй партыі, іх тактыку і тым больш вывучэнне тактыкі і прыёмаў барацьбы нашай партыі з антысавецкімі групоўкамі, тактыку і прыёмы, даўшыя нашай партыі магчымасць адолець і разбіць на-галаву гэтыя групоўкі. Трэба, каб члены партыі былі знаёмы не толькі з тым, як партыя змагалася і перамагала кадэтаў, эсэраў, меншавікоў, анархістаў, але і з тым, як партыя змагалася і перамагала трацкістаў, дэмакратычных цэнтралістаў, рабочыя апазіцыі, правых ухілістаў, праваляўвацкіх уродаў і т. д. Нельга забываць, што веданне і разуменне гісторыі нашай партыі з'яўляецца важнейшым сродкам, неабходным для таго, каб забяспечыць рэвалюцыйную пільнасць нашай партыі».

Вось што азначае пастаноўка партыйнай прапаганды з пункту погляду павышэння рэвалюцыйнай пільнасці для кожнага большэвіка. Тым часам у нас многія таварышы ўсё яшчэ не разумеюць значэння партыйнай прапаганды іменна ў гэтым сэнсе і дапускаюць фармальныя адносіны да гэтай важнейшай палітычнай справы.

Нашай асноўнай задачай павінна быць усямернае палепшанне партыйнай прапаганды, каб па-большэвіцку, па-сапраўднаму павысіць пільнасць членаў нашай партыі. Для таго, каб выкрыць класавага ворага, трэба ведаць яго манеўры. А гэтыя веды комуніст можа набыць толькі пры ўмове, калі ён добра вывучыць гісторыю нашай партыі.

Вось чаму зараз нам, пачынаючы з парторга і канчаючы сакратаром гаркома партыі, неабходна разабрацца ў дэталях пастаноўкі справы партыйнай прапаганды, заняцца канкрэтна кожным гуртком і групай, кожным комуністам і кандыдатам партыі, кожным спачуваючым і перабудаваць работу так, як гэтага патрабуе ад нас Цэнтральны Камітэт.

За апошні час прапагандысцкі склад палепшыўся за лік членаў партыі, якія працуюць непасрэдна на вытворчасці. Такіх прапагандыстаў мы маем ужо каля сотні. Але разам з тым слаба ўцягнуты ў работу старыя члены партыі, асабліва рэспубліканскі актыў. Гэту справу нам трэба паставіць так, каб кожны комуніст лічыў для сябе вялікім гонарам папасці ў прапагандысцкія кадры.

* * *

У часопісе «Партийное строительство» (№ 19—20 за 1935 г.) змешчан надзвычай важны перадавы артыкул пад назвай «Статут партыі—аснова партыйнага жыцця». Прывяду адну цытату:

«Чаму маглі адбыцца гэтыя грубейшыя парушэнні партыйнага статута? Гэта звязана з тым, што партыйныя работнікі, нядрэнна разбіраючыся цяпер у гаспадарчых пытаннях, **адстаюць**

**у веданні ўласна партыйнай справы,** якой, дарэчы кажучы, акрамя іх, ніхто рабіць не будзе,—адстаюць у веданні пытанняў партыйнага будаўніцтва. У справе партыйнай работы аўладанне тэхнікай—гэта перш за ўсё **цвёрдае веданне ленінска-сталінскага вучэння аб партыі, веданне асноў партыйнага будаўніцтва, веданне таго, што такое партыя, што такое статут партыі, што такое членства партыі.** Таму кожны партыйны работнік павінен паставіць перад сабою задачу—аўладаць тэорыяй і тэхнікай сваёй справы, ведаць гэтую справу, інакш не будзе ніякай гарантыі супроць далейшых памылак і пасля праверкі партыйных дакументаў».

Гэта выключна глыбокая думка аб прычынах прарываў у нашай партыйнай рабоце. Імення таму, што мы за апошні час адсталі, што новыя партработнікі не засвоілі тэхнікі партыйнай гаспадаркі, мы, нядрэнна разбіраючыся ў гаспадарчых пытаннях, дрэнна разбіраемся ў справах унутрыпартыйнай работы. Калі, дапусцім, Упоўкамзаг адстае ў загатоўках, мы яму заўсёды дапаможам, мабілізуем дзесятак чалавек і справу выцягнем, але калі мы самі сябе не выцягнем з адсталасці ў галіне партыйнай работы, то ніхто за нас гэтага не зробіць.

Калі мы гаворым аб вучобе, аб партыйнай прапагандзе ў адносінах усёй партарганізацыі, то для кіруючага апарата гэта пытанне стаіць яшчэ астрэй. Сакратары гаркомаў, райкомаў і парткомаў павінны ў першую чаргу ўзяцца за авалодванне тэхнікай сваёй справы самым сапраўдным, самым рашучым чынам. Толькі пры гэтай умове мы будзем гарантаваны ад прабелаў, якія мелі месца ў нашай рабоце.

* * *

Пару заўваг у сувязі з тымі задачамі, якія ставяцца перад намі апошнім пленумам ЦК нашай партыі.

Першае—падрыхтоўка да абмену і выдачы новых партыйных дакументаў. Гэта выключнай сур'ёзнасці справа, не менш сур'ёзная, чым праведзеная праверка партыйных дакументаў. Гэта будзе зноў-такі не фармальны, не тэхнічны абмен партыйных дакументаў, а палітычнай важнасці мерапрыемства, накіраванае на ўмацаванне радоў нашай партыі.

Калі праверка партыйных дакументаў стазіла галоўнай задачай—выявіць класава-варожыя элементы, жулікаў, прахадзімцаў і прамых ворагаў партыі, то зараз цэнтр цяжару пераносіцца на тое, каб у партыі засталіся людзі, якія дастойны насіць высокае званне члена партыі **Леніна—Сталіна.**

Адсюль для ўсёй нашай партарганізацыі вынікае практычная задача—зараз-жа ўключыцца ў гэту справу, уважліва прапрацаваць рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб выніках праверкі, інструкцыю ЦК аб абмене партдакументаў і паставіць работу так, каб кожны комуніст зразумеў усю палітычную важнасць гэтай справы. Абмен партдакументаў неабходна звязаць з далейшым ажыўленнем усёй партыйнай работы і рашучым палепшаннем работы са спачуваючымі, з комсамолам, з беспартыйным актывам, каб наша партыйная арганізацыя з поўным правам магла сказаць, што яна своечасова падрыхтавалася да прыёму новых членаў.

Вось пытанні, якія ў сувязі з рашэннем ЦК аб выніках праверкі

партыйных дакументаў і аб стаханаўскім руху павінны стаць асновай работы ўсіх нашых партыйных арганізацый на бліжэйшы адрэзак часу.

Праверку партыйных дакументаў наша партарганізацыя пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і лепшага большэвіка Беларусі тав. **Гікало** правяла нядрэнна. Апошнія рашэнні пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б ставяць перад намі яшчэ больш сур'ёзную работу, якая мацней згуртуе нашы рады і ўмацуе іх боездольнасць.

Наша менская партыйная арганізацыя была, ёсць і будзе тым верным атрадам ленінска-сталінскай партыі, якая пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б), пад кіраўніцтвам вялікага правадыра народаў—тав. **Сталіна**—пойдзе наперад к далейшым перамогам.

---

**М. Клімчук**

**Сакратар гомельскага ГК КП(б)Б**
**Заг. аддз. парткадраў**

# Вылучаем выдатныя большэвіцкія кадры

Праверка партыйных дакументаў паказала, што мы да гэтага часу як след людзей не ведалі. Не ведалі не толькі радавых комуністаў, але і кіруючы партыйны актыў, партыйных работнікаў.

Толькі ў выніку асабістага вывучэння членамі бюро кожнага комуніста, яго большэвіцкіх якасцей, азнаямлення з яго мінулым і сучасным стала магчымым вылучыць на кіруючую работу даволі вялікую групу ідэйна стойкіх і вытрыманых большэвікоў.

К 20 студзеня на кіруючую партыйную, прафесіянальную і гаспадарчую работу вылучана 90 комуністаў, з якіх: сакратарамі парткомаў—14, парторгамі—32. Усе яны—рабочыя з салідным вытворчым стажам, партыйна-вытрыманыя комуністы, якія за апошнія гады палітычна выраслі, прымаюць актыўны ўдзел у партыйна-грамадскім жыцці прадпрыемства. Іх прыход на кіруючыя пасты адыграў вялікую ролю ў ажыўленні ўсёй партыйна-выхаваўчай работы ў нашай партарганізацыі. Пярвічныя партарганізацыі, якімі яны кіруюць, знаходзяцца ў радах перадавых.

Прывяду некалькі кароткіх характарыстык вылучаных на партыйную работу таварышоў:

**Смірноў** Міхаіл—фармоўшчык завода «Пролетарый» імя Кірава, вытворчы стаж 15 год, член партыі з 1930 года, быў парторгам ліцейнага цэха, вылучан сакратаром парткома завода «Рухавік рэволюцыі». На заводзе цяпер значна палепшылася партыйна-выхаваўчая работа. Працуе гурток па вывучэнню гісторыі партыі, кандыдацкая школа. Паасобныя комуністы, якія раней дрэнна займаліся, рабілі многа прагулаў, сталі акуратна рыхтавацца да заняткаў, чытаць газеты і мастацкую літаратуру. На паседжаннях парткома і партыйных сходах ставяцца самасправаздачы комуністаў аб поспяховасці. Тав. Смірноў часта выклікае да сябе паасобных комуністаў і ў гутарцы з імі выяўляе, як яны вучацца, чаго не разумеюць, у чым адчуваюць патрэбу. Гэта дае магчымасць больш канкрэтна кіраваць партарганізацыяй.

Тав. Смірноў мабілізаваў партарганізацыю ў час праверкі партдакументаў на дапамогу правяраўшаму члену бюро ГК. Быў выкрыт рад прытаіўшыхся ў партарганізацыі класава-чуждых элементаў, сярод іх двое трацкістаў.

Парторгам мэблевай фабрыкі камбіната імя Гікало вылучана мадэльшчыца Гомсельмаша, член партыі з 1932 года, тав. **Ліціна Х.**

На Сельмашы яна рэдагавала насценгазету, але аб вылучэнні яе на нізавую партработу ў парткоме ніхто не падумаў, хоць у такіх работніках была вялікая патрэба.

Пры праверцы партыйных дакументаў тав. Ліцінай нам стала ясна, што маем справу з чалавекам даволі шырокага палітычнага светапогляду, ініцыятыўным, здольным комуністам, якога ўпаўне можна выкарыстаць на нізавой партыйнай рабоце. Практыка паказала, што ў сваёй ацэнцы мы не памыліліся.

Тав. Ліціна заваявала вялікі аўтарытэт сярод рабочых фабрыкі. З яе прыходам адчуваецца поўнакроўнае палітычнае і вытворчае жыццё цэхавай партарганізацыі. Абвестку дня партыйных сходаў тав. Ліціна падрыхтоўвае загадзя, параіўшыся з комуністамі. Не дрэнна пастаўлена палітычная агітацыя. У цэху—7 палітбяседчыкаў. Тав. Ліціна інструктуе, правярае іх і сама даволі часта праводзіць гутаркі з рабочымі, чытае ім мастацкую літаратуру.

Палепшанне партыйна-выхаваўчай і ажыўленне масавай работы сярод беспартыйных рабочых узняло гаспадарчую дзейнасць фабрыкі. Яна вышла з прарыву і стала адным з лепшых цэхаў камбіната.

Стаханаўскі рух набыў на фабрыцы шырокі размах. У гэтай новай вытворча-палітычнай з'яве тав. Ліціна адразу знайшла сваё і ўсёй партгрупы месца—стаяць на чале руху, арганізоўваць яго. З дня ў дзень разам з рабочымі і тэхперсаналам яна вывучае паасобныя працэсы вытворчасці, удасканальваючы, рацыяналізуючы іх; арганізавала дапамогу тэхперсанала стаханаўцам і іншым рабочым.

Уся работа партарганізацыі праходзіць арганізавана. На аснове дзесяцідзеннага выпрацоўваецца план работы на кожны дзень. Усё праробленае за дзень улічваецца і абагульваецца.

Тав. Ліціна ўпарта працуе над сабой, добра вучыцца ў вячэрнім комвузе, чытае многа мастацкай і палітычнай літаратуры. Вельмі важная рыса яе работы—усебаковае вывучэнне людзей. Няма таго комуніста, у якога-б яна не пабывала на кватэры, у інтэрнаце. Аб тав. Ліцінай можна не пераацэньваючы сказаць, што яна з'яўляецца адным з лепшых цэхавых партыйных арганізатараў ва ўсёй нашай партарганізацыі.

Або ўзяць тав. **Грышанава**—турбамашыніста камбіната імя Гікало. Ён вылучан сакратаром парткома на фанерны завод, дзе партыйная работа была надта запушчана, неахайна вялася партыйная гаспадарка, большасць комуністаў нідзе не вучылася.

Зараз тав. Грышанаў сам вядзе гурток па гісторыі партыі і сістэматычна правярае паспяховасць слухачоў. У партарганізацыі ўзнялася дысцыпліна. Тав. Кезік—член партыі з 1928 года, які раней нідзе не займаўся, матывуючы гэта ўмовамі сваёй работы, частымі раз'ездамі, зараз стаў завочнікам па курсу гісторыі партыі, заданні выконвае акуратна, кантралюе яго сакратар парткома. Член партыі тав. Косміна, якая тры гады не вучылася і палітычна адстала, зараз наведвае кандыдацкую школу і нядрэнна паспявае. Тав. Літвінава з-за хатніх умоў не магла наведваць партыйную школу, і тав. Грышанаў займаецца з ёй на-даму.

Комуністы пачалі лепш вучыцца і працаваць. Тав. Грышанаў—патрабавальны сакратар і чулы таварыш. На апошнім партсходзе, прысвечаным вынікам праверкі партдакументаў, выступаўшыя ў спрэчках з ацэнкай работы партыйнага камітэта заявілі, што Гры-

шанаў навёў парадак у партарганізацыі, комуністы сталі арганізатарамі стаханаўскага руху і пад кіраўніцтвам партыйнага камітэта завод упэўнена ідзе ўгару.

Тав. **Пэркаль** Фаня—комсамолка з 1925 года, у партыі з 1932 года, 12 год працавала на фабрыцы «Клары Цэткін» каробачніцай, вылучана сакратаром парткома спіртазавода. Да яе прыходу пры партарганізацыі не было ні аднаго спачуваючага. Яна адразу звярнула ўвагу на гэты ўчастак, арганізавала шырокую палітычную работу з беспартыйным актывам, з лепшых актывістаў-стаханаўцаў стварыла групу спачуваючых, уцягнула іх у грамадска-вытворчае жыццё прадпрыемства і вядзе штодзенную ідэйна-палітычную работу.

На адным з партсходаў спачуваючыя рабілі справаздачы аб сваёй вучобе. Тав. Беленькі заявіў: «За кароткі час прабывання ў групе спачуваючых я адчуваю ўжо свой палітычны рост. У гэтым дапамог мне партком, асабліва сакратар тав. Пэркаль, якая вельмі часта са мною гутарыць. Я з вялікаю ахвотай узяўся за вывучэнне статута і праграмы партыі, актыўна ўдзельнічаю ў грамадскім жыцці завода. За добрую вытворчую работу мяне прэміравалі». Спачуваючая Папова гаварыла: «Паступіла я на завод зусім няграматнай. Партыйная і профсаюзная арганізацыі дапамаглі мне ліквідаваць няграматнасць. Уступіўшы ў групу спачуваючых, я яшчэ мацней узялася за вучобу, каб падрыхтавацца да ўступлення ў рады нашай партыі. Вучуся ў вячэрняй рабочай школе, займаюся ў гуртку спачуваючых, чытаю рэгулярна газеты». З усіх выступленняў спачуваючых відаць, што партком і яго сакратар уцягнулі ў групу спачуваючых лепшых людзей і ўпарта рыхтуюць іх для ўступлення ў партыю.

Тав. Пэркаль навяла парадак і ў партыйнай гаспадарцы, умацавала дысцыпліну ў арганізацыі. Партыйны камітэт працуе па плану.

Сакратаром партыйнага камітэта электрастанцыі працуе вылучаны ў час праверкі партдакументаў тав. **Міцкевіч**—член партыі з 1928 года. Галоўнае ў рабоце парткома—праверка выканання сваіх папярэдніх рашэнняў, індывідуальныя справаздачы комуністаў з папярэдняй праверкай таго, як яны ўзначальваюць і разгортваюць стаханаўскі рух, мерапрыемствы па павышэнню палітычнага і культурнага ўзроўню комуністаў (лекцыі, даклады і т. п.). У работу парткома ўцягнута ўся партарганізацыя.

Большасць новых партработнікаў—сапраўдныя стаханаўцы. Новы парторг механічнага цэха завода «Пролетарый» першым перайшоў на стаханаўскія метады работы і ператварыў усю сваю брыгаду ў стаханаўскую. У яго цэху стаханаўскі рух разгарнуўся раней, чым у іншых. Нававылучаны парторг рамонтнага цэха завода Сельмаш тав. Лубкоў—ініцыятар стаханаўскага руху ў сваім цэху і лепшы стаханавец на заводзе.

Такіх прыкладаў нямала. Усе яны сведчаць аб тым, што вылучаныя таварышы здольны хутка авалодваць тэхнікай сваёй справы, усебакова вывучаць людзей на рабоце, у быту, на вучобе. У цэнтры сваёй увагі яны паставілі ідэйна-выхаваўчую работу, а гэта—парука таму, што са сваімі задачамі яны справяцца.

За час праверкі мы не толькі вылучылі людзей на кіруючую работу, але і стварылі новы рэзерв у 64 чал. з вялікім вытворчым стажам, палітычна развітых, ідэйна стойкіх комуністаў.

З партарганізацыі завода «Рухавік рэволюцыі» у рэзерв вылучан **Вільнер** Ф. Ш., член партыі з 1929 года, на заводзе працуе 10 год,

вучыцца ў вячэрнім комвузе, член парткома, актыўна ўдзельнічае ў партыйным жыцці. Яго мы намячаем у сакратары парткома.

**Шэціхін Н.**—інструктар ФЗУ, член партыі з 1928 г., на заводзе працуе 12 год, партыйна вытрыманы, палітычна развіты і дысцыплінаваны комуніст. Яго можна будзе выкарыстаць на кіруючай гаспадарчай рабоце. Такі, прыкладна, воблік і іншых комуністаў партрэзерва.

Патрэба ў партыйных прфсаюзных, гаспадарчых і іншых кадрах усё яшчэ вяліка, і наш рэзерв даволі хутка зmяншаецца. Аднак трэба прызнаць, што гарадскі камітэт да гэтага часу недастаткова дапамагаў вылучаным комуністам, рэзервам мала займаўся. Да гэтай работы мы толькі прыступаем. Бюро ГК вызначыла рад мерапрыемстваў: правесці $1^1/_2$ месячныя курсы, даваць індывідуальныя заданні па падрыхтоўцы пытанняў да бюро, сакратарыята, каб павысіць гэтым палітычны і культурны ўзровень, нарэшце практычны вопыт і т. д.

Праверка партдакументаў паказала, што партыя вырасціла выдатныя большэвіцкія кадры, людзей—самы каштоўны капітал, які ёсць у свеце. Дзякуючы праверцы партдакументаў, мы даведаліся аб гэтых людзях і даем ім шырокія магчымасці для работы і росту.

Палепшанне партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы ва ўсёй партарганізацыі стварае ўмовы для яшчэ больш хуткага росту і вырошчвання кадраў не толькі для нашай, але і іншых арганізацый КП(б)Б.

---

**Н. Кіштымаў**

Сакратар слуцкага РК КП(б)Б

# Аб становішчы партыйнай прапаганды ў слуцкай партарганізацыі

Таварыш **Сталін** у сваім дакладзе на XVII з'ездзе партыі ўказаў:

«Неабходна ўзмацніць ідэалагічную работу ва ўсіх звеннях партыі, весці нястомную прапаганду ленінізма ў радах партыі».

Гэта ўказанне правадыра партыі, адпаведныя пункты з статута партыі, прынятага на XVII партз'ездзе, рашэнні ЦК ВКП(б) «Аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы час», «Аб становішчы партыйнай прапаганды ў Свердлоўскай вобласці» і такое мерапрыемства, як рэарганізацыя культпропаў ЦК ВКП(б), ЦК нацкомпартый, крайкомаў, абкомаў сведчаць аб той велізарнай увазе, якую ўдзяляе партыя партыйнай прапагандзе на сучасным этапе.

Як пастаўлена цяпер партыйная прапаганда ў нашай партарганізацыі?

Адным з важнейшых нашых дасягненняў з'яўляецца амаль поўная ліквідацыя сезоннасці ў партыйнай вучобе. Школы і гурткі партыйнай асветы займаліся бесперапынна ўвесь летні час. Праграмы праходзіліся да канца, не абрываючыся на першых тэмах, як гэта было раней, калі і вячэрні комвуз, і соўпартшкола, і гурткі па вывучэнню гісторыі партыі не ішлі далей тэмы «Партыя ў перыяд рэволюцыі 1905 года».

У гэтым годзе вячэрні комвуз і дзве кандыдацкія школы (Дарасінская і Сарагоўская) цалкам закончылі праграму і зараз пераўкамплектоўваюцца. Большасць слухачоў пераводзіцца ў вышэйшую ступень партыйнай вучобы. У вячэрнім комвузе з 37 слухачоў 23 пераведзены на другі курс, з 12 скончыўшых Сарагоўскую і Дарасінскую кандыдацкія школы 8 пераведзены ў гурток па вывучэнню асноўных этапаў гісторыі партыі.

У выніку сезоннасці за мінулыя гады рад членаў і кандыдатаў сёлета ўпершыню з моманту ўступлення ў партыю канчаюць кандыдацкую школу: Пясецкі, які навучаўся 4 гады, Гопін—3 гады, Рэзнік—3 гады, Мельнік—3 гады, Цішкевіч—3 гады, Францкевіч—3 гады, Плечны—5 год, Зеліковіч—5 год і інш. Такое-ж становішча і ў вячэрнім комвузе, вячэрняй соўпартшколе, у палітгуртках.

У гэтым годзе значна павялічыўся ахоп партыйнай вучобай: з 81% да 94%, параўнаўча палепшылася наведванне заняткаў.

У пастанове ЦК ВКП(б) «Аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы

час» асаблівая ўвага звварачаецца на вывучэнне гісторыі партыі. У існуючай сетцы партасветы з 348 слухачоў—276 вывучаюць гісторыю партыі, а астатнія 72 комуністы, якія займаюцца ў кандыдацкіх школах, дадаткова да праграмы вывучаюць паасобныя тэмы з гісторыі партыі.

У сучасны момант мы маем наступную сетку партасветы: 9 кандыдацкіх школ з ахопам 80 комуністаў, 26 спачуваючых, 12 комсамольцаў і 10 чал. беспартыйнага актыва; 6 гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі з ахопам 68 членаў і кандыдатаў партыі, 3 спачуваючых, 8 комсамольцаў і 7 беспартыйных; вячэрняя соўпартшкола з ахопам 42 членаў і кандыдатаў партыі і 1 беспартыйнага; вячэрні комвуз: на першым курсе 17 чал., і на другім 34 чал.; гурток па прапрацоўцы статута партыі са спачуваючымі—з 17 чалавек. Акрамя таго працуюць 3 семінары прапагандыстаў і семінар інструктароў райкома партыі. Завочным навучаннем ахоплена 97 комуністаў. 6 гурткоў калгасна-соўгаснага актыва ахапляюць 86 рабочых соўгасаў і калгаснікаў.

Асаблівую ўвагу райком удзяляе падбору прапагандыстаў, кіраўніцтву іх работай і арганізацыі дапамогі ў далейшай кваліфікацыі, каб забяспечыць імі сетку партыйнай асветы, комсамольскай палітвучобы і палітгурткоў беспартыйнага актыва.

Бюро райкома зацвердзіла зараз прапагандыстамі 40 чалавек партыйнага актыва, з іх 8 больш кваліфікаваных таварышоў зацверджаны ў актыў прапагандыстаў для дапамогі астатнім у лепшай пастаноўцы партыйнай прапаганды.

У якасці прапагандыстаў працуюць 6 членаў бюро РК і 13 членаў пленума РК. Сакратары райкома таксама займаюцца прапагандысцкай работай: адзін кіруе семінарам інструктароў, а другі выкладае гісторыю партыі ў вячэрнім комвузе. Сакратары наведваюць таксама заняткі іншых школ і гурткоў. Вялікую практычную дапамогу ў прапагандысцкай рабоце аказвае акруговы камітэт партыі, у прыватнасці сакратары тт. Каменштэйн і Нікіцін.

Адным з дасягненняў трэба лічыць упарадкаванне вучобы комуністаў-адзіночак, якія працуюць на вёсцы.

У мінулым годзе большасць комуністаў-адзіночак арганізоўвалася ў дробныя гурткі, выходзячы выключна з тэрытарыяльнай блізкасці, без усякага ўліку ўзроўню развіцця кожнага. Праграма прыстасоўвалася да ўзроўню большасці слухачоў, такім чынам меншасць заўсёды была нездаволена, не засвойвала пройдзенага курсу і толькі тармазіла далейшае праходжанне праграмы. Калі да гэтага дадаць, што прапагандыстаў звычайна вылучалі з больш падрыхтаваных мясцовых комуністаў, не вывучаючы як належыць іх здольнасці да гэтай работы, то можна сабе ясна ўявіць якасць вучобы ад такой пастаноўкі справы.

Пасля рашэння ЦК ВКП(б) «Аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы час» бюро райкома выявіла вялікую неразбярыху ў партвучобе комуністаў-адзіночак і паступова пачало выпраўляць гэты недахоп.

Яшчэ ўвесну 1935 года пры партгабінеце арганізавалі гурток па вывучэнню гісторыі партыі з комуністамі-адзіночкамі. З гэтага гуртка, паколькі выявілася неаднароднасць палітычнай падрыхтоўкі і агульнага развіцця слухачоў, была вылучана група з праходжаннем паніжанай праграмы.

Зараз у раёне—4 гурткі для комуністаў-адзіночак: два ў горадзе

(адзін па гісторыі партыі, а другі па праграме кандыдацкай школы) і два ў мястэчку Урэчча (па гісторыі партыі і па праграме падручніка Карпінскага «Гутаркі аб ленінізме»).

Заняткі праводзяцца тры разы ў месяц. Комуністы-адзіночкі і члены невялікіх пярвічных партарганізацый вёскі выклікаюцца на цэлы дзень з аслабаненнем ад работы. У добра абсталяваных аўдыторыях, дзе ёсць досыць літаратуры, геаграфічныя карты і іншыя наглядныя дапаможнікі, яны займаюцца па 7—8 гадзін. Забяспечана добрае харчаванне. У гуртках працуюць кваліфікаваныя прапагандысты: культпроп РК, інструктар РК, заг. партгабінета.

У выніку вырасла зацікаўленасць слухачоў вучобай. Калі пры старой арганізацыйнай сістэме комуніст гаварыў, што яму далёка хадзіць на заняткі за кілометр, то зараз ён ахвотна прыходзіць за 10—12 кілометраў.

За час праверкі партдакументаў на вышэйшыя кіруючыя пасады партыйнай, савецкай, профсаюзнай і іншай работы вылучана 26 комуністаў, што даволі характарызуе пастаноўку партыйнай прапаганды. З вячэрняга комвуза, дзе прапагандыстам па гісторыі партыі з'яўляецца сакратар РК тав. Смірноў, вылучаны выдатнікі вучобы: тав. Раменчык—памочнікам сакратара райкома, работнік уліку тав. Куцця—загадчыкам райза, радавая настаўніца тав. Марон—старшынёю саюза сярэдніх і пачатковых школ; з гуртка комуністаўадзіночак вёскі вылучан тав. Кудзелька адказным сакратаром РВК, старшыня калгаса тав. Гурбо—на пасаду загадчыка сектара жывёлагадоўлі райза; з Сарагоўскай кандыдацкай школы старшыні калгасаў тт. Жаўрыд і Ельніцкі вылучаны старшынямі сельсоветаў; гарадская кандыдацкая школа падрыхтавала ў члены партыі тав. Праскоўскага, пераведзенага па чыстцы за палітычную няграматнасць у кандыдаты.

Значна выраслі ў вячэрняй соўпартшколе тт. Клімаў, Лосік, Гарохаў, Караткова— усе яны з'яўляюцца выдатнікамі вучобы. У гуртку па гісторыі партыі (прапагандыст тав. Дзенісевіч) паказалі значны рост Лунькоў, Міркін, Варанькоў, Шпілеўскі, Корж.

У гэтым годзе многа дапамагае прапагандыстам і слухачам добра абсталяваны партгабінет, які мае бібліятэку ў 5 тысяч тамоў рознай палітычнай марксісцка-ленінскай і мастацкай літаратуры. Партгабінет падбірае матар'ялы да тэм, праводзіць семінары і кансультацыі для прапагандыстаў і слухачоў.

Вялікую ўвагу ўдзяляем зараз ліквідацыі малаграматнасці сярод членаў і кандыдатаў партыі. У гарадской партарганізацыі выяўлена 38 малаграматных. Для іх арганізаваны два агульна-адукацыйныя гурткі, дзе праходзіцца белмова, матэматыка і геаграфія, на што адведзена 24 гадзіны ў месяц, не лічачы 12 гадзін палітграматы. Такая сістэма вучобы дасць гэтым таварышам мінімум агульна-адукацыйнай граматнасці для далейшага росту. Вучоба на гэты час будзе іх асноўнай партыйнай нагрузкай. Праведзена ўжо двое заняткаў, якімі слухачы засталіся вельмі здаволены.

Станоўчыя вынікі дае практыкаванне справаздач прапагандыстаў на бюро райкома ў прысутнасці слухачоў. За гэты час бюро заслухала ўсіх прапагандыстаў кандыдацкіх школ і выявіла рад істотных недахопаў у іх рабоце. Прапагандысты Берковіч, Ральчык, Усовіч слаба рыхтаваліся да заняткаў, іх слухачы не маглі ясна адказаць на самыя элементарныя пытанні. Частка прапагандыстаў занадта многа часу ўдзяляе распрацоўцы пытанняў бягучай палітыкі, а пра-

пагандыст Усовіч (Урэцкая школа) з-за пытанняў бягучай палітыкі нават і праграмы не пачынаў. Прапагандыст Берковіч слаба ўвязвае з тэмай канкрэтны матар'ял прадпрыемства, установы ці калгаса, дзе слухач працуе, і т. п.

Для выпраўлення гэтых недахопаў райком вынес рашэнне аб умацаванні кандыдацкіх школ найбольш падрыхтаванымі прапагандыстамі, якія-б вучылі слухачоў не толькі па падручніку, але і здольны былі ўвязаць тэму з канкрэтнымі задачамі дня, на прыкладах і фактах работы комуністаў, паказаць пафас і героіку нашай вялікай соцыялістычнай будоўлі, барацьбу партыі за правядзенне ў жыццё вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Ва ўсёй сістэме партыйнай прапаганды слуцкая партарганізацыя канцэнтруе сваю ўвагу на павышэнні ідэйна-палітычнага ўзроўню членаў і кандыдатаў партыі. За апошнія два-тры месяцы не было такога паседжання бюро РК, дзе-б не стаяла ў канкрэтнай форме пытанне аб партыйнай прапагандзе. Аднак практычная работа ў гэтай галіне ўсё яшчэ адстае ад тых задач, якія пастаўлены перад намі партыяй.

Студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б правільна ўказаў на нездавальняючую пастаноўку справы партыйнай прапаганды і агітацыі. Гэта ацэнка цалкам адносіцца і да слуцкай партарганізацыі. Барацьба за ліквідацыю недахопаў у справе партыйнай агітацыі і прапаганды, за выкананне рашэнняў пленума ЦК КП(б)Б—наша важнейшая першачарговая задача.

Узброіўшыся гістарычнымі рашэннямі апошніх пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, слуцкая райпартарганізацыя выправіць усе недахопы ў разгортванні партыйнай прапаганды і ўзніме яе да ўзроўню задач, пастаўленых на XVII партз'ездзе правадыром нашай партыі таварышом **Сталіным.**

---

**Н. Сігналаў**

# Вышэй якасць партыйнай прапаганды

Віцебская партыйная арганізацыя, ачысціўшыся ў выніку праверкі партыйных дакументаў ад чуждых і варожых партыі элементаў, стала яшчэ больш згуртаванай, боездольнай, узняла сваю дысцыплінаванасць, умацавала свае рады і мабілізавала вакол сябе велізарныя масы працоўных горада і раёна на выкананне задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Праверка партыйных дакументаў у Віцебску значна ажывіла ўнутрыпартыйную работу і дала магчымасць вылучыць новыя атрады вытрыманых, адданых комуністаў на партыйную, профсаюзную, гаспадарчую і іншыя работы.

Адзін з самых важных вынікаў праверкі партдакументаў—гэта значна ўзросшая зацікаўленасць агромнай большасці членаў партыі, кандыдатаў і спачуваючых у павышэнні свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню.

Праверка партыйных дакументаў прабудзіла прагнасць да ведаў, паказала параўнаўча нізкі тэарэтычны ўзровень падрыхтоўкі і вызначыла задачы ў галіне партыйнай прапаганды сярод комуністаў, кандыдатаў і спачуваючых.

* * *

Віцебскі гарадскі камітэт партыі, улічыўшы вынікі праверкі і ўзросшы інтарэс да партыйнай вучобы, за апошні час ахапіў рознымі відамі партыйнай асветы пераважную колькасць комуністаў. Даволі сказаць, што зараз у Віцебску арганізавана звыш 40 гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі, 30 кандыдацкіх школ, 7 вячэрніх соўпартшкол, больш 500 комуністаў навучаюцца ў вячэрнім комвузе. Партыйны актыў вывучае ў гуртках і школах гісторыю партыі, ленінізм, геаграфію. Для сакратароў парткомаў створан вячэрні комвуз з двух груп. Да прапагандысцкай работы ў школах прыцягнут кіруючы партыйны актыў. Гарадскі камітэт партыі падабраў і зацвердзіў сталы кадр прапагандыстаў. Для выхавання новых прапагандысцкіх кадраў створаны шасцімесячныя курсы на 35 чалавек.

Аб тым, што кіраўніцтва ГК шчыльна падышло да пытанняў партыйнай прапаганды і вучобы, сведчыць пастаноўка ўпершыню на пленуме ГК справаздачы двух прапагандыстаў аб рабоце школ, якімі яны кіруюць. Абгаварэнне дакладаў заняло амаль увесь вечар і па сутнасці ператварылася ў абгаварэнне пытанняў стану прапагандысцкай работы.

Аднак, пры ўсіх гэтых зрухах, пастаноўку партыйнай асветы ў

віцебскай партыйнай арганізацыі трэба прызнаць яшчэ нездавальняючай, асабліва з якаснага боку.

У свой час ЦК КП(б)Б спецыяльнай дырэктывай указаў усім гаркомам і райкомам на неабходнасць уважлівага вывучэння даклада тав. Берыя «К пытанню аб гісторыі большэвіцкіх арганізацый у Закаўказзі»—даклада, які мае агромнае палітычнае значэнне і дае багацейшы матар'ял аб ролі тав. Сталіна, як праздыра і тэарэтыка нашай партыі. У гэтым дакладзе з гістарычнай глыбінёй, з выключнай яркасцю паказана тая агромная работа, якая была праведзена тав. Сталіным, узначальваючым большэвіцкія арганізацыі ў Закаўказзі. Указанне ЦК КП(б)Б абавязвала не толькі вывучаць самы даклад, але і скарыстаць прыведзеныя ў ім багацейшыя факты і матар'ялы пры вывучэнні гісторыі ВКП(б) ва ўсёй сетцы партасветы.

Але, як гэта ні дзіўна, у радзе школ і гурткоў пярвічных парт-арганізацый Віцебска яўна недаацанілі значэнне даклада тав. Берыя. Пры вывучэнні гісторыі партыі праходзілі міма ўказаных у ім гістарычных фактаў. У выніку вялікая колькасць комуністаў не ведае не толькі зместу і значэння даклада, але нічога не чула нават і пра самога аўтара (другі курс вячэрняга комвуза, гурток па гісторыі партыі на ф-цы «Кім» і інш.).

Многія прапагандысты партшкол і гурткоў Віцебска не вывучалі даклада тав. Берыя і не скарыстоўвалі яго ў сваёй рабоце. Гэты буйнейшы недахоп адзначыў і пленум гаркома і нарада прапагандыстаў горада.

Віцебская партарганізацыя ўлічыла гэта і прыняла рад мер. Даклад тав. Берыя спецыяльна прапрацоўваецца цяпер сярод партыйнага актыва і комвузаўцаў. Характэрна, што пасля прапрацоўкі даклада група комвузаўцаў заявіла: «Даклад тав. Берыя нам проста вочы адчыніў. Мы лепш сталі разумець гісторыю нашай партыі, у новым асвятленні вырас перад намі геній Сталіна».

ЦК ВКП(б) у сваім рашэнні аб прапагандысцкай рабоце на бліжэйшы час указаў, што «ад прапагандыста ў першую чаргу залежыць узровень палітыка-выхаваўчай работы ў партыйных школах і гуртках».

Нельга сказаць, што ў Віцебску не зрабілі з гэтага ўказання адпаведных вывадаў. Аб гэтым гавораць факты падбору і праверкі кадраў прапагандыстаў, замацавання іх за школамі, арганізацыі курсаў прапагандыстаў і т. д. Але ўся бяда ў тым, што работа з прапагандыстамі пастаўлена ўсё яшчэ дрэнна. Семінары амаль не працуюць. На заняткі замест 30—40 чалавек, з'яўляецца 5—8. Кансультацыяй прапагандысты карыстаюцца вельмі рэдка. Партыйныя габінеты слаба дапамагаюць ім у падрыхтоўцы да заняткаў. Вопыт прапагандысцкай работы не абагульняецца.

Тым часам большасць прапагандыстаў патрабуе сталай дапамогі і штодзеннага кіраўніцтва.

Прывядзем некалькі фактаў:

Тав. **Трубнікаў** працуе механікам фабрыкі і кіруе школай палітграматы. Ён можа служыць узорам дбайных адносін к даручанай рабоце, хоць і скончыў толькі кароткатэрміновыя курсы. Старанна рыхтуецца да заняткаў, падбірае бягучы матар'ял, для лепшага засваення слухачамі тэмы складае канспекты, планы, дыяграмы. На адну дыяграму «Савецкі саюз» затраціў 7 гадзін працы і дэманстраваў яе на пленуме гаркома партыі. Тав. Трубнікаў не абмяжоўваецца

работай у школе, ён ходзіць на дом да слухачоў і спецыяльна працуе з адстаючымі. Трубнікаў шчыра адданы сваёй справе. Калі на яго звярнуць увагу і аказаць належную дапамогу, то па яму можна будзе раўняць іншых прапагандыстаў.

Тав. **Каган**—рабочы фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі»—працуе зараз тэхпропам цэха, кіруе гуртком па гісторыі партыі. Старанна працуе над павышэннем свайго палітузроўню, добра рыхтуецца да занятказ. Да першай тэмы па гісторыі партыі прапрацаваў: «Што рабіць?»—Леніна, даклад Берыя, «Тры крыніцы, тры складаныя часткі марксізма», «Сталін і Хашым» і рад іншых матар'ялаў. Да другой тэмы, акрамя падручніка, чытаў «Рэзалюцыю II з'езду партыі», «Крок наперад, два назад» Леніна. Да тэмы аб 1905 годзе прапрацаваў даклад Леніна аб рэволюцыі 1905 года, аб III з'ездзе партыі, матар'ялы з «Пытанняў ленінізма» і рад іншых. Тав. Каган вялікую ўвагу ўдзяляе адстаючым, ходзіць да іх на дом, па яго ініцыятыве слухачы набылі «Пытанні ленінізма». Не адстае і ў чытанні мастацкай літаратуры. За апошні час прачытаў «Як гартавалася сталь» Астроўскага, «Я люблю» Аўдзеенкі, «Маці» Горкага і многа іншых. Безумоўна, у тав. Кагана, як у маладога прапагандыста, адчуваецца многа кніжнага. Але ён расце. Яму патрэбна дапамога і ўвага.

Тав. **Абрамаў** кіруе гуртком па гісторыі партыі на заводзе «Чырвоны металіст». Гэта—параўнаўча падрыхтаваны прапагандыст, разбіраецца ў пытаннях ленінізма, міжнароднай палітыкі і інш. Слухачы ім задаволены. Нядрэнныя прапагандысты ў Віцебску: тт. Макась, Саламонік, Клейман і іншыя. Але і з імі неабходна сталая работа, патрэбна дапамога, тады яны апраўдаюць сваё высокае званне прапагандыста ідэй Леніна—Сталіна.

Побач з прапагандыстамі, якія палітычна растуць, любоўна адносяцца да сваёй работы, ёсць і нядбайныя людзі, якія фармальна падыходзяць да сваіх абавязкаў.

Тав. **Фурман**—сакратар партарганізацыі завода імя Лекерта—кіруе невялікім гуртком па гісторыі партыі. На працягу месяца тры разы сарваў заняткі, канспектаў не складае, выкладае блытана і мала зразумела. Не мог даць характарыстыкі слухачоў свайго гуртка.

Прапагандыст кандыдацкай школы махорачнай фабрыкі—**Дрэйль** (педагог рабфака) умудрыўся раскідаць свой гурток: з 12 чалавек засталося 5, на заняткі ў апошні раз прышло двое, траіх з гуртка выключылі за п'янку.

Сярод прапагандыстаў віцебскай партыйнай арганізацыі знаходзіліся палітычна няграматныя людзі, якія гаркомам партыі зняты з работы.

Вось некалькі характэрных фактаў.

На фабрыцы «Дзвіна» прапагандыст **Нісуноў** на пытанне аб фашызме нічога сказаць не мог, заявіўшы толькі, што «гэта—улада капітала».

Прапагандыст **Кавалёў** не мае ўяўлення не толькі аб характары лютаўскай рэволюцыі, ён блытае храналогію. Па яго думцы, лютаўская рэволюцыя адбылася ў 1918 г., а Окцябрская—у 1917. Не адказаў на пытанне, што такое трацкізм.

Прапагандыст **Гадаскін** дагаварыўся да таго, што серадлякоў і беднякоў залічыў у рабочыя.

Прапагандыст **Разумаў** называе рэволюцыю 1905 года «пролетар-

скай», потым папраўляецца: «Яна была буржуазнай, бо кіраваў ёю поп Гапон». XIV з'езд партыі, паводле яго слоў, адбыўся ў 1913 годзе.

Прапагандыст **Мінусін** на пытанне, што такое адзіны фронт, адказаў: «Адзіны фронт—гэта сумеснае выступленне рабочага класа з фашызмам».

Пералік падобнай бязглуздзіцы і палітычнага невуцтва можна было-б прадоўжыць, але ён не характэрны для агромнай большасці прапагандыстаў Віцебска, якія да партыйнай прапаганды адносяцца ўдумчыва. Праўда, яны яшчэ патрабуюць канкрэтнай дапамогі і кіраўніцтва.

У чым-жа павінна заключацца гэта дапамога? У Віцебску пачалі добрую справу—арганізавалі 6-месячныя курсы. Але гэта далёка не ўсё. Задача заключаецца ў тым, каб у бліжэйшы год праз сетку спецыяльных курсаў прапусціць увесь прапагандысцкі склад, смялей высоўваць новыя кадры, дапамагаючы ім у рабоце і вучобе.

Важнейшым відам дапамогі прапагандыстам павінны стаць пропсемінары, задача якіх, галоўным чынам, павінна заключацца ў сістэматычным павышэнні палітычнага і тэарэтычнага ўзроўню прапагандыста на аснове вывучэння твораў класікаў марксізма-ленінізма і важнейшых партыйных дакументаў. Аднак, гэта не значыць, што праграма семінараў можа быць адарвана ад практычнай работы прапагандыстаў. Наадварот, яна павінна быць падпарадкавана якраз гэтай задачы. Семінар па гісторыі партыі павінен прапрацоўваць з прапагандыстамі важнейшыя этапы гісторыі, знаёміць з партыйнымі дакументамі, творамі Леніна—Сталіна, пастановамі з'ездаў, канферэнцый і наглядна паказаць, як гэтыя дакументы трэба прапрацоўваць са слухачамі. Складанне-ж канспектаў, планаў і т. п. павінна быць перанесена на індывідуальныя кансультацыі.

Каб уцягнуць прапагандысцкую масу ў агульна-партыйную работу і ўзняць палітычны светагляд, неабходна перыядычна знаёміць яе з важнейшымі партыйнымі дакументамі, з падзеямі ўнутранага і міжнароднага жыцця нашай краіны, практыкаваць нарады прапагандыстаў побач з нарадамі сакратароў парткомаў і т. д.

Многа дапамогуць прапагандыстам перыядычныя даклады і лекцыі на актуальныя палітычныя і тэарэтычныя тэмы. Партыйныя габінеты павінны стаць цэнтрам арганізацыі ўсіх відаў дапамогі прапагандыстам (падрыхтаваць матар'ял, арганізаваць выстаўку, намаляваць дыяграмы, падабраць мастацкую літаратуру, карты і т. п.).

Партыйны габінет павінен паклапаціцца аб тым, каб у кожнага прапагандыста быў двухтомнік Маркса—Энгельса, двух або шасцітомнік Леніна, «Пытанні ленінізма» Сталіна, ВКП(б) у рэзалюцыях і т. д. Гэты мінімум літаратуры дапаможа прапагандысту лепш працаваць над павышэннем свайго ўзроўню і, пры правільным карыстанні, дабіцца значнага эфекту ў рабоце. Віцебская партыйная арганізацыя павінна распрацаваць рад практычных мерапрыемстваў для павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўню сваіх прапагандысцкіх кадраў. Гэта неадкладная баявая задача.

* * *

У рашэнні ЦК КП(б)Б «Аб становішчы прапагандысцкай работы ў партарганізацыях Капыльскага і Жыткавіцкага раёнаў» указана:

«Заняткі ў школах і гуртках праходзяць вяла, не зацікаўліваюць слухачоў, а часамі гэтыя заняткі ператвараюцца ў простае

«шкалярства», адрываючы вывучэнне гісторыі партыі ад баявых задач партыі і бягучай яе работы... Не прыцягваецца матар'ял з вопыту барацьбы КП(б)Б і мясцовых партыйных арганізацый».

Гэта ўказанне можна цалкам аднесці і да становішча партыйнай асветы ў віцебскай партарганізацыі.

Прывядзем некалькі фактаў з работы гурткоў і школ.

У адной з груп 2 курса вячэрняга комвуза абгаварваецца тэма «Грамадзянская вайна і перыяд ваеннага комунізма». Вакол тэмы разгортваецца гутарка. Слухачы часта спыняюцца на становішчы на заходнім фронце, на трэцім паходзе Антанты, але ні адзін з іх, у тым ліку і выкладчык, не заастрае ўвагі на пытаннях грамадзянскай вайны ў Беларусі, не асвятляе барацьбы КП(б)Б з белапольскай акупацыяй, не ўвязвае тэмы з перамогамі, дасягнутымі партыяй у выніку гэтай барацьбы.

Або вось другі факт. Выкладчык ставіць пытанне: «Што садзейнічала перамозе совецкай улады і партыі ў барацьбе з ворагамі?» Адказваюць: «Адна з прычын перамогі—правільнае вырашэнне ленінскай нацыянальнай палітыкі». Адказ правільны, але не ўся справа толькі ў гэтым. Трэба было ўказаць на становішча прыгнечаных нацыянальнасцей у былой царскай поўкалоніі—Беларусі, прывесці факты каланізатарскай палітыкі самадзяржаўя, расказаць аб ганебнай «чарце аседласці» і т. п. Гэта зроблена не было, таму і пытанне не насіла палітычнай завостранасці і канкрэтнасці.

ЦК ВКП(б) у сваім вядомым рашэнні аб прапагандысцкай рабоце не раз указваў на неабходнасць рашучай барацьбы са схематызмам і вывучкай. Тым часам у рабоце раду школ і гурткоў схематызм яшчэ вельмі трывалы.

У адной з груп 2 курса вячэрняга комвуза на пытанне выкладчыка «Калі быў заключан рыжскі дагавор?» слухач адказаў: «У пачатку 1921 года». І ўсё. На наша пытанне: «У чым змест рыжскага дагавору, заключанага паміж СССР і Польшчай?»—ні адзін з 35 слухачоў не мог адказаць.

На фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» у гуртку па гісторыі партыі таксама ставіцца вельмі многа агульных, неканкрэтных пытанняў. Усе слухачы ведаюць аб тым, што рухаючай сілай рэволюцыі 1905 года быў пролетарыят, але раскрыць прычыны, сэнс гэтых слоў многія не могуць. Павярхоўнай формулай абмяжоўваюцца таксама і ў адказах на пытанне аб гегемоніі пролетарыята—адно з кардынальных пытанняў гісторыі рэволюцыі 1905 года. Не вывучаецца ход падзей рэволюцыі, героіка забастовачнага руху, узброенага паўстання, кіруючай ролі партыі.

Ужо гэтыя факты даволі характарызуюць якасную пастаноўку партыйнай вучобы, слабасць барацьбы са схематызмам і шкалярскімі метадамі.

Далёка не ўсё добра і з камплектаваннем школ і гурткоў. Культурны і палітычны ўзровень развіцця слухачоў вельмі часта неаднолькавы. У гуртку для комуністаў-адзіночак пры доме партыйнага актыва ёсць слухачы, якія нядрэнна разбіраюцца ў гісторыі партыі, бо некалькі раз вывучалі яе, а разам з імі вучацца слаба падрыхтаваныя таварышы, якія не скончылі нават кандыдацкай школы (Палякоў), цяжка даецца вучоба таварышам, якія дрэнна ўладаюць рускай мовай (латышы Плакша і Халендэр). У гуртку па гісторыі партыі на фабрыцы «КІМ» вучацца тав. Яшкін, які скончыў два гурткі—мар-

ксісцка-ленінскі і па гісторыі партыі, а разам з ім—тт. Парэцкі і Гурэвіч, якія нідзе не вучыліся і якім даволі трудна адразу асіліць гісторыю партыі.

У радзе школ можна знайсці і такіх комуністаў, якія з года ў год наведваюць школу, але вучоба даецца ім вельмі цяжка. Напрыклад, тав. Баскіна (фабрыка «КІМ») член партыі з 1918 года. Яна 10 год вучыцца ў гуртку палітграматы і гісторыі партыі, аднак яшчэ і зараз з'яўляецца адной з адстаючых. Таксама тав. Левіна вучыцца доўга, але топчацца на адным месцы і палітычна расце вельмі слаба.

Да камплектавання раду гурткоў падышлі механічна, не ўлічваючы падрыхтаванасці, культурнага і палітычнага ўзроўню кожнага слухача.

Буйныя недахопы ў пастаноўцы партыйнай прапаганды безумоўна могуць і павінны быць знішчаны. Віцебская партыйная арганізацыя—адна з перадавых. Яна паспяхова змагаецца за выкананне гаспадарча-палітычных задач, стварыла нядрэнныя атрады стаханаўцаў, выхавала на практычнай рабоце не адну сотню адданых партыі барацьбітоў,—яна здолее паставіць на належную палітычную вышыню і справу партыйнай прапаганды і на яе аснове яшчэ больш ідэйна згуртаваць і мабілізаваць усю партыйную арганізацыю на выкананне тых зелізарных задач, якія пастаўлены перад усёй партыяй і кожнай парторганізацыяй рашэннямі апошніх пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

М. Лабадаеў

# Аб партыйным сходзе

Вядомае рашэнне пленума Ленінградскага гаркома ВКП(б) аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы (сакавік 1935 года), стаўшае важнейшым дакументам партыі, зварачае асаблівую ўвагу на значэнне партыйных сходаў:

> «Пленум падкрэслівае выключнае значэнне партыйных сходаў у справе большэвіцкага выхавання членаў партыі і прапануе ўсім партыйным арганізацыям пакласці ў аснову іх работы пытанні арганізацыйна-партыйнай і ідэйна-выхаваўчай работы, забяспечыўшы на падставе разгорнутай самакрытыкі ўважлівае і ўсебаковае абгаварэнне пастаўленых пытанняў».

У гэтым рашэнні, як і ў пастановах красавіковага пленума ЦК КП(б)Б (1935 г.), вызначана сума канкрэтных мерапрыемстваў, выкананне якіх значна ўзнімае ролю і значэнне партыйных сходаў у справе сапраўды большэвіцкага выхавання членаў партыі. Кожны партыйны сход, як адзначыў Л. М. Кагановіч у сваім дакладзе на XVII партз'ездзе, павінен узнімаць ідэйны ўзровень комуніста. Тым часам у практыцы работы раду нашых партыйных арганізацый пытанне аб значэнні партыйных сходаў, як школы ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў, да апошняга часу не карысталася належнай увагай.

Для большасці партыйных арганізацый характэрна было тое, што яны нерэгулярна склікалі партыйныя сходы, абвестку дня рыхтавалі без уліку запатрабаванняў той ці іншай пярвічнай партарганізацыі, слаба прыцягвалі членаў партыі да яе абгаварэння, не зварачалі сур'ёзнай увагі на падрыхтоўку дакладчыкаў. Паведамленне абвесткі за некалькі гадзін да сходу, а то і на самым сходзе, зніжала актыўнасць членаў партыі. Мала клапаціліся аб тым, ці падрыхтавана памяшканне, ці своечасова з'яўляюцца на сход.

Над пытаннямі арганізацыйна-партыйнай і палітвыхаваўчай работы пераважалі гаспадарчыя.

У выніку праведзенай па ініцыятыве тав. Сталіна праверкі партыйных дакументаў ажывілася ўнутрыпартыйная работа ва ўсіх яе разнастайных галінах. Узнялася адказнасць членаў партыі, умацавалася дысцыпліна, выяўлен новы, растучы партыйны актыў, узнялася большэвіцкая пільнасць, павысілася ідэйна-палітычная вага партыйных сходаў і значэнне іх для вырошчвання партыйных кадраў.

Прывядзем некаторыя прыклады.

На адным са сходаў партарганізацыі гомельскай фабрыкі «Везувій» была пастаўлена справаздача парткома аб тым, як выконваецца па-

станова агульнага сходу па пытанню партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы. У падрыхтоўцы да справаздачнага сходу ўдзельнічала 13 камуністаў, якія выпусцілі спецыяльны нумар шматтыражкі, арганізавалі вітрыны з літаратурай па пытаннях партыйнай работы, падабралі матар'ялы аб вучобе камуністаў і іх рабоце на вытворчасці. У спрэчках выступала 17 чалазек—больш паловы прысутных.

На гомельскім шклозаводзе імя Сталіна два тыдні рыхтаваліся да партсходу па пытанню праверкі рашэння ЦК КП(б)Б і гаркома аб шклозаводзе. Абвестка дня і падрыхтоўчыя мерапрыемствы абгаварваліся на паседжанні парткома і на партыйным актыве. Да праверкі прыцягнута 35 камуністаў. У спрэчках па дакладу і справаздачы парткома выступіла 25 чалавек.

На спіртазаводзе адбыўся сход па пытанню аб становішчы партвучобы. Сакратар парткома тав. Пэркаль перад сходам пабывала ў кожнага камуніста на кватэры, праверыла, ці маюць яны бібліятэкі, ці выпісваюць газеты і як іх чытаюць.

Парторгі цэхаў дрэваапрацоўчага камбіната імя Гікало раяцца з камуністамі аб тым, якія пытанні трэба паставіць на абвестку дня, уважліва рыхтуюцца да сходаў, і таму яны праходзяць даволі актыўна.

Рад пярвічных партарганізацый Гомеля пачаў даручаць даклады камуністам, якія раней звычайна не выступалі.

У пярвічнай партарганізацыі менскага завода «Комунарка» адзін са сходаў быў прысвечан пытанню аб арганізацыйных прынцыпах большэвізма. Правялі вялікую падрыхтоўчую работу. На сходах партыйных груп прапрацавалі статут партыі і заслухалі паведамленні камуністаў аб тым, як яны статут выконваюць. Асноўныя пункты статута прапрацавалі ў партшколах. Для ўсіх камуністаў прачытана была лекцыя на тэму аб арганізацыйных прынцыпах большэвізма. Адначасова працавалі вылучаныя парткомам чатыры брыгады з 28 камуністаў. Брыгады праверылі ступень засваення камуністамі статута партыі, іх вытворчую і партыйную дысцыпліну, работу над павышэннем кваліфікацыі і т. п. Падрыхтоўчай работай ахоплена была абсалютная большасць пярвічнай партарганізацыі. У заключэнне адбыўся закрыты партсход па пытанню аб тым, як камуністы выконваюць статут партыі.

Партарганізацыя менскай фабрыкі «Окцябр» правяла сходы партыйных груп, на якіх заслухала індывідуальныя справаздачы камуністаў. План падрыхтоўкі партком абгаварыў з усімі парторгамі, якія ў сваю чаргу прапрацавалі гэта пытанне з актывам. Паасобныя брыгады цікавіліся палітычным ростам і бытавымі ўмовамі таварышоў, якія павінны былі рабіць індывідуальныя справаздачы. 16 фотагазет, выпушчаных к партдню, асвятлялі найбольш характэрныя паказчыкі работы над сабой перадавых і адстаючых камуністаў.

У выніку шырокай падрыхтоўкі на сходзе выступала да 70 камуністаў. На прыкладах перадавікоў яны давалі канкрэтныя ўказанні, як пазбыцца недахопаў і палепшыць работу над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню. Пасля сходу многія таварышы значна падцягнуліся: пачалі рэгулярна наведваць партшколу, чытаць газеты, сталі актыўней у партыйным жыцці.

Нельга не адзначыць, што наведванне партсходаў ва многіх пярвічных партарганізацыях цяпер рэзка ўзнялося.

Партыйныя сходы бабруйскага Лесакамбіната звычайна наведвала

130—135 чалавек з агульнай колькасці 217 членаў партарганізацыі, выступала чалавек 7—10, сходы праводзіліся вяла. У час праверкі партдакументаў яўка рэзка ўзнялася. Цяпер яна дасягае ста процантаў, у спрэчках выступае да 85 чал., практыкуюцца рэгулярна індывідуальныя справаздачы комуністаў.

Аналагічнае становішча на заводзе імя Кірава, кандзіцерскай фабрыцы «Чырвоны харчавік» і ў радзе іншых пярвічных партарганізацый Бабруйска. На сходзе партарганізацыі будаўніцтва Гідролізнага завода нядаўна была заслухана справаздача парткома. Да сходу была выпушчана насценная газета, праведзены гутаркі, усе комуністы падрыхтаваліся да абгаварэння справаздачы. У выніку з прысутных на сходзе 34 чалавек у спрэчках выступала 24. Сход працягваўся 5 гадзін.

Партыйная арганізацыя Лагойскага сельсовета звычайна збіралася раз у два-тры месяцы, абвестка дня падбіралася выпадкова. Пасля праверкі партдакументаў сходы праводзяцца рэгулярна. За апошнія два месяцы абгавораны такія пытанні: план работы пярвічнай партарганізацыі; якім павінен быць комуніст згодна статуту партыі; індывідуальная справаздача членаў партыі Касоўскага і Грынфельда; аб партвучобе члена партыі Асмалоўскай; аб рабоце з беспартыйным актывам; аб укараненні стаханаўскіх метадаў работы ў калгасе на апрацоўцы лёну і лесараспрацоўках; справаздачы кіраўнікоў партгурткоў. Мы не пералічваем усіх пытанняў, бо і прыведзеныя даволі выразна сведчаць аб значным ажыўленні ўнутрыпартыйнай работы пасля праверкі партдакументаў.

Заслугоўвае ўсямернага пашырэння вопыт арганізацыі лагойскім РК раённага партсходу. Да праверкі партдакументаў скліканне раённых партсходаў у Лагойску не практыкавалася. За апошнія-ж два месяцы праведзены тры раённыя партсходы, на якіх абгавораны пытанні партыйна-масавай работы ў калгасах і соўгасах на зімовы перыяд, трыццацігоддзе рэволюцыі 1905 года, вынікі снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), зацверджан план работы райкома.

На падрыхтоўку гэтых сходаў райком звярнуў сур'ёзную ўвагу. Тэрмін склікання сходу, абвестка дня і матар'ялы да яе публікаваліся ў раённай газеце. Ва ўсіх пярвічных партарганізацыях і палітгуртках работнікі райкома, прапагандысты і агітатары праводзілі гутаркі, чыталі літаратуру, дапамагалі адстаючым скласці план выступлення, улічваючы найбольш незразумелыя для іх пытанні.

Адпаведным чынам падрыхтоўвалася і памяшканне: упрыгожвалася лозунгамі і плакатамі па пытаннях сходу, узмацнялася асвятленне, абсталёўвалася вешалка, буфет, кніжны кіёск. Пасля сходу дэманстраваўся гукавы кіно-фільм. Да чарговага партсходу, прысвечанага прапрацоўцы рашэння СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб нячорназемнай паласе, рыхтуецца выступленне артыстаў Белдзяржтэатра.

Зусім натуральна, што добрая падрыхтоўчая работа, культурная, дзелавая абстаноўка самога сходу рэзка ўзнімала яго ідэйна-палітычную вагу і актыўнасць комуністаў. Так, на сходзе, які быў прысвечан вынікам пленума ЦК ВКП(б), у спрэчках па дакладу запісаўся 51 чалавек з прысутных 107 членаў і кандыдатаў партыі. Характэрна, што ў спрэчках выказаліся радавыя члены партыі, частка якіх рэдка выступала нават на сходах пярвічных партарганізацый (тт. Новікаў, Навіцкі, Варанчук, Шэрсцень і рад іншых).

Слуцкая партарганізацыя добра падрыхтавала сходы пярвічных

партарганізацый для прапрацоўкі рашэння ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб школах. Многім комуністам даручана было праверыць работу школ і расказаць на сходзе аб выхаванні сваіх дзяцей. Праверана работа 7 гарадскіх школ і 34 раённых. Комуністы Шпілеўскі, Генкін, Вілько, Плечны, Мельнік, Казак, Францэвіч і інш. зрабілі справаздачу аб тым, як яны выхоўваюць сваіх дзяцей-школьнікаў. Прапрацоўка рашэння партыі і ўрада аб школе была, такім чынам, звязана з канкрэтнымі задачамі, якія вынікаюць з гэтага рашэння для Слуцкага раёна. Вопыт справаздачы комуністаў перад пярвічнымі партарганізацыямі аб выхаванні сваіх дзяцей заслугоўвае ўсямернага пашырэння, бо дае добрыя вынікі: павышаецца адказнасць бацькоў, узнімаецца паспяховасць дзяцей у вучобе.

У Мазыры абвестка дня сходу пярвічнай партарганізацыі загадзя абмяркоўваецца з цэхавымі парторгамі, паасобнымі комуністамі і паведамляецца за тры-чатыры дні да сходу. Наведванне сходаў рэзка ўзнялося, у спрэчках выступае большасць прысутных. Так, на сходзе пярвічнай партарганізацыі фабрыкі «Чырвоны Окцябр» па пытанню аб тым, як комуністы выконваюць партыйныя заданні, з прысутных 33 чалавек выказалася 23, некаторыя з іх раней ніколі не выступалі. Тт. Зельдзін, Клімовіч, Берман, Зеленко і многія іншыя комуністы сталі лепшымі стаханаўцамі на вытворчасці і перавыконваюць нормы ад 160 да 200 процантаў.

Партарганізацыя Магілеўскага аўтарамонтнага завода арганізавала справаздачу парткома. Да праверкі яго работы было прыцягнута трынаццаць радавых комуністаў. Некаторыя з іх атрымалі ўпершыню такое сур'ёзнае заданне. У выніку партсход прашоў надзвычай актыўна, па справаздачы парткома выступіла 25 чалавек, спрэчкі насілі палітычна завостраны характар.

На адным з партсходаў пярвічнай партарганізацыі завода імя Сталіна было пастаўлена пытанне аб тым, як комуністы чытаюць мастацкую літаратуру. Для падрыхтоўкі сходу, праверкі дакладчыкаў, работы заводскай бібліятэкі і чытальні была вылучана вялікая група комуністаў.

На сходах пярвічных партарганізацый сістэматычна практыкуюцца індывідуальныя справаздачы комуністаў, што дае станоўчыя вынікі: таварышы лепш выконваюць партыйныя заданні, карыстаюцца патрэбнай дапамогай.

У пярвічных партарганізацыях Касцюковіцкага раёна на кожным партсходзе парторг або сакратар парткома інфармуюць аб тым, як выканана рашэнне папярэдняга партсходу.

Да станоўчых вынікаў праверкі партдакументаў неабходна аднесці і палепшанне работы з комуністамі-адзіночкамі. Сходы адзіночак пачалі праводзіцца рэгулярна па вызначанаму плану. Абвестка дня ўлічвае запатрабаванні комуністаў-адзіночак і загадзя ім паведамляецца. Райкомы пачалі пасылаць больш падрыхтаваных таварышоў для дапамогі ў правядзенні сходаў адзіночак.

Станоўчыя прыклады палепшання і ажыўлення партыйных сходаў можна было-б значна прадоўжыць, аднак і з прыведзеных можна зрабіць вывад аб тым, што вага і значэнне партыйнага сходу, як важнейшага звяна ў справе большэвіцкага выхавання партыйных кадраў, значна ўзнялася. Калі раней бягучыя гаспадарчыя пытанні выцяснялі на партыйных сходах пытанні ўнутрыпартыйнага жыцця, то цяпер становішча змянілася ў лепшы бок. Дапамагла гэтаму галоў-

ным чынам праверка партыйных дакументаў, а таксама выкананне вядомага рашэння пленума ЦК КП(б)Б аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы, якое дало важнейшыя ўказанні па пытанню партыйных сходаў.

Адным з найбольш станоўчых дасягненняў партарганізацый трэба лічыць практыку сістэматычнай праверкі і інфармацыйных справаздач аб выкананні рашэння агульных сходаў. Гэта мерапрыемства ў значнай меры стымулюе актыўнасць комуністаў на сходзе, бо паказвае, як канкрэтна выконваецца тая ці іншая дзелавая прапанова, якую яны ўносяць у рэзалюцыю. Нельга аднак не адзначыць, што прапановы комуністаў па пытаннях абвесткі дня не абгаварваюцца з патрэбнай увагай, што сходу часта прыпадносіцца гатовая рэзалюцыя.

Усё яшчэ рэдка практыкуецца ў нас падвядзенне парткомам і парторгам вынікаў партыйных сходаў, якія заўсёды даюць новую зарадку рабоце ўсёй пярвічнай партарганізацыі і ў першую чаргу яе кіраўніцтву. У спрэчках звычайна ўзнікае рад пытанняў і прапаноў, якія хоць і не маюць часам непасрэдных адносін к дакладу, але звязаны з работай усёй пярвічнай партарганізацыі. Трэба ўстанавіць парадак, каб такія пытанні станавіліся прадметам абгаварэння парткома.

Праверка партыйных дакументаў садзейнічала таму, што ідэйна-палітычны ўзровень партыйных сходаў значна павысіўся. У далейшым гэты перелом трэба ўсямерна замацоўваць. Станоўчы вопыт, накоплены за час праверкі партдакументаў, неабходна шырока ўкараняць у работу ўсіх партарганізацый.

Рашэнні пленума Ленінградскага гаркома ВКП(б) і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы даюць вычарпальныя ўказанні аб тым, як ператварыць партыйныя сходы ў сапраўды большэвіцкую школу ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў.

Настойліва і паслядоўна выконваць гэтыя рашэнні, замацоўваць і ўсямерна пашыраць накоплены вопыт—вось неадкладная, важнейшая задача партыйных арганізацый.

Ф. Ерэміхін

Прапагандыст смалявіцкага РК КП(б)Б

# Стаханаўскаму руху—большэвіцкае кіраўніцтва

Прамова таварыша **Сталіна** аб стаханаўскім руху з'явілася магутным рычагом перабудовы партмасавай работы на Жодзінскім камбінаце.

Мабілізаваўшы рабочыя масы вакол прамовы любімага правадыра, партыйная арганізацыя прыступіла да разгортвання стаханаўскага руху. Вытворчыя нарады ў цэхах далі яму першы штуршок.

Пры прапрацоўцы прамовы тав. Сталіна на вытворчай нарадзе дэпо машыніст Шалаеў абавязаўся павысіць грузапад'ёмнасць саставаў на 20%, машыніст Васілеўскі пасля вытворчай нарады без аварый і з павялічанай тэхнічнай хуткасцю правёў маршрут састава з павышанай нормай грузаў.

Пад умелым партыйным кіраўніцтвам стаханаўская хваля перакідаецца з дэпо ў механічны цэх. Комсамолец Драгуноў узяўся абслужыць два станкі—стругальны і свідравальны, Грынкевіч—свідравальны і бандажны (рацыяналізаваны парторгам Шаршульскім). Токар Позняк, электразваршчык Яцына, малады шаснаццацігадовы токар Букацін рацыяналізатарскімі мерапрыемствамі павялічылі свае нормы ў некалькі раз.

Вытворчы ўздым у дэпо і механічным цэху партарганізацыя пашырыла на ўвесь камбінат. Парторг Пацына з першымі вынікамі стаханаўскага руху выступіў на вытворчай нарадзе вагоннага цэха. Слесары Булаўскі, Вальтэр і іншыя ўзялі на сябе абавязацельства стаць стаханаўцамі і высунулі пытанне аб стаханаўскіх сутках.

Усе сілы партыйнай, комсамольскай і профсаюзнай арганізацыі камбіната былі мабілізаваны на разгортванне стаханаўскага руху. Урэшце не толькі паасобныя рабочыя, але і цэлыя цэхі ў некалькі раз пачалі перавыконваць свае заданні. Рэзка знізіліся аварыі ў рухаючым саставе, павялічылася тэхнічная хуткасць, бесперабойна пачала працаваць электрастанцыя.

Падвёўшы першыя вынікі стаханаўскага руху на вытворчых і цэхавых нарадах, адлюстраваўшы дасягненні ў плакатах і лозунгах, партыйная арганізацыя пачала падрыхтоўку да стаханаўскіх сутак.

Яшчэ раз вытворчымі нарадамі быў ахоплен увесь камбінат, яшчэ раз агітатары пашлі ў цэхі да рабочых, паехалі на лінію да абслугоўваючага персанала. Цалкам быў мабілізаваны комсамольскі і профсаюзны актыў.

Першыя стаханаўскія суткі на камбінаце былі праведзены 10 сту-

дзеня. У выніку майстэрні дэпо—ініцыятары стаханаўскіх сутак—выканалі вытворчае заданне на 321%. Паасобныя рабочыя паказалі сапраўды новыя формы социялістычнай працы: электразваршчык Яцына даў 509% задання, слесары вагоннага цэха Галушка, Вальтэр—600%, слесар механічнага цэха Чарапок—500%, рабочыя Пузанкевіч, Разумовіч і Жук—412%, рамонтныя рабочыя Голуб, Акончыц, Калоціна і Міцько ў неспрыяючых атмасферных умовах выпрацавалі 257,4%.

Перадавікамі ў гэты дзень аказаліся грузчыкі Зарэцкі і Дабравольскія Адам і Владзімір, якія сутачную норму пагрузкі выканалі больш як на 900%.

11 студзеня на вечары ўдарніка выступіў начальнік камбіната з дакладам аб выніках стаханаўскіх сутак, папярэдне абгавораных на парткоме. Выступаўшыя ў спрэчках указвалі рад прычын, тармазіўшых стаханаўскія тэмпы, давалі практычныя парады, як зжыць недахопы. Думка сходу была аднадушнай: прыступіць да падрыхтоўкі стаханаўскай пяцідзенкі.

Раніцай 12 студзеня камбінат упрыгожыўся лозунгамі і плакатамі аб стаханаўскай пяцідзенцы. Партарганізацыя прыступіла да плададатворнай, але крапатлівай работы—складання плана пяцідзенкі і расстаноўкі актыва. Кожны партыец быў замацаваны за пэўным месцам, атрымаў інструкцыю аб вытворчым заданні цэха, агрэгата, кожнага рабочага, вывучыў вузкія месцы свайго ўчастка. Рабочыя забяспечаны інструментам і матар'яламі.

13 студзеня па ўсіх цэхах праведзены былі вытворчыя нарады, на якіх агітатары, падагульняючы яшчэ раз вынікі стаханаўскіх сутак, рыхтавалі камбінат да стаханаўскай пяцідзенкі.

14 студзеня на паседжанні рабачкома прафоргі і профактыў атрымалі заданні, цвёрда засвоілі свае абавязкі і формы масавай работы.

У дзень партвучобы, 15 студзеня, калі прапрацоўваліся рашэнні апошняга пленума ЦК ВКП(б), партком яшчэ раз напомніў кожнаму комуністу аб яго ролі, аб даным заданні.

Расставіўшы партыйна-комсамольскія сілы, пракантраляваўшы тэхнічных работнікаў, загатоўку матар'ялаў, партком быў упэўнен у перамозе.

16 студзеня пачалася першая стаханаўская пяцідзенка на камбінаце. Хутчэй закруціліся колы, мацней застукалі накавальні. Камбінат пачаў жыць поўным стаханаўскім жыццём.

Увечары на лятучых вытворчых нарадах падводзіліся вынікі работы за першы дзень. Агітатары знаёмілі рабочых з ходам вытворчага ўздыму. На месцы знішчаліся недахопы, заключаліся індывідуальныя дагавары на лепшае выкананне дзеннай нормы.

Позна ўночы парторг камбіната тав. Шаршульскі падводзіў сутачны вынік, а раніцай рабочыя ўжо ведалі аб ім праз агітатараў, прафоргаў, дошку тэмпаў.

Увечары 20 студзеня на лятучых мітынгах падводзілі вынікі першай стаханаўскай пяцідзенкі. Рабочыя даведваліся не толькі аб проценце выканання, але і аб сваім заработку. Як першае, так і другое, перавысіла ўсякія чаканні.

Пераможцам вышаў вагонны цэх. Слесары Галушка, Булаўскі В., Булаўскі А. і Вальтэр далі 845% нормы. Перабудаваўшы сваю работу па канвеернай сістэме, яны за стаханаўскую пяцідзенку зрабілі пяць

новых пульманскіх цялежак для вузкакалейных вагонаў. Метад іх работы пераносіцца ў іншыя цэхі.

Слесары-паравознікі таксама заслугоўваюць увагі. Паравоз, пастаўлены на сярэдні рамонт, быў выпушчан за 5 дзён і 7 гадзін. Працавала 9 чалавек, з іх 2 дапаможных рабочых. У 1934 годзе паравоз з сярэдняга рамонту выходзіў праз 25 сутак пры той-жа колькасці рабочых, у 1935 годзе на такі-ж рамонт траціліся 15 сутак.

Электразваршчык Яцына, даючы ў паасобныя дні па 524% нормы, закончыў пяцідзенку на 487%. Слесар Маркевіч даў за пяцідзенку 310%. Наогул па майстэрнях вытворчы план быў выканан на 379%.

Не адставалі і паравозныя брыгады. Ініцыятар стаханаўскага руху—машыніст Шалаеў—павялічыў вагу састава, тэхнічную хуткасць і дабіўся безаварыйнай работы. Таксама выдатна працавалі Глачоў, Даўгоў і іншыя машыністы.

Па службе пуці першае месца заняла брыгада Акуловіча, даўшы за пяцідзенку 225%. Пагрузка таксама выявіла стаханаўцаў. Сярод грузчыкаў выдзяляецца Зарэцкі, які выканаў пяцідзеннае заданне на 924%. Дабравольскі і Чарапок адсталі ад яго толькі на 19%.

На конным транспарце нельга не адзначыць работу Кучынскай Ядзі. Атрымаўшы загнанага поўсляпога каня, Ядзя здолела вылячыць яго і выйсці ў рады стаханаўцаў па выкананню нормы.

Стаханаўская пяцідзенка паказала ўсяму рабочаму калектыву камбіната, што з праграмай 1936 года можна справіцца без капітальных затрат, хоць яна і павялічана больш як на 40% супроць мінулага года.

Класавы вораг спрабаваў змагацца супроць пераможнага руху стаханаўцаў. Група кулакоў на чале з прарабам Бутаровым знізіла расцэнкі, заблытала справаздачнасць, спрабавала дэзарганізаваць рабочых, але была выкрыта. Бутароў і Сарокін прысуджаны на тры гады зняволення, Рабецкі і Грышаеў—на два гады кожны.

Зняўшы рагаткі са стаханаўскага шляху і дасягнуўшы значных вынікаў, партком не супакоіўся і пачаў падрыхтоўку да стаханаўскай **дэкады.**

Тым часам, набыты вопыт усямерна пашыраецца. 22 студзеня партарганізацыя накіравала ў падшэфны калгас «Прамень советаў» члена партыі тав. Клімко, у калгас «Авангард»—тав. Міхаленка, на торфзавод «Чырвоны сцяг»—тт. Шаршульскага і нач. дэпо Пацына. На сходах рабочых і калгаснікаў яны дзеляцца сваім вопытам, вызначаюць план далейшай работы, дапамагаюць парадамі.

Згуртаваная партыйная арганізацыя камбіната разгортвае партыйную прапаганду. Заняткі ў школе па вывучэнню гісторыі партыі праходзяць рэгулярна, слухачы працуюць над першакрыніцамі марксізма. Кандыдацкая школа закончыла праграму і перашла да вывучэння гісторыі партыі. Школа для спачуваючых таксама нядрэнна разгарнула сваю работу. Літаратурны гурток, які пачаў працаваць з восені мінулага года, уцягнуў не толькі моладзь, але і дарослых рабочых. Добра абсталяваны клуб з драмгуртком, гукавым кіно і бібліятэка не даюць сумаваць рабочым Жодзінскага камбіната.

Словы нашага вялікага правадыра—таварыша **Сталіна:** «Жыць стала лепш, таварышы! Жыць стала весялей. А калі весела жывецца, работа спорыцца. Адсюль высокія нормы выпрацоўкі. Адсюль героі і гераіні працы»—цалкам і поўнасцю адносяцца і да Жодзінскага камбіната.

* * *

Прапрацоўка ліста ЦК ВКП(б), праверка партыйных дакументаў з'явіліся стымулам вялікага ўздыму партмасавай работы ў смалявіцкай партыйнай арганізацыі. Аб гэтым сведчыць азнаямленне з работай партыйнай арганізацыі Смалявіцкай МТС.

Увесну 1935 г., разбіўшы трактарны парк на брыгады, партыйная арганізацыя правяла вялікую выхаваўчую работу сярод трактарыстаў.

Як паміж брыгадамі, так і паасобнымі трактарыстамі, былі заключаны соцдагавары не толькі па пытаннях вытворчай работы, але і культурна-выхаваўчай.

Замацаваныя за брыгадамі партыйцы, выязджаючы ў калгасы, цікавіліся не толькі вытворчымі паказчыкамі і бытавымі ўмовамі. Яны праводзілі вялікую палітычную работу. На вытворчых нарадах брыгад падводзілі вынікі соцспаборніцтва, прапрацоўвалі бягучыя пытанні міжнароднай палітыкі, зачытвалі мастацкія творы.

Добрая партмасавая работа дала належныя вынікі. План ворыва за мінулы год трактарны парк выканаў на 117,3%, даўшы больш 10 тон эканоміі гаручага (9000 руб.). МТС выканала план натурааплаты на 127%. За год МТС мела 70.000 руб. прыбытку, з якіх 30.000 руб. пашлі на палепшанне бытавых умоў рабочых, а 40.000 руб. пераведзены ў Наркамзем.

Адмовіўшыся ад датацыі, работнікі МТС паказалі сапраўды стаханаўскі метад работы.

Трактарная брыгада Салодкага выканала план ворыва на 141,2% пры эканоміі больш 1500 кгр. гаручага. За ўдарную работу Салодкі 5 раз прэміраваўся. Маладыя трактарысты-стаханаўцы, Калека і Чарапок, амаль на 250% выканалі заданне па ворыву пры эканоміі больш 1000 кгр. гаручага.

Машыніст малатарні стаханавец Іваноўскі перакрыў заданне больш як у 2 разы і ўцягнуў у стаханаўскі рух астатніх машыністаў, сярод якіх Грак, Шушкевіч, Зыль і іншыя выканалі свае вытворчыя заданні на 150—200%.

Закончыўшы паспяхова пасеўную і ўборачную кампаніі, партарганізацыя МТС разгарнула вялікую партмасавую работу вакол рамонту сельскагаспадарчага інвентара і трактарнага парка.

Створаныя стаханаўскія брыгады па рамонту трактароў здолелі даць усесаюзныя рэкорды.

Слесар Орлоўскі, які мае 22 гады вытворчага стажу, выпусціў з капітальнага рамонту трактар «ФП» за 60 гадзін замест планавых 145, а трактар «ХТЗ»—за 80 гадзін замест 150.

Як ініцыятар стаханаўскага руху, тав. Орлоўскі ўнёс цэлы рад рацыяналізатарскіх прапаноў, за што атрымаў тры прэміі. Будучы лепшым стаханаўцам на вытворчасці, здаўшы тэхнічны экзамен на выдатна, ён прымае актыўны ўдзел і ў грамадскім жыцці МТС. У насценгазеце часта можна знайсці яго артыкулы. Не прашло ніводнай тэхнічнай і вытворчай нарады, на якой-бы ён не выступіў, каб падзяліцца сваім вытворчым вопытам.

Зараз тав. Орлоўскі ўзмоцнена папаўняе свой палітычны багаж. Акуратна наведвае палітшколу, складае канспекты заняткаў, рэгулярна чытае газеты і мастацкую літаратуру. У невялікай, але добра падабранай пры дапамозе парторга тав. Балабудкіна, бібліятэчцы Орлоў-

скага побач з тэхнічнай літаратурай можна знайсці класікаў марксізма і мастацкія творы.

Адначасова трэба адзначыць стаханаўскую работу слесараў тт. Лютарэвіча і Жылко. Першы выпускае трактар «ХТЗ» з сярэдняга рамонту за 76 гадзін, а другі—за 80 пры норме 150. Абодва яны, здаўшы тэхэкзамен на выдатна, прадаўжаюць тэхвучобу. Абодва—актыўныя грамадскія работнікі, лепшыя слухачы палітшколы.

Патрэбна спыніцца на рабоце партарганізацыі МТС у барацьбе за павышэнне ўраджайнасці, за 7—8 мільярдаў пудоў хлеба.

Адпушчаныя на зіму ў калгасы трактарысты арганізаваны былі ў звенні «барацьбы за ўраджайнасць», з якімі МТС трымала самую цесную сувязь.

Добра працуе звяно тав. Тіхановіча ў калгасе «Новае жыццё». Абавязаўшыся вывезці 1000 тон торфу і гною і выклікаўшы праз райгазету іншых трактарыстаў, Тіхановіч не толькі выконвае ўзятае абавязацельства, але і кантралюе, як працуюць звенні, што ўступілі з ім у спаборніцтва.

Таксама заслугоўвае ўвагі работа ўчастковага агранома—комсамольца Маневіча.

Маневіч арганізаваў курсы для брыгадзіраў на 35 чалавек і сам з імі займаецца. Адначасова правёў вялікую работу ў барацьбе за ўраджайнасць, арганізаваўшы звенні імя Марыі Дземчанка. Гэтыя звенні ўжо рыхтуюцца да выканання абавязацельства—даць краіне 250 цэнтн. бульбы і 400—500 пудоў гародных культур з гектара.

У калгасе «І Мая», Варатоўскага сельсовета, побач з вывазкай торфу і гною, шырока разгарнуўся збор попелу.

Узорна працуе лепшая ў раёне школа па гісторыі партыі (парторг т. Балабудкін). За апошні час значна выраслі слухачы: Будзько, Кудзелік і асабліва Дзенісаў. Прымацоўваючы сільных да адстаючых і дапамагаючы на даму, Балабудкін дабіўся таго, што кожны з яго слухачоў можа самастойна рыхтавацца не толькі да заняткаў, але і дакладаў.

Школай спачуваючых кіруе тав. Ізрайліцін. Добра вучацца ў гэтай школе тт. Жук, Ганчароў—лепшыя ўдарнікі вытворчасці.

У партшколе для беспартыйных, якую вядзе тав. Будзько, займаецца 38 чалавек. Лепшыя стаханаўцы вытворчасці Орлоўскі, Жылко і Лютарэвіч адначасова з'яўляюцца і лепшымі вучнямі.

Комсамольскай палітшколай кіруе тав. Кудзелік. У яго таксама ёсць ударнікі вучобы—Маневіч, Рабчынская.

Разгорнута і тэхвучоба. 12 раз у месяц работнікі МТС збіраюцца для папаўнення сваіх тэхнічных ведаў.

З планам работы пярвічнай партарганізацыі знаёмы кожны член і кандыдат партыі. Абвестка дня рассылаецца за 4—5 дзён да партсходу. Індывідуальныя справаздачы аб рабоце над сабой, аб выкананні нагрузак, аб вядучай ролі комуністаў на вытворчасці, аб партмасавай рабоце—вось асноўныя пытанні партыйных сходаў МТС.

Не забыты і бытавыя ўмовы рабочых. Прыгарадная гаспадарка, індывідуальныя гароды, сталоўка, адрамантаваныя электрыфікаваныя кватэры забяспечваюць рабочым культурнае жыццё.

Разгортваючы партыйна-масавую работу, мы даб'емся агромных дасягненняў і ў разгортванні стаханаўскага руху.

З. Салавей

Сакратар парткома гомельскага дрэваапрацоўчага камбіната імя Пікало

# Як мы арганізуем партыйную работу на камбінаце

Снежаньскі пленум Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) у сваім рашэнні аб выніках праверкі партыйных дакументаў адзначыў:

> «Важнейшым рэзультатам праверкі партыйных дакументаў з'яўляецца тое, што партыйныя арганізацыі, адначасова з выкрыццём пралезшых у партыю чуждых людзей, у значнай меры перамаглі элементы гэтай арганізацыйнай распушчанасці, прывялі ў парадак улік членаў партыі, лепш вывучылі комуністаў і на гэтай аснове вылучылі многіх новых, здольных работнікаў на кіруючую партыйную, совецкую і гаспадарчую работу».

Трэба прызнацца, што калі гарком партыі выносіў рашэнне аб вылучэнні на кіруючую работу актывістаў партарганізацыі нашага камбіната на іншыя прадпрыемствы Гомеля, я, як сакратар парткома, адчуваў нездаволенасць, думаючы, што ў партарганізацыі застанецца мала актыва, і часта сумняваўся ў яго здольнасцях. Калі-ж пры праверцы партдакументаў давялося глыбока вывучыць кожнага члена партарганізацыі, я пераканаўся ў няправільнасці сваіх папярэдніх поглядаў. На камбінаце аказаўся добры партыйны актыў, здольны кіраваць адказнымі ўчасткамі работы. Для прыкладу прывяду некаторых таварышоў:

**Славін А.**—член партыі з 1932 года доўгі час быў незаўважаным. Пачалі вылучаць па профсаюзнай лініі, куды яго самога цягнула. Такім чынам ад цэхавага праформа ён дашоў да намесніка старшыні заўкома. З работай спраўляецца нядрэнна.

Рабочага электрастанцыі **Грышанава** паслалі на курсы прапагандыстаў. Тэарэтычна падрыхтаваўшыся, ён зараз працуе сакратаром парткома фанернага завода.

У буйных цэхах камбіната, дзе на працягу трох месяцаў не было парторгаў, выяўлены і вылучаны тт. **Шэйман**—парторгам лесацэха, **Ракаў**—парторгам абознай вытворчасці. Яны нядрэнна спраўляюцца са сваімі абавязкамі, хоць раней не былі на партыйнай рабоце.

У рэзерв гаркома партыі вылучаны тт. **Тіхаміраў, Гордзіна** і **Макарэнка.** У недалёкім будучым яны змогуць цалкам справіцца з ускладзенай на іх работай.

Партыйная арганізацыя камбіната пасля праверкі партыйных дакументаў стала больш боездольнай у выкананні рашэнняў нашай партыі, хоць і паменшылася на 20 чалавек пасля выгнання чужакоў і выпадкова трапіўшых у яе. Гэта забяспечыла камбінату магчымасць заняць адно з першых месц сярод перадавых прадпрыемстваў Гомеля.

Камуністы і зараз стаяць у авангардзе стаханаўскага руху. 15 камуністаў з 21 занятых на вытворчасці (трое з іх майстрамі цэхаў) з'яўляюцца стаханаўцамі. Камуністы ўзначальвалі правядзенне стаханаўскіх сутак: Драгунова выканала план на 220%, Эйсмант—на 280%, Рэвуцкі—на 300% і т. д. Сярод беспартыйных рабочых яны прапрацоўвалі матар'ялы II сэсіі ЦВК СССР, арганізавалі перадачу вопыту лепшых стаханаўцаў на вытворчых нарадах, указвалі на недахопы паасобных брыгад. Характэрна, што 60% лепшых паказчыкаў прыпадае на камуністаў, комсамольцаў і спачуваючых. 3-га лістапада камбінат датэрмінова выканаў свой гадавы промфінплан.

Партарганізацыя яшчэ не можа пахваліцца сваёй работай са спачуваючымі, хоць у групах спачуваючых знаходзяцца лепшыя стаханаўцы, кадравыя рабочыя са значным вытворчым стажам: Рагінкіна—11 год, Лысая—6 год, Порахава—9 год, Гладкоў—8 год і інш. Многія з членаў партыі і некаторыя парторгі яшчэ недастаткова зразумелі ўсю важнасць уцягнення лепшых стаханаўцаў у групу спачуваючых, не вывучаюць іх, не даюць рэкамендацый.

Партыйны камітэт, заслухаўшы даклады парторгаў аб рабоце са спачуваючымі, вынес рашэнне, каб самі парторгі два разы ў пяцідзенку праводзілі заняткі са спачуваючымі, улічваючы іх запатрабаванні і не перадавяраючы нікому гэтай работы. Таксама яны павінны самі заняцца вывучэннем лепшых людзей для ўцягнення іх у групу спачуваючых.

Правяраючы выкананне сваіх рашэнняў, партыйны камітэт канстатаваў, што парторгі палепшылі выхаваўчую работу са спачуваючымі. Усе 19 спачуваючых займаюцца ў розных партыйных і агульнаадукацыйных школах. Таксама парторгі працуюць і над рэзервам з 16 чалавек, уцягваючы іх у грамадскую работу і падрыхтоўваючы для прыёму ў групу спачуваючых.

Раз у месяц партыйны камітэт склікае нарады спачуваючых для індывідуальных справаздач і дае ўказанні парторгам, як выправіць заўважаныя ў рабоце са спачуваючымі недахопы.

Партыйны сход—школа выхавання камуніста. Два тыдні мы рыхтавалі абвестку дня па тэарэтычнаму пытанню—«II з'езд партыі», каб яшчэ вышэй узняць сваю ідэйную згуртаванасць, лепш засвоіць этапы развіцця нашай большэвіцкай партыі для самай жорсткай барацьбы з контррэволюцыйным трацкізмам, меншавізмам і Бундам, што асабліва важна для нашай партарганізацыі, з якой вычышчаны не мала контррэволюцыянераў трацкістаў.

Да сходу рыхтавалася ўся партыйная арганізацыя. Партыйнаму камітэту прышлося дыферэнцыяваць падрыхтоўку. Таварышы, якія займаюцца ў соўпартшколе і комвузе, рыхтаваліся па пытаннях II з'езда партыі і ў сваіх выступленнях павінны былі расказаць аб тым, як яны выконваюць статут (партыйныя нагрузкі, дысцыпліна, уплата членскіх узносаў, авангардная роля ў цэху, удзел у стаханаўскім руху). Таварышы, якія займаюцца ў кандыдацкай і агульнаадукацыйнай школе, рыхтаваліся па пытаннях статута партыі і выканання яго на практычнай рабоце.

На сход з'явіліся ўсе сто процантаў камуністаў. Яшчэ да адчынення сходу запісалася 8 чалавек для ўдзелу ў спрэчках. Усяго выказалася 15 чалавек. Сход працягваўся 5 гадзін.

Характэрна, што партыйны камітэт спецыяльна не вылучаў да-

кладчыкаў, яны былі выдзелены прэзідыумам на самым сходзе. Пяць чалавек выступалі з індывідуальнымі справаздачамі аб вучобе, засваяемасці, авангарднай ролі ў цэху, выкананні статута і рашэнняў партыі. Сярод выступаючых былі і такія комуністы, як інжынер Алеўскі, начальнік электрастанцыі Егораў, майстар цэха Марозаў (вучыцца ў комвузе). Панадзеяўшыся на свае веды, яны слаба падрыхтаваліся і давалі блытаныя фармулёўкі стаяўшых на II з'ездзе партыі пытанняў (аб Бундзе, аб дыктатуры пролетарыята, аб нацыянальным пытанні і інш.). Радавыя-ж члены партыі—тт. Казлоў, Гордзіна, Лазоўскі—далі глыбокі аналіз падрыхтоўкі і правядзення II з'езду партыі, разнагалоссяў на ім, барацьбы Леніна (большэвікоў) з меншавікамі, бундаўцамі і інш., падрыхтоўкі да III з'езда партыі і адначасова падмецілі недахопы ў выступленнях вышэйадзначаных таварышоў.

Увогуле адчувалася здавальняючая падрыхтоўка да партыйнага сходу. Выступаўшым задавалі пытанні, кідалі рэплікі, калі дакладчык няправільна асвятляў закранутую тэму.

Партыйны сход у сваім рашэнні ўхваліў пастаноўку пытанняў у такім разрэзе і прапанаваў практыкаваць яе ў далейшым на агульных партыйных сходах, а таксама моцна папярэдзіў тт. Егорава, Алеўскага, Марозава, Астрэйку і Кусельмана, якія не па-партыйнаму аднесліся да падрыхтоўкі к сходу.

Праведзены сход даў магчымасць праверыць ідэйна-палітычны рост партыйнай арганізацыі. Адчуваецца асабліва сільная цяга да партыйнай вучобы. Многія таварышы штодня прыходзяць у партком за кансультацыяй па раду палітычных пытанняў.

Партыйны камітэт на паседжанні 14 студзеня заслухаў пытанне аб тым, як рыхтуюцца кандыдаты да пераводу ў члены партыі. На паседжанні прысутнічалі ўсе 14 кандыдатаў, пераведзеных па чыстцы ў 1933 г. Для падрыхтоўкі гэтага пытання вылучана было 8 комуністаў з рэзерва і актыва. Яны пабывалі на-даму ва ўсіх кандыдатаў, знаёміліся з іх прыватным жыццём, вучобай, работай на вытворчасці, выкананнем нагрузак, што палегчыла парткому і парторгам работу з кандыдатамі.

На паседжанні выступілі амаль усе кандыдаты і прад'явілі свае запатрабаванні. Выявіўся рад недахопаў у рабоце парткома з кандыдатамі партыі. У сувязі з гэтым партком вынес адпаведнае рашэнне, аб выкананні якога будзе заслухана справаздача праз два месяцы.

За апошні час значна ўзнялася рэволюцыйная большэвіцкая пільнасць партарганізацыі. Пасля праверкі партыйных дакументаў быў выключан з партыі Аўдзееў, які скрыў сваё кулацкае паходжанне. За апошнія два месяцы комуністамі камбіната выкрыта 11 чал. класава-чуждых элементаў (кулакі, збегшыя з ссылкі і рад іншых).

Не гледзячы на безумоўнае ажыўленне партыйнай работы, мы маем яшчэ рад недахопаў, асабліва ў рабоце са спачуваючымі, кандыдатамі партыі, адстаючымі комуністамі і ў выхаванні комсамола—аднаго з асноўных рэзерваў нашай партыі.

Задача парткома і ўсёй партыйнай арганізацыі камбіната—замацаваць дасягнутыя поспехі, падцягнуць адстаючыя ўчасткі і дабіцца далейшага ўздыму ўсёй партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы, па-баязому змагаючыся за выкананне рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б.

# РЭЗАЛЮЦЫІ ПЛЕНУМА ЦК КП(б)Б І ПАСТАНОВЫ ЦК ВКП(б) І ЦК КП(б)Б

## Практычныя мерапрыемствы па разгортванню стаханаўскага руху ў прамысловасці БССР у сувязі з рашэннямі пленума ЦК ВКП(б)

*Рэзалюцыя пленума ЦК КП(б)Б па дакладах т. т. Балціна, Трэцюхіна, Раскіна, Васермана і Готфрыда*

1. Пленум ЦК КП(б)Б цалкам і поўнасцю адабрае рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб рабоце прамысловасці і транспарту ў сувязі са стаханаўскім рухам і абавязвае ўсе партыйныя, гаспадарчыя, савецкія і прафесіянальныя арганізацыі БССР пакласці гэтыя рашэнні ў аснову сваёй работы.

2. Снежаньскі пленум ЦК ВКП(б) чотка вызначыў задачы ўсіх партыйных арганізацый у галіне стаханаўскага руху:

«Каб пашырыць стаханаўскі рух па ўсёй нашай краіне, каб масавы стаханаўскі рух не тлумачыўся, як хутка праходзячая кампанія, каб дапамагчы стаханаўцам перамагчы тыя перашкоды, якія ёсць на іх шляху, партыйныя і профсаюзныя арганізацыі павінны ўключыцца ў справу развіцця стаханаўскага руху і накіраваць намаганні стаханаўцаў у арганізаванае русло» (З рэзалюцыі пленума ЦК ВКП(б) ад 25 снежня 1935 г.)

Пленум ЦК КП(б)Б падкрэслівае, што ў прамысловасці БССР, на 85—90 проц. створанай пасля Окцябрскай рэволюцыі ў рэзультаце трыумфу ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, прамысловасці, у большасці аснашчонай паводле апошняга слова тэхнікі (часткова яшчэ не поўнасцю асвоенай), ёсць выключныя магчымасці для развіцця стаханаўскага руху.

Аб гэтым сведчыць хоць-бы той факт, што ўжо самыя першыя, яшчэ слабыя крокі стаханаўскага руху ў БССР далі магчымасць усёй прамысловасці БССР параўнальна лёгка выканаць гадавы промфінплан 1935 года па рэспубліцы 12 снежня—на 19 дзён раней тэрміну (гадавы промфінплан па рэспубліцы быў перавыканан на 1 студзеня 1936 года на 107,5 проц.).

Аб гэтым сведчыць таксама і той факт, што пры першых-жа вестках аб рэкордах тав. Стаханава і ў Беларусі з'явіліся дзесяткі тавaрышоў, даўшых рад рэкордаў павышэння прадукцыйнасці працы ў сваёй вытворчай рабоце, у тым ліку і ўсесаюзных рэкордаў. Аднак не глезячы на гэтыя паказчыкі, дасягнутыя паасобнымі стаханаўцамі прамысловасці БССР, гэта былі рэкорды адзіночак. Стаханаўскі рух ішоў самацёкам з прычыны таго, што гаспадарнікі, профсаюзнікі, работнікі прадпрыемстваў, трэстаў, наркаматаў, гаркомаў, райкомаў, друку БССР не ўзначалілі на гэтым этапе актыўнасці рабочых-стаханаўцаў,

недастаткова ім дапамаглі, несвоечасова падхапілі вопыт данецкіх, ленінградскіх, маскоўскіх бальшэвікоў у гэтай галіне, не змаглі стварыць рашучы пералом у інжынерна-тэхнічным складзе прадпрыемстваў і не вялі барацьбы са зрыўшчыкамі стаханаўскага руху (Віцебск, фабрыка імя Кагановіча, б. «Дзвіна»).

Толькі пасля прамовы таварыша Сталіна на ўсесаюзнай нарадзе стаханаўцаў большасць кіруючых работнікаў прадпрыемстваў БССР узяліся за кіраўніцтва стаханаўскім рухам і ў рэзультаце пасля нарады намеціўся рад сур'ёзных зрухаў у некаторых галінах прамысловасці (скурана-абутковая, запалкавая, дрэваапрацоўчая, харчовая, станкабудаўніцтва, штучны шоўк). Аднак і тут мелася многа стракатасці (ахоп рухам буйных прадпрыемстваў і забыццё больш дробных, няроўнамернасць руху паміж цэхамі і т. д.).

3. Першыя крокі сур'ёзнага разгортвання стаханаўскага руху на аснове выканання ўказанняў таварыша Сталіна і рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) на прадпрыемствах прамысловасці БССР цалкам пацвярджаюць, што ў прамысловасці БССР ёсць велізарныя скрытыя рэзервы вытворчых магутнасцей, якія пры ліквідацыі вузкіх месц, перашкаджаючых іх выяўленню, могуць даць велізарнае павелічэнне прадукцыі. (Так, напрыклад, прамысловасць будматар'ялаў павялічвае ў рэзультаце стаханаўскага руху вытворчасць цэглы ў 1936 годзе замест 220 мільёнаў у 1935 годзе, пры параўнальна невялікіх укладаннях, да 450 мільёнаў штук па плану 1936 года. На лесараспрацоўках работа стаханаўцаў дала магчымасць паставіць задачу выканання ўсяго гадавога плана 1936 года па лесараспрацоўках і вывазцы на працягу першага квартала, што з'яўляецца баявой задачай усіх партыйных і савецкіх арганізацый раёнаў БССР. На пабудаваным у 1935 годзе аўтарамонтным заводзе (Магілеў) праграма на 1936 год падвоена супроць праектнай магутнасці. Такія-ж факты можна прывесці ў галіне дрэваапрацоўчай, абутковай і швейнай прамысловасці).

4. Пленум ЦК патрабуе ад усіх гаспадарнікаў, профсаюзных, партыйных работнікаў, ад наркаматаў, АК, ГК і РК, акрвыканкомаў, горсаветаў і райвыканкомаў узначаліць стаханаўскі рух, замацаваць і расшырыць маючыйся ў наяўнасці сур'ёзны ўздым стаханаўскага руху ў прамысловасці БССР, замацаваць дасягненні стаханаўскіх змен, сутак, пяцідневак, дэкад, укараняючы гэты вопыт у штодзенную работу прадпрыемства, дабіваючыся хутчэйшагаператварэння ў стаханаўскія цэлых цэхаў і прадпрыемстваў. Усе арганізацыі Беларусі абавязаны па-баявому арганізаваць выкананне рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) аб рашучым пераглядзе адсталых тэхнічных норм, а таксама аб пераглядзе норм выпрацоўкі ў бок іх некаторага павышэння і шырока выкарыстаць вопыт партыйна-масавай работы данецкіх, маскоўскіх і ленінградскіх партарганізацый па пытаннях стаханаўскага руху.

Разгортваючы работу па стаханаўскаму руху, партарганізацыі, профарганізацыі і гаспадарнікі павінны: «Выкрываць класава-варожыя элементы, якія прабуюць пакасціць стаханаўцам, і згуртаваць вакол стаханаўскага руху найшырэйшыя масы рабочых». (З рэзалюцыі пленума ЦК ВКП(б)). Толькі пры ўсіх гэтых умовах мы можам зрабіць 1936 год у рабоце прамысловасці БССР стаханаўскім годам.

Ва ўсёй рабоце па кіраўніцтву стаханаўскім рухам неабходна выходзіць з таго гістарычнага ўказання пленума ЦК ВКП(б), што «стаханаўскі рух узнімае культурна-тэхнічны ўзровень рабочага

класа, ламае старыя тэхнічныя нормы, перакрывае ў радзе выпадкаў прадукцыйнасць працы перадавых капіталістычных краін, забяспечвае ператварэнне нашай краіны ў найбольш заможную краіну і ўмацоўвае, такім чынам, пазіцыі соцыялізма ў сусветным маштабе».

5. Пленум ЦК рашуча перасцерагае гаспадарчае, партыйнае і профсаюзнае кіраўніцтва прадпрыемстваў супроць паўтарэння меўшых месца фактаў апашлення ідэй стаханаўскіх змен, сутак, дэкад, калі яны ў некаторых выпадках праводзіліся без належнай падрыхтоўкі і арганізацыі і ў выніку ў стаханаўскія змены і суткі былі дасягнуты нязначныя рэзультаты, ні ў якой меры не ўскрыўшыя сапраўднай магутнасці абсталявання (завод «Рухавік рэволюцыі»—Гомель).

6. Пленум ЦК ставіць перад усімі наркаматамі, трэстамі і дырэктарамі прадпрыемстваў БССР, як важнейшую баявую задачу, не пазней 1 ліпеня 1936 года (па календарнаму плану, зацвярджаемаму наркаматамі) закончыць выяўленне і вызначэнне новай праектнай магутнасці ўсіх прадпрыемстваў данай галіны прамысловасці, іх абсталявання і прадставіць на зацверджанне ЦК і СНК свае канкрэтныя прапановы па гэтаму пытанню.

Пленум ЦК даручае бюро ЦК і СНК не пазней 3-га квартала разгледзець новыя праектныя магутнасці прадпрыемстваў, зацвердзіўшы іх як мінімальныя.

7. Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што большасць інжынерна-тэхнічных работнікаў на прадпрыемствах Беларусі яшчэ актыўна не ўключыліся ў стаханаўскі рух, прычым ёсць рад фактаў неразумення і нават рад паасобных фактаў супраціўлення з боку некаторых інжынерна-тэхнічных работнікаў стаханаўскім метадам работы. Гэта сведчыць аб тым, што мясцовыя партыйныя, прафесіянальныя і гаспадарчыя арганізацыі БССР недаацэньваюць усёй важнасці ўзначальвання стаханаўскага руху з боку ІТР і актыўнай дапамогі ІТР стаханаўцам.

Пленум ЦК прапануе прыняць да няўхільнага выканання ўказанне пленума ЦК ВКП(б) аб тым, што «неабходна, перш за ўсё, зламіць засталаеся супраціўленне стаханаўскаму руху з боку кансерватыўнай часткі гаспадарнікаў і інжынерна-тэхнічных работнікаў усіх галін прамысловасці і транспарту і, па-другое, усямерна дапамагчы ўзначаліць гэты рух тым гаспадарнікам, інжынерам і тэхнікам, якія ідуць насустрач стаханаўскаму руху, але не змаглі яшчэ ўзначаліць яго». (З рэзалюцыі пленума ЦК ВКП(б)).

8. Адной з важнейшых задач з'яўляецца арганізацыя шырокага абмену вопытам работы стаханаўцаў (газеты, папулярныя брашуры).

Пленум лічыць яшчэ слабой работу раённых і гарадскіх газет БССР і выдавецтваў у гэтай галіне і прапануе рэдактарам усіх газет і выдавецтвам рашуча ўзмацніць работу па асвятленню вопыту стаханаўскага руху ў прамысловасці БССР.

Пленум адзначае слабасць работы профарганізацый БССР у галіне кіраўніцтва стаханаўскім рухам і ставіць перад цэнтральнымі праўленнямі профсаюзаў БССР галоўнай задачай арганізацыю шырокай дапамогі стаханаўцам у іх рабоце, арганізацыю рашучай барацьбы з праціўнікамі стаханаўскага руху—скрытымі і адкрытымі, разгортванне шырокай работы па палепшанню культурна-бытавога абслугоўвання стаханаўцаў, арганізацыю кантролю за палепшаннем

работы ўстаноў, абслугоўваючых рабочых і іх дзяцей, дамоў адпачынку, дзіцячых садоў, яслей, у асаблівасці на прадпрыемствах з вялікай колькасцю жанчын-работніц, з тым, каб дапамагчы ім яшчэ больш актыўны ўдзел прымаць у стаханаўскім руху.

Пленум лічыць слабой падрыхтоўчую работу трэстаў і кіраўніцтва прадпрыемстваў да рашучага перагляду тэхнічных норм, а таксама да перагляду норм выпрацоўкі ў бок некаторага іх павышэння. Усе кіраўнікі прадпрыемстваў прамысловасці БССР павінны прыняць да няўхільнага і неадкладнага выканання важнейшае ўказанне пленума ЦК ВКП(б) аб тым, што... «Неабходна замяніць цяперашнія тэхнічныя нормы, як устарэлыя, больш высокімі нормамі і змяніць адпаведна нормы выпрацоўкі ў бок некаторага іх павышэння з тым, аднак, каб ва ўмовах прагрэсіўнай здзельшчыны цяперашнія расцэнкі былі захаваны, а фонд заработнай платы з прычыны росту стаханаўскага руху, быў павялічан»..., а таксама аб тым, каб: «а) выходзіць пры ўстанаўленні норм выпрацоўкі са строгай праверкі вытворчых магчымасцей цэха і прадпрыемства і ўліку перадавога вытворчага вопыту стаханаўцаў; б) ускласці работу па нармаванню і адказнасць за яе становішча на інжынерна-тэхнічны персанал цэха і прадпрыемства пад непасрэдным кіраўніцтвам дырэктара прадпрыемства; в) шырока прыцягнуць да работы па ўстанаўленню новых форм выпрацоўкі на прадпрыемствах кадры стаханаўцаў». (З рэзалюцыі пленума ЦК ВКП(б)).

Пленум даручае наркаматам, ЦСПСБ склікаць па кожнай галіне прамысловасці БССР галінныя канферэнцыі ў складзе дырэктароў прадпрыемстваў, начальнікаў цэхаў, інжынераў, майстроў і стаханаўцаў (па календарнаму плану, зацверджанаму наркаматамі), на якіх грунтоўна, падрабязна і канкрэтна прапрацаваць пытанне як аб перaглядзе тэхнічных норм, абсталявання і магутнасці прадпрыемстваў так і аб пераглядзе норм выпрацоўкі ў бок некаторага павышэння з тым, каб выпрацаваныя на гэтых нарадах праекты норм выпрацоўкі затым былі-б узгоднены з адпаведнымі матар'яламі галінных нарад саюзных наркаматаў.

9. Пленум ЦК КП(б)Б ставіць перад усімі АК, ГК і РК КП(б)Б прамысловых раёнаў у якасці важнейшых задач—забяспечанне вядучай ролі комуністаў і комсамольцаў на вытворчасці ў справе развіцця і ўзначалення стаханаўскага руху і выкарыстання лепшых узораў партмасавай работы маскоўскіх, ленінградскіх і данецкіх большэвікоў у гэтай галіне з тым, каб пытанні кіраўніцтва стаханаўскім рухам і дапамогі стаханаўцам занялі ў практычнай рабоце акругкомаў, гаркомаў, райкомаў і іх сакратароў адно з цэнтральных месц.

10. Пленум, адзначаючы наяўнасць значнага аслаблення ўвагі гаспадарчых і профсаюзных арганізацый справе тэхвучобы, прапануе ўсім наркаматам БССР ахапіць у 1936 г. тэхмінімумам першай і другой ступені ўсіх вытворчых рабочых, «падпарадкаваўшы гэту важнейшую справу задачы ўздыму культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы» (з рэзалюцыі пленума ЦК ВКП(б)) і арганізаваўшы спецыяльную работу па павышэнню ўзроўню ведаў стаханаўцаў.

Выходзячы з рашэнняў пленума ЦК ВКП(б), пленум ставіць наступныя задачы перад паасобнымі галінамі прамысловасці:

## I. Па тарфянай прамысловасці

1. Пленум лічыць, што разгортванне стаханаўскага руху ў тарфянай прамысловасці БССР мае выключнае значэнне для народнай гаспадаркі Беларусі, бо на тарфяным апале грунтуецца ў асноўным энергетыка народнай гаспадаркі БССР.

2. Пленум адзначае слабую работу дырэктара трэста Белторф тав. Кузняцова па кіраўніцтву стаханаўскім рухам у тарфянай прамысловасці БССР.

Пленум падкрэслівае вялікую памылку многіх работнікаў тарфянай прамысловасці, памылкова лічачых, што зімою ніякага стаханаўскага руху ў тарфянай прамысловасці не можа быць. Шырокая падрыхтоўчая работа да сезона, пытанні правільнай пагрузкі і разгрузкі, стаханаўская работа па рамонту механізмаў, жыллёвага фонда і т. д.—ва ўсіх гэтых галінах ужо цяпер неабходна шырока разгарнуць стаханаўскі рух.

Пленум патрабуе ад усіх работнікаў тарфянай прамысловасці БССР рашуча зжыць адзначаныя недахопы і неадкладна шырока разгарнуць падрыхтоўчую работу да стаханаўскага сезона на торфе.

## II. У галіне прамысловасці будматар'ялаў

Пленум адабрае рашэнне нарады па будаўніцтву, праведзенай 6—8 студзеня пры ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб тым, каб у 1936 г. поўнасцю забяспечыць усё будаўніцтва, якое праводзіцца ў БССР па ўсіх лініях высокаякаснымі, уласнымі мясцовымі будаўнічымі матар'яламі (цэглай, вапнай і т. д.), для чаго, на падставе выяўленай у працэсе стаханаўскага руху новай магутнасці, паставіць баявую задачу ў будаўнічай прамысловасці БССР—даць у 1936 г. не менш 450 млн. штук цэглы па зацверджанаму пасля нарады плану з тым, каб арганізаваць барацьбу за максімальнае перавыкананне гэтага плана.

Пленум даручае бюро ЦК і СНК тэрмінова прыняць усе неабходныя аперацыйныя меры да выканання гэтай важнейшай задачы.

Пленум зварачае ўвагу дырэктара трэста будматар'ялаў тав. Бампі, старшыні Белпромсовета тав. Міронава і ўсіх старшынь РВК, маючых цагельныя заводы райвыканкомаўскай прамысловасці, на тое, што пастаўленая велізарная задача патрабуе выключна шырокага разгортвання стаханаўскага руху на прадпрыемствах цагельнай, чарапічнай, вапнянай і іншых галін прамысловасці будматар'ялаў, у якіх у сучасны момант яна разгорнута яшчэ недастаткова.

Пленум ставіць перад усімі наркаматамі, будаўнічымі арганізацыямі і іх кіраўнікамі (тт. Васерманам, Глейберманам, Голубевым, Казлоўскім і інш.) задачу: шырока разгарнуць стаханаўскі рух на будоўлях і дабіцца ў 1936 г.:

а) высокаякаснага выканання планаў будаўніцтва (зніжэння сабекошту будаўніцтва не менш чым на 15 проц., павелічэння прадукцыйнасці працы не менш чым на 35 проц.);

б) стварэння пастаянных кадраў абучаных, кваліфікаваных рабочых у будаўнічых арганізацыях;

в) рацыяналізацыі пастаноўкі будаўнічай справы (спецыялізацыя будаўнічых арганізацый і т. д.);

г) шырокага прымянення механізацыі будаўніцтва, лепшага выкарыстання механізмаў;

д) рашучага палепшання матар'яльна-бытавога, культурнага і жыллёвага абслугоўвання рабочых-будаўнікоў (у прыватнасці, шляхам будаўніцтва пастаянных інтэрнатаў);

е) шырокага разгортвання тэхвучобы рабочых-будаўнікоў і работнікаў прамысловасці будматар'ялаў.

## III. Па металапрамысловасці БССР

Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што побач з прадпрыемствамі, дзе стаханаўскі рух пачынае шырока развівацца (завод імя Кірава, Менск—дырэктар тав. Драбышэўскі; акулярная фабрыка, Віцебск—дырэктар тав. Галуза; завод імя Кірава, Гомель—дырэктар тав. Добкін; завод імя Кірава, Віцебск—дырэктар тав. Сліозберг; завод імя Дзімітрава, Магілеў—дырэктар тав. Гарэлік; завод «Чырвоны Окцябр», Орша—дырэктар тав. Слонімскі), ёсць заводы, якія значна адстаюць у галіне разгортвання стаханаўскага руху. Да іх належаць: у першую чаргу ложкавая фабрыка ў Гомелі, дырэктар тав. Зыкаў і завод «Рухавік рэволюцыі», дырэктар тав. Крыштафук.

Пленум прапануе Наркаммясцпрому і дырэктару Металатрэста тав. Левіну, а таксама дырэктарам адпаведных прадпрыемстваў у працэсе разгортвання стаханаўскага руху дабіцца значнага палепшання якасці і расшырэння асартыменту прадукцыі (для чаго, у прыватнасці, неадкладна ўмацаваць і расшырыць канструктарскую работу па ўсіх прадпрыемствах БССР) і забяспечыць сапраўднае ўзначаленне стаханаўскага руху інжынерна-тэхнічнымі работнікамі заводаў.

## IV. Па лясной і дрэваапрацоўчай прамысловасці

Пленум ЦК КП(б)Б канстатуе, што не гледзячы на здавальняючыя рэзультаты, дасягнутыя ў разгортванні стаханаўскага руху па асобных прадпрыемствах дрэваапрацоўчай прамысловасці (Бабруйскі камбінат, дырэктар тав. Зубрыцкі, віцебскі лесазавод імя «Правды», фанерны завод імя Кірава, запалкавая фабрыка «Везувій», «X Окцябр» і імя Кірава), а таксама па некаторых леспрамгасах (Клічаўскі і Уздзенскі леспрамгасы),—большасць прадпрыемстваў дрэваапрацоўчай прамысловасці і леспрамгасы ўсё-ж моцна адстаюць у разгортванні стаханаўскага руху, асабліва па лесазагатоўках і лесавывазцы, што стварае пагрозу недаснабжэння раду галін прамысловасці і будаўніцтва лясньмі матар'ямі.

а) Пленум ЦК абавязвае кіраўніка трэстам Лесбел тав. Трэцюхіна, дырэктароў усіх леспрамгасаў БССР і асабліва Рэчыцкага тав. Калмановіча, Осіповіцкага тав. Гольдзіна, Барысаўскага тав. Шульгіна, Бабруйскага тав. Аграновіча, начальнікаў лесаўчасткаў і ўсіх камуністаў, працуючых у лесе, выкарыстоўваючы ініцыятыву лепшых стаханаўцаў лесу тт. Дыдо і іншых, шырока разгарнуць стаханаўскі рух на лесазагатоўках і вывазках, у першую чаргу на механізаваных участках з тым, каб поўнасцю выкарыстаць магутнасць кожнага механізма і забяспечыць выкананне гадавога плана па лесазагатоўках і вывазках па кожнаму леспрамгасу на працягу 1-га квартала пры значным змяншэнні затраты рабочай сілы.

б) Дырэктары прадпрыемстваў папяровай прамысловасці, у прыватнасці дырэктар фабрыкі «Герой працы» тав. Гайсін, на падставе ўжо маючагася вопыту па правядзенню стаханаўскіх змен і сутак і ўжо выяўленых рэзерваў, павінны разгарнуць стаханаўскі рух, у першую чаргу ў цэхах па выпрацоўцы цэлюлозы, драўніннай масы і судакоўкі, павелічэнне сутачнага абароту на цэлюлозным заводзе і выхаду драўніннай масы на дыфібрэрах на дрэўмасавым заводзе, павелічэнне скорасці папяровых машын, а таксама дабіцца жорсткай эканоміі хімікатаў, змяншэння прастояў, ліквідаваць брак, абрывы і рашуча павысіць якасць прадукцыі.

в) Дырэктар трэста Белдрэў тав. Дварэцкі, упаўнаважаны фанератрэста тав. Гулеў, дырэктары запалкавых фабрык і фанерных заводаў павінны накіраваць стаханаўскі рух у першую чаргу на павышэнне прадукцыйнасці абсталявання, поўнае і эканомнае выкарыстанне сыравіны і палепшанне якасці прадукцыі (у тым ліку і па прадпрыемствах мэблевай прамысловасці (завод імя Молатава і інш.), дабіваючыся павелічэння выпуску высокаякаснай, прыгожай і таннай мэблі).

## V. Па шкляной прамысловасці

Пленум адзначае, што стаханаўскі рух на прадпрыемствах шкляной прамысловасці БССР развіваецца няроўнамерна: побач з некаторымі зрухамі ў стаханаўскім руху сярод асноўных прафесій падсобныя цэхі адстаюць і тармозяць агульнае развіццё стаханаўскага руху на прадпрыемствах шкляной прамысловасці, а між тым праведзеныя стаханаўскія змены ўскрылі значныя нявыкарыстаныя магчымасці прадпрыемстваў шкляной прамысловасці (выкананне плана заводам «Окцябр» на 121,6 проц., Новабарысаўскім шклозаводам— на 140 проц. і т. д.).

Пленум зварачае ўвагу начальніка шклокіраўніцтва НКМясцпрома тав. Кандрашчука на тую акалічнасць, што стаханаўскі рух па большасці заводаў шкляной прамысловасці БССР разгортваецца яшчэ вельмі слаба, асабліва па заводах «Ільіч» (дырэктар тав. Радукоўскі) і «Комінтэрн» (дырэктар тав. Сямёнаў).

## VI. Па швейнай і скурабутковай прамысловасці

а) Разгортванне стаханаўскага руху і першыя крокі правядзення стаханаўскіх сутак і змен па швейнай прамысловасці БССР пацвярджаюць магчымасць вялікага росту прадукцыйнасці працы, эканоміі дэфіцытных матар'ялаў і рашучага палепшання якасці прадукцыі на прадпрыемствах гэтай галіны прамысловасці БССР.

У швейнай прамысловасці стаханаўскі рух павінен быць накіраван, побач з барацьбой за высокую прадукцыйнасць працы, па лініі эканоміі сыравіны, рэзкага палепшання якасці прадукцыі, разнастайнасці асартыменту, фасоннасці і зніжэння сабекошту.

У швейнай прамысловасці БССР становішча спраў склалася такім чынам, што большасць прадпрыемстваў мае пэўныя значныя нявыкарыстаныя вытворчыя магутнасці. Гэта прывяло да таго, што на радзе швейных прадпрыемстваў у ІТР'аўскім складзе і ў кіраўнікоў прадпрыемстваў стварыліся прахладныя адносіны да барацьбы за па-

вышэнне прадукцыйнасці працы і павышэнне каэфіцыента выкарыстання абсталявання.

Пленум ЦК падкрэслівае абсалютную няправільнасць і антыпартыйнасць такога роду адносін да барацьбы за поўнае выкарыстанне сапраўдных магутнасцей абсталявання, маючых яшчэ месца ў некаторых работнікаў швейнай прамысловасці БССР, і прапануе дырэктару Швейтрэста—тав. Карасіку і дырэктарам буйнейшых фабрык БССР тт. Калабкову, Драгілеву, Кагану, Варкіну і іншым, на падставе скарыстання вопыту праведзеных стаханаўскіх змен, сутак і т. д., арганізаваць выключна энергічную барацьбу за безумоўнае выкарыстанне да дна высокай тэхнікі, якою ўзброены швейныя фабрыкі БССР.

б) Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае кіраўнікоў скурабутковай прамысловасці, так сама як і швейнай, накіраваць сваю галоўную ўвагу на палепшанне якасці выпускаемай прадукцыі, расшырэнне асартыменту, эканомію матар'ялаў і зніжэнне сабекошту, палепшанне якасці аддзелкі і апрацоўкі абутку, на вышуканне замяніцеляў.

Пленум папярэджвае кіраўніцтва Скуртрэста і дырэктароў абутковых прадпрыемстваў: фабрыкі імя Кагановіча тав. Кліорына, фабрыкі імя Лекерта тав. Кахановера аб абсалютнай недапушчальнасці меўшых месца за апошні час фактаў зніжэння паказчыкаў па выпуску першагатунковага абутку (у снежні на фабрыцы імя Кагановіча выпушчана першага гатунку 86 проц. супроць 86,7 проц. у верасні; на фабрыцы імя Лекерта ў снежні—83 проц. супроць 91 проц. у верасні).

Пленум падкрэслівае, што паўтарэнне такога роду фактаў у будучым будзе сведчыць аб невыкананні важнейшага ўказання пленума ЦК ВКП(б) аб якасці прадукцыі.

## VII. Па тэкстыльнай і трыкатажнай прамысловасці

Пленум лічыць, што ў галіне стаханаўскага руху тэкстыльная прамысловасць БССР павінна працаваць над правядзеннем тых-жа самых задач, якія стаяць перад тэкстыльнай і трыкатажнай прамысловасцю Наркамлегпрома СССР.

Адзначаючы, што не гледзячы на рад папярэджанняў ЦК, кіраўніцтва віцебскай фабрыкі імя Кагановіча (дырэктар тав. Сямёнаў) выключна дрэнна ўзначальвае стаханаўскі рух, пленум прапануе віцебскаму ГК прыняць рашучыя аперацыйныя меры да палепшання становішча на фабрыцы імя Кагановіча.

Пленум ЦК ставіць перад усімі партыйнымі, прафесіянальнымі і гаспадарчымі арганізацыямі задачу—разгарнуць ва-ўсю стаханаўскі рух на заводах пярвічнай пераапрацоўкі лёну, на ільнапрадзільных і ільнаткацкіх прадпрыемствах БССР з тым, каб на аснове безумоўнага выканання ўказанняў пленума ЦК ВКП(б) зрабіць работу прадпрыемстваў гэтай галіны прамысловасці БССР узорнай ва ўсіх адносінах.

## VIII. У галіне харчовай прамысловасці саюзнай і рэспубліканскай

Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што стаханаўскі рух, які разгарнуўся ў харчовай прамысловасці БССР, прывёў да раду дасягненняў на некаторых перадавых прадпрыемствах, дзе праведзены стаханаўскія

суткі, змены і пяціднеўкі выявілі значныя дадатковыя вытворчыя магутнасці (фабрыка «Комунарка», дырэктар тав. Любін—на 3 тыс. тон кандзіцерскіх вырабаў у год дадатковай магутнасці, па спіртазаводах—на 1,5 млн. дэкалітраў дадатковай магутнасці), што апракідвае ўсе старыя тэхнічныя нормы і праектныя магутнасці. Разам з тым пленум лічыць, што на большасці харчовых прадпрыемстваў БССР стаханаўскі рух разгорнут усё яшчэ дрэнна (макаронная фабрыка ў Барысаве, маргарынавы завод у Гомелі, большасць спіртазаводаў, бабруйскі хлебазавод і т. д.).

Выходзячы з гэтага, пленум прапануе ўсім кіраўнікам харчовых прадпрыемстваў БССР у першую чаргу паставіць сваёй задачай усямернае разгортванне стаханаўскага руху ў кандзіцерскай, макароннай, спіртагарэлачнай, крахмальна-патачнай, маслабойнай і гароднінa-сушыльнай прамысловасці.

Пленум падкрэслівае, што «стаханаўскі рух ставіць перад харчовай прамысловасцю не толькі задачы павелічэння прадукцыйнасці працы і павелічэння колькасці выпускаемай прадукцыі, але патрабуе ўсямернага палепшання смакавых і спажыўных якасцей харчовых прадуктаў, палепшання іх упакоўкі, расфасоўкі, узбагачэння асартыменту ў адпаведнасці з павышанымі патрабаваннямі працоўных і разгортваючагася совецкага гандлю». (З рэзалюцыі пленума ЦК ВКП(б)).

## IX. Па комунальных прадпрыемствах і электрастанцыях

а) Пленум канстатуе, што ў сістэме прадпрыемстваў, падпарадкаваных Наркомгасу БССР і гарадскім советам (трамвай, электрастанцыя і т. д.), стаханаўскі рух разгорнут выключна слаба.

Пленум звярачае ўвагу тав. Амбражунаса і старшынь горсоветаў, а таксама дырэктароў адпаведных прадпрыемстваў комунальнай гаспадаркі БССР, што далейшае іх адставанне ў гэтай галіне нецярпіма, тым больш, што ва ўсіх прадпрыемствах гэтага тыпу ёсць найшырэйшыя магчымасці для разгортвання стаханаўскага руху.

б) Пленум ЦК КП(б)Б лічыць асноўным паказчыкам стаханаўскай работы электрастанцый БССР «пераход на безаварыйную работу, павышэнне выкарыстання абсталявання за кошт змяншэння прастояў кацельных і турбінных агрэгатаў у бягучым і капітальным рамонце, скарачэнне ўдзельнага расходу апалу» (з рэзалюцыі пленума ЦК ВКП(б)). Па ўсіх гэтых паказчыках рад электрастанцый БССР моцна адстае.

Пленум канстатуе, што ў апошні час БелДРЭС нездавальняюча выконвала свой абавязак у адносінах бесперабойнага снабжэння энергіяй прадпрыемстваў, чым у радзе выпадкаў зрывала стаханаўскі рух у Віцебску, Магілеве і Оршы, і патрабуе ад усяго калектыва рабочых, інжынераў, кіраўнікоў БелДРЭС выключнага напружання ўсіх сіл для наладжання сапраўднай стаханаўскай работы станцыі на працягу ўсяго 1936 года. Пленум даручае Віцебскаму, Магілеўскаму і Оршанскаму ГК і РК КП(б)Б аказаць неабходную дапамогу ў рабоце партыйных, прафесіянальных, гаспадарчых арганізацый БелДРЭС і Осінторфа, якія з'яўляюцца прадпрыемствамі, забяспечваючымі энергабазу ўказаных гарадоў.

Даручыць бюро ЦК заслухаць у бліжэйшы час пытанне аб ходзе выканання рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб разгорт-

ванні стаханаўскага руху на прадпрыемствах чыгуначнага, рэчнага і аўтатранспарту, якія знаходзяцца на тэрыторыі БССР.

Прапанаваць промаддзелу ЦК КП(б)Б галоўную сваю ўвагу сканцэнтраваць на штодзенным кантролі за практычным ажыццяўленнем рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б па стаханаўскаму руху.

Пленум ЦК КП(б)Б выказвае глыбокую ўпэўненасць у тым, што ўсе работнікі прамысловасці БССР, гаспадарчыя, партыйныя, прафесіянальныя арганізацыі і рабочыя-стаханаўцы безумоўна выканаюць рашэнні пленума ЦК ВКП(б) па пытанню аб рабоце прамысловасці і транспарту, у сувязі са стаханаўскім рухам зробяць 1936 год у рабоце прамысловасці стаханаўскім годам і забяспечаць новы ўздым усіх галін прамысловасці ордэнаноснай БССР.

# Аб выніках праверкі партдакументаў па КП(б) Беларусі

*Рэзалюцыя пленума ЦК КП(б)Б па дакладу тав. Валковіча*

Пленум ЦК КП(б)Б цалкам ухваляе рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб выніках праверкі партыйных дакументаў па ВКП(б) і абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі КП(б)Б палажыць гэтыя рашэнні ў аснову ўсёй сваёй далейшай работы.

Вынікі праверкі партдакументаў па КП(б)Б поўнасцю пацвердзілі своечасовасць і правільнасць указанняў ЦК ВКП(б) ад 13 мая 1935 г. аб тым, што ў выніку арганізацыйнай распушчанасці партыйных арганізацый, недапушчальнага дабрадушша і ратазейства сярод членаў партыі «ворагі партыі і рабочага класа карысталіся доступам да партыйных дакументаў, атрымлівалі партбілеты і прыкрываліся імі ў сваёй гнуснай рабоце па падрыву справы партыі і совецкай дзяржавы».

Геніяльная празарлівасць правадыра нашай партыі—вялікага Сталіна, які выкрыў новыя формы барацьбы і тактыку класавага ворага, пастаноўка таварышом Сталіным пытання аб праверцы партдакументаў і аб узмацненні пільнасці, аперацыйнае большэвіцкае кіраўніцтва праверкай партдакументаў з боку ЦК ВКП(б)—забяспечылі мабілізацыю партыйных радоў на ачышчэнне партыі ад ворагаў, чуждых людзей, аферыстаў і жулікаў, ашуканчым чынам пралезшых у партыю.

Праверка партыйных дакументаў з'явілася важнейшым палітычным мерапрыемствам, забяспечыўшым, побач з ачышчэннем партыйных радоў ад контррэволюцыйных, варожых белагвардзейскіх элементаў, павышэнне пільнасці і боездольнасці партыйных арганізацый, рост ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў, актывізацыю комуністаў у палітычным жыцці партыі і краіны, узмацненне партыйнага апарата і палітычны рост кіруючых партыйных кадраў.

У выніку праверкі партыйных дакументаў, якая выклікала значны рост палітычнай актыўнасці комуністаў, палепшанне партыйнага кіраўніцтва і яшчэ большае ўмацаванне сувязі і аўтарытэту партыі ў шырокіх масах працоўных, КП(б)Б дабілася паспяховага сканчэння сельскагаспадарчага года і на аснове росту стаханаўскага руху выканала датэрмінова гадавы план прамысловасці.

У выніку праверкі партыйных дакументаў КП(б)Б умацавала свае рады, як ніколі згуртавалася вакол ЦК ВКП(б) і правадыра партыі таварыша Сталіна.

Пленум ЦК КП(б)Б асабліва падкрэслівае важнейшае гістарычнае значэнне ліста ЦК ВКП(б) аб праверцы партдакументаў для КП(б)Б,

якая працуе на рубяжы з капіталістычным Захадам. Прымежныя ўмовы работы патрабавалі ад КП(б)Б найбольш паслядоўнай і настойлівай барацьбы за чыстату партыйных радоў, за ахову нашай партыйнай арганізацыі ад пранікнення ў яе рады варожых, шпіёнскіх, чуждых элементаў. Іменна для КП(б)Б, з прычыны склаўшайся абстаноўкі класавай барацьбы, дзе ў свой час моцны быў эсэраўскі, бундаўскі і нацдэмаўскі ўплыў, асабліва значэнне набывае задача, пастаўленая таварышом Сталіным перад усёй партыяй—«трымаць высока і хаваць у чыстаце вялікае званне члена партыі». Між тым, як гэта было ўскрыта праверкай партыйных дакументаў, партарганізацыі КП(б)Б не зрабілі неабходных вывадаў з асобых пагранічных умоў работы. У партарганізацыях КП(б)Б панаваў недапушчальны хаос у пастаноўцы ўліку комуністаў, грубейшае сваявольства ў выдачы і хаванні партыйных білетаў, калі хаванне і выдача партыйных білетаў перадаваліся чуждым, варожым, шпіёнскім элементам, якія выкарысталі нашу злачынную распушчанасць, ратазейства і масавыя факты грубейшага парушэння статута партыі ў сваіх контррэволюцыйных мэтах.

Гэта арганізацыйная распушчанасць, аслабленне пільнасці, слабое разгортванне крытыкі і самакрытыкі ў партыйных арганізацыях КП(б)Б палегчылі класаваму ворагу, шпіёнскім элементам, дыверсантам, балахоўцам, савінкаўцам пралезці ў партыю і, прыкрываючыся партыйным білетам, доўгі час весці сваю контррэволюцыйную работу.

Праверка, не гледзячы на праведзеную ў 1933 годзе чыстку партыі, выкрыла вялікую засмечанасць КП(б)Б ворагамі партыі, якім, у выніку апартуністычнага дабрадушша і ратазейства комуністаў, удавалася не толькі заўладаць партбілетам, але і прабрацца на кіруючую работу.

Праверка выкрыла вялікую засмечанасць варожымі элементамі ўчасткаў работы ідэалагічнага фронту. Такія важнейшыя ўчасткі работы, як НКАсветы, БелАН, друк, школы, інстытуты і ВТНУ, аказаліся асабліва паражонымі. Як паказала праверка партыйных дакументаў, контррэволюцыйныя нацдэмаўскія элементы, белагвардзейцы, трацкісты невыпадкова выбралі іменна гэтыя ўчасткі работы полем для сваёй контррэволюцыйнай дзейнасці. Апартуністычная самасупакоенасць, прытупленне класавай пільнасці, панаваўшыя тут больш, чым дзе-б там ні было, недастатковая ўмацаванасць гэтых участкаў праверанымі большэвіцкімі кадрамі стварылі тут найбольш спрыяючую абстаноўку для работы ворага. Пленум указвае ўсім комуністам, працуючым на ідэалагічным фронце, што імі не зроблена большэвіцкіх вывадаў з неаднаразовых папярэджанняў партыі аб неабходнасці праяўлення асаблівай пільнасці, паколькі класавы вораг усімі сіламі імкнецца заўладаць участкам ідэалагічнага фронту і ператварыць яго ў базу сваёй контррэволюцыйнай работы. Праверка з асаблівай рэзкасцю выкрыла адсутнасць работы па вывучэнню кадраў, злачынна-неахайныя, мяжуючыя з прамым патураннем класаваму ворагу, адносіны да пытанняў падбору людзей, іх расстаноўкі на важнейшых участках работы. Толькі палітычнай блізарукасцю, саноўна-панскімі, небольшэвіцкімі адносінамі да такой важнейшай справы, як падбор і вывучэнне кадраў, можна вытлумачыць той факт, што класаваму ворагу параўнальна лёгка ўдалося прабрацца на важнейшыя ўчасткі работы і на працягу доўгага часу весці там сваю здрадніцкую справу.

Пленум ЦК абавязвае АК, ГК і РК КП(б)Б справу падбору, вывучэння і размеркавання кадраў паставіць у цэнтры сваёй увагі. Толькі тады, калі пытаннямі вывучэння і падбору кіруючых кадраў будзе займацца асабіста сакратар РК і самі кіруючыя работнікі, не перадаваючы гэтай важнейшай справы нікому, мы забяспечым сапраўднае ўмацаванне бальшэвіцкімі кадрамі важнейшых участкаў нашай работы.

Пленум ЦК КП(б)Б асабліва падкрэслівае абураючыя факты прытуплення пільнасці, ускрытыя ў працэсе праверкі партдакументаў у паасобных партыйных арганізацыях (Бягомля, Магілеў, Барысаў, Жлобін і інш.), калі ў выніку апартуністычнага дабрадушша і самасупакоенасці ў гэтых партарганізацыях, у выніку небальшэвіцкіх адносін да падбору партыйных кадраў, класаваму ворагу і шпіёнам удалося пралезці не толькі ў совецка-гаспадарчы апарат, але прабрацца і ў партыйны апарат і выкарыстаць сваю работу ў партыйным апараце для контррэволюцыйнай шпіёнскай дзейнасці.

Нават у Менскай партыйнай арганізацыі, якая знаходзіцца пад бокам ЦК КП(б)Б, праверкай выкрыта вялікая засмечанасць партыйнай арганізацыі, аслабленне пільнасці і засмечанасць чуждымі, варожымі людзьмі кіраўніцтва паасобных пярвічных партарганізацый, не гаворачы ўжо аб важнейшых участках совецкага, гаспадарчага апаратаў. Гэтыя факты сведчаць аб тым, што кіруючыя партыйныя кадры КП(б)Б не зрабілі яшчэ ўсіх неабходных вывадаў з неаднаразовых сур'ёзных папярэджанняў ЦК ВКП(б) і асабіста тав. Сталіна аб тым, што чым больш паспяхова наша партыя рушыць наперад у пабудове соцыялізма, тым больш упарта супраціўленне класавага ворага.

Пленум ЦК КП(б)Б зварачае ўвагу ўсіх партыйных арганізацый на тое, што ў працэсе праверкі партыйных дакументаў па КП(б)Б выкрыты масавыя факты грубейшага парушэння статута партыі. У працэсе праверкі ўстаноўлена, што партыйныя білеты выдаваліся ў выглядзе прэміі, выдаваліся аднаасобна сакратаром РК, без прыёму на агульна-партыйным сходзе, без рашэнняў партыйных органаў рабілася выдача партыйных білетаў па рашэнню фракцый профсаюзаў аб прыёме ў партыю, практыкаваўся групавы прыём у партыю, масавыя факты астаўлення партбілетаў у выключаных з партыі. У адной гомельскай партыйнай арганізацыі на працягу 1931—1932 гг. прынята ў партыю з парушэннем статута 2 тысячы чалавек.

Гэтыя масавыя грубейшыя скажэнні арганізацыйных прынцыпаў нашай партыі маглі мець месца толькі ў выніку аслаблення пільнасці партыйных арганізацый, у выніку даўлення меншавіцкіх, бундаўскіх элементаў на паасобныя звенні партыйнай арганізацыі і неразумення таго, што «тэхнікай партыйнай работы павінны займацца самі кіруючыя работнікі партыі».

Праверка партыйных дакументаў у КП(б)Б з асаблівай рэзкасцю выкрыла, што іменна масавае парушэнне ў партарганізацыях КП(б)Б статута партыі і было, галоўным чынам, выкарыстана класавым ворагам для пранікнення ў партыю.

Праверкай партдакументаў па КП(б)Б поўнасцю даказана, што нераззброіўшымся контррэволюцыйным эсэраўскім, бундаўскім і нацдэмаўскім элементам удалося лёгка пралезці ў КП(б)Б і атрымаць партыйныя білеты толькі ў выніку грубейшага скажэння арганіза-

цыйных прынцыпаў нашай партыі, грубейшага парушэння статута партыі.

Такім шляхам удалося пралезці ў КП(б)Б членам контррэвалюцыйнай нацдэмаўска-эсэраўскай арганізацыі (так званая «Беларуская комуністычная арганізацыя»—БКА). Гэтым-жа чынам атрымалі партбілеты члены Капыльскай контррэвалюцыйнай эсэраўскай арганізацыі. У выніку грубейшага парушэння статута ўдалося пралезці ў партыю і атрымаць партбілеты актыўным удзельнікам эсэраўскага паўстання ў Сянно, Слуцку, Горках, Оршы і іншых раёнах рэспублікі. Зрабіўшы асноўным метадам барацьбы супроць партыі двурушніцтва і кругавую паруку, гэтыя контррэвалюцыйныя элементы, прабраўшыся ў партыю, вялі ўнутры партыі сваю контррэвалюцыйную работу і толькі органамі НКУС і цяпер у працэсе праверкі партдакументаў былі выкрыты, як прамыя ворагі партыі.

Пленум ЦК асабліва падкрэслівае, што на прыкладзе КП(б)Б, дзе ў працэсе праверкі выкрыты масавыя факты парушэння статута партыі, цалкам і поўнасцю пацвярджаецца правільнасць указання снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб тым, што ў выніку гэтых парушэняў статута «у ВКП(б) удавалася пранікаць яўным ворагам партыі, у тым ліку нават шпіёнам замежных разведак, якія пралазілі пад выглядам палітэмігрантаў і членаў брацкіх компартый».

Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі, усіх комуністаў з гэтага важнейшага ўказання ЦК ВКП(б) зрабіць усе неабходныя вывады, асабліва ўлічваючы прымежныя ўмовы работы нашай партыйнай арганізацыі.

У працэсе праверкі партыйных дакументаў у КП(б)Б была выкрыта значная група контррэвалюцыйных трацкістаў, якія, маскуючыся і двурушнічаючы на працягу доўгага часу, вялі сваю контррэвалюцыйную падрыўную работу ў КП(б)Б. Пленум ЦК КП(б)Б указвае ўсім партыйным арганізацыям на той факт, што контррэвалюцыйныя трацкісты заставаліся ў КП(б)Б доўгі час нявыкрытымі, нават пасля сур'ёзнейшага ўрока, атрыманага ўсёй партыяй у сувязі са зладзейскім забойствам Сергея Міронавіча Кірава. Гэта сведчыць аб усё яшчэ недастатковай мабілізаванасці партарганізацыі КП(б)Б на барацьбу з контррэвалюцыйным зіноўеўска-трацкісцкім ахвосцем. Падонкі зіноўеўска-трацкіскага ахвосця, як гэта паказала праверка, прабуюць у некаторых партарганізацыях стварыць свае контррэвалюцыйныя арганізацыі для барацьбы супроць пролетарскай дыктатуры. Прычым, спажыўным асяроддзем для контррэвалюцыйнага трацкізма, як правіла, з'яўляюцца выхадцы з разбітых антысовецкіх партый (бунд, сіяністы, эсэры).

Баявой задачай КП(б)Б пленум лічыць далейшую мабілізацыю партыйнай арганізацыі на барацьбу з падонкамі зіноўеўска-трацкісцкага ахвосця, з нераззброіўшыміся астаткамі контррэвалюцыйных эсэраўскіх, бундаўскіх і нацдэмаўскіх элементаў, якія змыкаюцца паміж сабою ў сваёй гнуснай здрадніцкай рабоце, у сваёй барацьбе супроць пераможнага руху соцыялізма.

Пленум ЦК КП(б)Б заклікае ўсю партыйную арганізацыю на аснове большэвіцкай самакрытыкі да канца ўсвоіць урокі праверкі партыйных дакументаў, яшчэ больш мабілізаваць партыйную арганізацыю на павышэнне пільнасці і боездольнасці, маючы на ўвазе важнейшае значэнне ўказанняў партыі аб тым, што «класавы вораг па меры росту нашых поспехаў прыбягае да найбольш утончаных метадаў

барацьбы, скарыстоўваючы для гэтага ў першую чаргу апартуністычнае дабрадушша і ратазейства комуністаў».

Важнейшай задачай партыйнай арганізацыі пленум ЦК КП(б)Б лічыць далейшую мабілізацыю партыйнай арганізацыі на барацьбу за ўмацаванне арганізацыйных прынцыпаў большэвізма, зрабіўшы статут партыі асновай жыцця партыйнай арганізацыі. Толькі рашуча змагаючыся з элементамі дробнабуржуазнай расхлябанасці і недысцыплінаванасці, ліквідуючы да канца распушчанасць і ратазейства, мабілізуючы пільнасць комуніста, можна палажыць канец агіднасцям, выяўленым у ходзе праверкі партыйных дакументаў, і зрабіць нашу партыйную арганізацыю непрыступнай для пасяганняў класавага ворага.

Рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб выніках праверкі партыйных дакументаў павінны легчы ў аснову ўсёй работы партыйнай арганізацыі. Гэтыя рашэнні павінны стаць набыткам усёй партыі, набыткам кожнага комуніста.

Выходзячы з гэтых рашэнняў, партарганізацыі КП(б)Б павінны неадкладна прыступіць да падрыхтоўкі выдачы партыйных білетаў, забяспечыўшы большэвіцкае правядзенне гэтага важнейшага палітычнага мерапрыемства. Пленум ЦК КП(б)Б перасцерагае ўсе партыйныя арганізацыі ад недаацэнкі ўсёй палітычнай важнасці і складанасці правадзімага партыяй мерапрыемства па абмену партыйных білетаў і папярэджвае ўсе партыйныя арганізацыі, што абмен партыйных білетаў ёсць рашаючы этап у навядзенні большэвіцкага парадку ва ўласным партыйным доме.

Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі прыняць да няўхільнага выканання ўказанні пленума ЦК ВКП(б) аб тым, што «абмен партыйных білетаў і ўвядзенне новых уліковых картак з'яўляецца сур'ёзнейшым партыйна-арганізацыйным мерапрыемствам, якое павінна замацаваць вынікі праверкі партыйных дакументаў і спрыяць далейшаму ўмацаванню радоў ВКП(б)».

Толькі мабілізаваўшы ўсю партыйную арганізацыю вакол мерапрыемства партыі па абмену партыйных білетаў, павышаючы пільнасць партыйнай арганізацыі, забяспечваючы дасканалую праверку кожнага комуніста перад выдачай яму партыйнага білета, мы даб'емся таго, што партыйны білет будзе атрыман тымі, хто апраўдае высокае званне члена большэвіцкай партыі. Толькі ўзорным правядзеннем абмену партыйных білетаў і пастаноўкай партыйнага ўліку партыйныя кіраўнікі дакажуць, што імі ўсвоены «традыцыі большэвізма», калі лепшыя арганізатары партыі асабіста займаліся крапатлівай арганізацыйнай работай, вывучалі склад арганізацыі, самі правяралі выдачу партыйных дакументаў, ўваходзілі ва ўсе дэталі «партыйнай тэхнікі». Пленум абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі забяспечыць такое правядзенне абмену партыйных білетаў, каб гэта мерапрыемства яшчэ больш умацавала і згуртавала партыйную арганізацыю, узмацніла-б актыўны ўдзел комуніста ў палітычным жыцці партыі і краіны, умацавала-б арганізацыйныя прынцыпы большэвізма.

Праверка партыйных дакументаў ускрыла буйнейшыя недахопы ў справе вырошчвання і выхоўвання партыйных кадраў і зусім нездавальняючую пастаноўку прапагандысцкай работы і палітычнай агітацыі. У радзе партыйных арганізацый (Магілеў, Бягомля, Журавічы, Чэрвень, Талачыно, Кіраўск, Добруш) былі ўскрыты факты

зняважлівых адносін з боку кіраўніцтва гэтых арганізацый да пытанняў партыйнай работы, выхавання комуністаў, забыцця таго, што пярвейшым абавязкам партыйнага кіраўніцтва з'яўляецца выхаванне і вырошчванне партыйных кадраў, дапамога комуністу ў палітычным росце, павышэнне палітычнай актыўнасці і боездольнасці партарганізацыі. Агульнае адставанне партыйнай работы ў КП(б)Б, у асаблівасці партыйна-выхаваўчай, слабасць разгортвання крытыкі і самакрытыкі, а ў некаторых партыйных арганізацыях прамая кругавая парука, прывялі да аслаблення пільнасці ў партыйнай арганізацыі і паніжэння боездольнасці. Мацнейшая засмечанасць варожымі элементамі такіх партыйных арганізацый, як грэская, журавіцкая, уздзенская, капыльская, бягомельская, сенненская, плешчаніцкая, петрыкаўская слуцкая, дзяржынская, знаходзіць сваё тлумачэнне ў тым, што ў гэтых партыйных арганізацыях работа над палітычным выхаваннем комуніста аказалася ў загоне, бальшэвіцкая крытыка і самакрытыка не разгорнуты, і ў выніку гэтага аслаблена бальшэвіцкая пільнасць, а кіраўніцтва гэтых партыйных арганізацый замест мабілізацыі партыйнай арганізацыі на барацьбу за чыстату партыйных радоў, замест рашучай барацьбы з элементамі апартуністычнага дабрадушша, дробнабуржуазнай расхлябанасці і распушчанасці—самасупакоіліся.

Пленум ЦК КП(б)Б папярэджвае ўсе партыйныя арганізацыі, што ажыццяўленне задачы павышэння пільнасці і боездольнасці партыйных арганізацый будзе надзвычайна затруднена без павышэння палітычнага ўзроўню комуніста, без сістэматычнай штодзеннай крапатлівай работы па выхаванню комуніста ў духу бальшэвіцкай непрымірымасці і прынцыповасці, без усваення комуністам асноў марксізма-ленінізма. Адсюль стаіць баявая задача перад усёй партыйнай арганізацыяй яшчэ больш узмацніць унутрыпартыйную работу, выхаванне комуніста, не захапляючыся дасягнутымі рэзультатамі, ні на мінутку не супакойваючыся, маючы на ўвазе, што авангардная кіруючая роля нашай партыі павышаецца з кожным днём, асабліва зараз перад тварам новых гаспадарча-палітычных і культурных задач і магутнага ўздыму стаханаўскага руху.

Праверка значна ўзмацніла цягу комуністаў да павышэння свайго палітычнага ўзроўню, вывучэння гісторыі нашай партыі, да аўладання асновамі марксізма-ленінізма. Пленум абавязвае ўсіх сакратароў РК і пярвічныя партарганізацыі ў бліжэйшыя поўгода зрабіць партыйна-выхаваўчую работу асноўнай і важнейшай работай арганізацыі, забяспечыўшы сістэматычную штодзенную дапамогу комуністу ў яго ідэйна-палітычным росце.

У працэсе праверкі партыйных дакументаў, побач з ачышчэннем партыйнай арганізацыі ад чуждых і варожых элементаў, былі высунуты на партыйную, совецкую і гаспадарчую работу новыя правераныя кадры і адабраны ў рэзерв лепшыя бальшэвікі для вылучэння на кіруючую работу. Гэта высоўвае перад партыйнымі арганізацыямі сур'ёзнейшую задачу арганізаваць штодзенную дапамогу нававылучаным на кіруючую работу кадрам у іх далейшым палітычным росце і асваенні імі тых участкаў работы, на якія яны вылучаны, з тым каб дапамагчы гэтым кадрам вырасці і ўсвоіць стыль бальшэвіцкай работы. Важнейшай задачай партыйнай арганізацыі з'яўляецца пастаноўка сур'ёзнай крапатлівай работы з таварышамі, адабранымі ў рэзерв, прыцягненне іх да работы райкомаў партыі, аказанне кан-

крэтнай дапамогі гэтым комуністам у павышэнні іх палітычнага ўзроўню з тым, каб у выніку клапатлівых адносін да гэтых кадраў яны выраслі-б у сапраўдных большэвіцкіх кіраўнікоў.

Пленум ЦК КП(б)Б, як сур'ёзны станоўчы рэзультат праверкі партдакументаў, адзначае рост і згуртаванне вакол партыі беспартыйнага актыва, праверанага ў грамадзянскай вайне і барацьбе за калгасы. Гэта ставіць перад партыйнымі арганізацыямі важнейшую задачу разгортвання работы па далейшаму згуртаванню выяўленага беспартыйнага актыва вакол партыі, узмацненню работы з беспартыйным актывам і больш рашучаму вылучэнню праверанага беспартыйнага актыва на кіруючую работу, у асаблівасці жанчын.

Праверка ўскрыла сур'ёзныя недахопы ў падборы кіруючых кадраў і з боку апарата ЦК КП(б)Б. Той факт, што на працягу 1935 года было знята з работы 7 першых сакратароў РК і 4 другія сакратары, а сакратар Крупскага РК аказаўся выключаным з партыі, як утаіўшы свой актыўны ўдзел ў эсэраўскім паўстанні, а таксама тое, што ў працэсе праверкі партдакументаў была выключана група наменклатурных работнікаў, сведчыць аб слабым вывучэнні і веданні кадраў апаратам ЦК КП(б)Б.

Пленум ЦК КП(б)Б даручае бюро ЦК так паставіць работу аддзелаў ЦК КП(б)Б, каб было забяспечана дасканалае вывучэнне і сур'ёзная праверка кіруючых кадраў.

Пленум ЦК КП(б)Б адзначае ўсё яшчэ нездавальняючую работу партыйных арганізацый са спачуваючымі. Гэтай важнейшай справе выхавання рэзерву партыі ўдзяляецца зусім недастатковая ўвага. АК, РК, ГК і пярвічныя партарганізацыі перадаверылі гэту работу другарадным, неправераным людзям. У выніку гэтага замест росту груп спачуваючых за лік лепшых людзей краіны, стаханаўцаў прамысловасці, ударнікаў соцыялістычных палёў, беспартыйнага актыва, праверанага ў барацьбе за калгасы, і савецкай інтэлігенцыі—ёсць рад фактаў, калі работа па ўцягненню ў групу спачуваючых прыпынілася.

Пленум ЦК КП(б)Б, падкрэсліваючы важнейшае значэнне пастаноўкі работы са спачуваючымі для справы выхавання рэзерву для папаўнення радоў партыі, абавязвае АК, РК, ГК і пярвічныя партарганізацыі на падставе рашэння пленума ЦК ВКП(б), распрацаваць рад практычных мерапрыемстваў, забяспечваючых як уцягненне лепшых, правераных людзей з беспартыйнага актыва ў групу спачуваючых, так і арганізацыю работы па палітычнаму выхаванню спачуваючых, «выкоўваючы ў іх навыкі большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны». Даручыць бюро ЦК у бліжэйшы-ж час заслухаць даклады раду сакратароў РК і пярвічных партарганізацый аб рэалізацыі імі рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) аб рабоце са спачуваючымі.

Пленум ЦК КП(б)Б указвае ўсім ГК і РК, што імі яшчэ аказваецца недастатковая дапамога комсамолу. Абавязаць АК, ГК, РК і пярвічныя партарганізацыі галоўную сваю ўвагу ў кіраўніцтве комсамолам звярнуць на дапамогу комсамолу ў справе павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўню комсамола, выхавання комсамольца і рабочай і калгаснай моладзі ў духу большэвізма.

Пленум ЦК КП(б)Б папярэджвае ўсе партыйныя арганізацыі, што прыём у партыю спачуваючых і комсамольцаў павінен праводзіцца ў строга індывідуальным парадку і пры найстражэйшым захаванні статута партыі.

Рашэнне пленума ЦК ВКП(б) аб найстражэйшым правядзенні ў жыццё статута партыі павінна стаць кіраўніцтвам к дзеянню кожнага комуніста. Падыходзячы да новага прыёму ў партыю, КП(б)Б павінна ўлічыць, што кіруючыя кадры КП(б)Б нясуць перад ЦК ВКП(б) асаблівую адказнасць за малейшае парушэнне статута, паколькі ў КП(б)Б былі выяўлены масавыя факты грубейшага парушэння статута.

Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што праверка партыйных дакументаў у парарганізацыях Жлобінскага, Магілеўскага, Аршанскага, Віцебскага і Гомельскага палітаддзелаў чыгуначнага транспарту выкрыла вялікую засмечанасць партарганізацый чыгуначнага транспарту варожымі элементамі. Начальнікі палітаддзелаў сустрэліся ў працэсе праверкі партдакументаў чыгуначнага транспарту з элементамі кругавой парукі і сямейнасці і актыўным супраціўленнем класавага ворага мерапрыемствам па рэалізацыі ліста ЦК ВКП(б) ад 13-га мая. Праверка выкрыла слабое разгортванне крытыкі і самакрытыкі ў чыгуначных партыйных арганізацыях і аслабленне пільнасці.

Пленум ЦК зварачае ўвагу гомельскага, магілеўскага, аршанскага, віцебскага і жлобінскага нач. палітаддзелаў і ўсіх комуністаў, працуючых на МББ і Заходняй чыгунцы, што на чыгуначны транспарт, які працуе ў Беларусі ў прымежных умовах, класавы вораг больш чым куды-б там ні было прабуе пралезці для вядзення сваёй контррэволюцыйнай падрыўной шпіёнскай работы. Гэта абавязвае комуністаў чыгуначнага транспарту праяўляць асаблівую пільнасць, рашуча ліквідаваць арганізацыйную распушчанасць і ратазейства, мабілізаваць усю партыйную арганізацыю на барацьбу з апартуністычным дабрадушшам, элементамі мяшчанства і дробна-буржуазнай расхлябанасці ў партыйных арганізацыях.

Пленум ЦК заклікае ўсю партыйную арганізацыю чыгуначнага транспарту на аснове рэалізацыі рашэння пленума ЦК ВКП(б), павышаючы пільнасць і боездольнасць партыйнай арганізацыі, вывесці МББ і Заходнюю чыгунку на перадавыя лініі нашай соцыялістычнай гаспадаркі.

Праверка партыйных дакументаў, праведзеная па ўказанню таварыша Сталіна, з'яўляецца яркім выражэннем асаблівых сталінскіх клопатаў аб чыстаце партыйных радоў, аб умацаванні боездольнасці нашай большэвіцкай партыі, з'яўляецца важнейшым мерапрыемствам па ўзняццю арганізацыйнага кіраўніцтва да ўзроўню палітычных задач. Ажыццяўляючы пад большэвіцкім кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), члены КП(б)Б апраўдаюць высокае званне членаў партыі, правадыром і геніяльным стратэгам якой з'яўляецца вялікі Сталін.

Пленум **пастанаўляе** зацвердзіць вынікі праверкі партыйных дакументаў па КП(б)Б і партарганізацыях чыгуначнага транспарту.

---

# Аб становішчы партыйнай прапаганды і агітацыі

*Рэзалюцыя пленума ЦК КП(б)Б па дакладу тав. Коніка*

Заслухаўшы даклад тав. Коніка аб становішчы партыйнай прапаганды і агітацыі, пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што ў становішчы партыйнай прапаганды і палітычнай агітацыі зусім правільна і своечасова ЦК ВКП(б) былі ўскрыты буйнейшыя недахопы.

Рашэнне ЦК ВКП(б) «Аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы час» не знайшло неабходнага праламлення ў арганізацыі кіраўніцтва справай партыйнай прапаганды.

Гэтыя недахопы з'явіліся прамым рэзультатам таго, што ЦК КП(б)Б не кіраваў штодзенна гэтай важнейшай справай, а аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б і асабіста загадчык аддзелам прапаганды і агітацыі тав. Конік не арганізавалі канкрэтнага аперацыйнага кіраўніцтва, кантролю за становішчам партпрапаганды і агітацыі і праверкі выканання рашэння ЦК ВКП(б) аб прапагандысцкай рабоце.

Сакратары РК і ГК КП(б)Б не забяспечылі кіраўніцтва па сутнасці справай партвучобы і не зразумелі таго, што для сапраўды большэвіцкай пастаноўкі справы партыйнай прапаганды патрабуецца перш за ўсё арганізацыйная работа.

Усё эта прывяло да таго, што ў радзе раёнаў, у тым ліку і ў заграпічных, прапагандысцкі склад аказаўся ў значнай частцы, засмечаным партыйна нявытрыманым і класава-чуждым элементам, не была зжыта сезоннасць у партвучобе, не ліквідавана механічнае камплектаванне партсеткі і т. д.

Пленум ЦК адзначае, што праверка партдакументаў значна ўзмацніла ўвагу партарганізацыі справе прапаганды і агітацыі, і, не гледзячы на некаторае палепшанне становішча партпрапаганды і масавай палітычнай агітацыі, усё яшчэ маюць месца наступныя недахопы:

а) Нездавальняючае становішча справы падбору і вывучэння прапагандысцкіх кадраў, у радзе партыйных арганізацый (Магілеў, Гомель, Лепель, Плешчаніцы, Менск, Бялынічы, Чэрвень і інш.), дзе ў выніку несур'ёзных адносін з боку ГК і РК КП(б)Б, у ролі «прапагандыстаў», як паказала праверка партдакументаў, аказаліся чуждыя і неправераныя людзі.

Важнейшая справа прапаганды ленінізма, вывучэнне гісторыі ВКП(б), КП(б)Б ва многіх выпадках даручаецца слаба падрыхтаваным прапагандыстам (Мазыр, Лельчыцы, Жлобін, Віцебск, На-

роўля і інш.), а асноўны кадр партыйных работнікаў у сваёй большасці не вядзе непасрэднай прапагандысцкай работы.

б) Недапушчальныя адносіны да справы арганізацыі курсаў прапагандыстаў, у асаблівасці двухгадовых рэспубліканскіх.

З боку аддзела партпрапаганды і агітацыі не было забяспечана кіраўніцтва і кантроль за арганізацыяй і работай гэтых курсаў. Пленум адзначае зусім несур'ёзныя адносіны раду горрайкомаў КП(б)Б да падбору кандыдатур на курсы, што прывяло да таго, што склад курсаў не адпавядаў патрабаванням, прад'яўленым партыяй да прапагандысцкіх кадраў, у склад якіх, як гэта выяўлена ў працэсе праверкі партдакументаў, папалі неправеранычя і чуждыя людзі.

в) Зусім нездавальняючае кіраўніцтва справай арганізацыі дапамогі прапагандыстам; работу над сістэматычным павышэннем іх тэарэтычнага, палітычнага і культурнага ўзроўню прадаставілі самацёку (Полацк, Петрыкаў, Магілёў і інш.).

Пленум ЦК лічыць зусім недапушчальным, калі паасобныя прапагандысты школ і гурткоў (Заслаўль, Дуброўна, Тураў) пры падрыхтоўцы да заняткаў не вывучаюць матар'ялаў асновапаложнікаў марксізма-ленінізма—Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. У выніку ў радзе партыйных школ і гурткоў вывучэнне гісторыі партыі і асноў ленінізма праходзіць на нізкім узроўні, дапускаюцца выпадкі спрашчэнства, прамых скажэнняў гісторыі партыі.

г) Няправільная арганізацыйная пабудова партыйнай сеткі, адсутнасць правільнага ўліку ўзроўню і запросаў комуністаў, адсутнасць дыферэнцыяванага падыходу да комуністаў у вучобе, адсутнасць сістэматычнай вучобы сярод кандыдатаў і спачуваючых, механічнае камплектаванне сеткі партыйных школ па тэрытарыяльнаму і вытворчаму прызнаках, што асабліва ярка выяўлена ў Нараўлянскім, Капыльскім, Жыткавіцкім, Полацкім і Ветрынскім раёнах.

д) Азбучная няграматнасць значнай часткі комуністаў, адсутнасць уліку гэтых комуністаў, адсутнасць дапамогі ў ліквідацыі іх азбучнай і палітычнай няграматнасці шляхам арганізацыі спецыяльных школ і гурткоў, індывідуальнага прымацавання выкладчыкаў і т. д.

е) Нездавальняючае становішча палітычнай агітацыі, адсутнасць сістэматычнай работы з кадрамі агітатараў, чытчыкаў-бяседчыкаў, невыкананне рашэння ЦК ВКП(б) па Балахнінскаму камбінату аб стварэнні пры парткамітэтах агіткалектываў для рэгулярнай работы з агітатарамі (Менск—завод «Большэвік», Бабруйск—лесакамбінат, Гомель—завод «Пролетарый», фабрыка «Спартак»).

Штодзенная агітацыйная работа непасрэдна ў цэху, брыгадзе, змене (групавое чытанне газет, палітгутаркі, адказы на пытанні, якія цікавяць рабочых, работніц і калгасныя масы) не пастаўлена на належную вышыню.

ж) Зусім недастатковая ўвага партарганізацыі комсамолу ў справе пастаноўкі палітычнай асветы комсамольцаў і выхавання моладзі.

Рад райкомаў (Капаткевічы, Тураў і Лоеў) не выдзелілі прапагандыстаў для комсамольскай сеткі, не забяспечылі кіраўніцтва палітвучобай комсамола па сутнасці, не ставілі на абгаварэнне бюро РК пытанні комсамольскай палітвучобы.

з) Пленум асабліва адзначае недапушчальныя адносіны да справы забяспечання выкладання ў партшколах і гуртках на бела-

рускай мове, што з'яўляецца прамым ігнараваннем рашэнняў краcавіковага пленума ЦК КП(б)Б.

Пленум ЦК лічыць, што такое становішча справы партпрапаганды з'яўляецца вынікам таго, што кіраўнікі партыйных арганізацый яшчэ да гэтага часу асабіста зусім недастаткова займаюцца пытаннямі выхавання комуністаў, не ўсвойваюць усіх дэталей практыкі пастаноўкі партыйнай прапаганды, не бываюць у школах і гуртках, а перадаручаюць кіраўніцтва гэтай важнейшай для партыі справай работнікам партапарата.

Пленум ЦК КП(б)Б асабліва падкрэслівае, што перад партыйнымі арганізацыямі ў галіне партыйнай прапаганды стаяць асабліва сур'ёзныя і адказныя задачы, выцякаючыя з пагранічнага становішча рэспублікі і з таго факту, што, як паказала праверка партдакументаў, у паасобных звеннях партыйнай арганізацыі ўсё яшчэ жывы астаткі разгромленай партыяй контррэволюцыйнай ідэалогіі нацдэмаўшчыны, эсэраўшчыны і бундызма.

У якасці партыйнай праграмы далейшай работы партарганізацый у галіне партпрапаганды пленум ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Абавязаць асабіста першых сакратароў АК, РК і ГК КП(б)Б на працягу месяца перагледзець і праверыць увесь кіруючы склад работнікаў партпрапаганды (райпрапагандыстаў, заг. партгабінетамі і т. д.) і ўкамплектаваць апарат праверанымі людзьмі, маючымі практычны і арганізацыйны вопыт партыйнай работы.

2. Абавязаць парткомы ўважліва вывучаць склад кожнай школы і гуртка з тым, каб на-хаду выправіць памылкі механічнага камплектавання школ, камплектуючы іх у адпаведнасці з узроўнем ведаў слухачоў, абавязкова зацвярджаючы на бюро парткомаў персанальны склад гуртка.

3. Пленум ЦК КП(б)Б звярачвае асаблівую ўвагу партарганізацый на неабходнасць падцягвання адстаючых, арганізуючы для паасобных невялікіх груп дадатковыя гадзіны для падрыхтоўкі да заняткаў (пад кіраўніцтвам прапагандыста), а таксама на неабходнасць прымацавання да адстаючых таварышоў для індывідуальнай дапамогі больш падрыхтаваных комуністаў.

4. Пленум ЦК абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі ўцягнуць у сетку партыйнай і палітычнай вучобы ўсіх стаханаўцаў, перадавікоў з тым, каб іх ідэйна-палітычна выхаваць. Для гэтага неабходна ўлічыць запросы, узровень палітычнай і тэхнічнай граматнасці стаханаўцаў, арганізуючы для іх, па меры неабходнасці, паасобныя гурткі, аказваючы ім штодзенную дапамогу ў павышэнні іх агульнага культурна-тэхнічнага і палітычнага ўзроўню.

5. Абавязаць АК, ГК і РК КП(б)Б к 15 лютага 1936 года закончыць перагляд складу прапагандыстаў і прыцягнуць да прапагандысцкай работы найбольш падрыхтаваных таварышоў і, у першую чаргу, асноўны кадр кіруючых партыйных работнікаў. Склад прапагандыстаў павінен абавязкова зацвярджацца на бюро РК з папярэдняй праверкай іх у спецыяльнай камісіі, якую павінен узначаліць сакратар РК або яго намеснік.

6. Адобрыць мерапрыемствы бюро ЦК аб праверцы і зацверджанні на бюро ЦК складу прапагандыстаў, асабліва прымежных раёнаў.

7. Забараніць знімаць і пераводзіць прапагандыстаў з аднаго гуртка ў другі без рашэння ГК і РК КП(б)Б.

8. Наладзіць сістэматычную работу прапагандысцкіх семінараў у мэтах павышэння палітычнага і тэарэтычнага ўзроўню прапагандыстаў **на падставе вывучэння асноўных твораў класікаў марксізма-ленінізма** і забяспечыць наведванне семінараў усімі прапагандыстамі, арганізуючы таксама групавую і індывідуальную кансультацыю прапагандыстам.

9. Арганізаваць сістэматычную паліт'інфармацыю, практыкуючы скліканне прапагандыстаў для азнаямлення іх з партыйнымі дакументамі, інструктажу па важнейшых палітычных пытаннях.

10. Цэнтрам арганізацыі ўсіх відаў дапамогі прапагандыстам павінен з'явіцца **партыйны габінет.** Партыйныя габінеты павінны падрыхтоўваць неабходныя матар'ялы для маючых быць заняткаў, гутарак, арганізоўваць наглядны матар'ял для тэмы, падбіраць вытрымкі з мастацкай і палітычнай літаратуры, сістэматычна падагульваць вопыт работы прапагандыстаў. Побач з семінарамі і кансультацыямі неабходна арганізоўваць лекцыі для прапагандыстаў на палітычныя, тэарэтычныя і навуковыя тэмы.

11. Абавязаць аддзел партпрапаганды і агітацыі ЦК тав. Коніка ў бягучым годзе арганізаваць перападрыхтоўку прапагандыстаў і агітатараў і прадставіць на зацверджанне бюро ЦК КП(б)Б падрабязны план арганізацыі гэтай справы.

12. У мэтах сістэматычнага вырошчвання новых прапагандысцкіх кадраў арганізаваць пры існуючых вячэрніх комвузах спецыяльнае аддзяленне па падрыхтоўцы рабочых прапагандыстаў для партыйнай і комсамольскай сеткі і арганізаваць у акругах і ў паасобных раёнах вячэрнія партшколы па падрыхтоўцы прапагандыстаў.

Абавязаць аддзел партпрапаганды распрацаваць план-праграму работы гэтых школ і аддзяленняў, вызначыць раёны, у якіх павінны быць арганізаваны гэтыя школы, і прадставіць на зацверджанне бюро ЦК.

13. Пленум ЦК абавязвае АК, ГК, РК КП(б)Б і аддзел партпрапаганды і агітацыі забяспечыць сапраўднае кіраўніцтва актывам прапагандыстаў і агітатараў, распрацаваць канкрэтны план работы з імі і выкарыстання іх, забяспечыўшы на справе выкананне рашэння ЦК ВКП(б).

14. Абавязаць партарганізацыі падабраць і зацвердзіць на парткомах кадры нізавых агітатараў бяседчыкаў, чытчыкаў з лепшых партыйцаў, комсамольцаў, спачуваючых — дастаткова палітычна граматных.

Устанавіць ва ўсіх райкомах персанальны ўлік кадраў агітатараў.

15. Пленум ЦК КП(б)Б патрабуе ад партыйных камітэтаў штодзеннай сістэматычнай дапамогі агітатарам, бяседчыкам-чытчыкам у павышэнні іх палітычнага і агульна-асветнага ўзроўню, асабістага кіраўніцтва сакратара парткома агіткалектывам, сістэматычнага інструктажу іх па ўсіх бягучых пытаннях палітыкі партыі, совецкай улады і палітычнай інфармацыі, па пытаннях жыцця сваёй парт-арганізацыі, ажыццяўляючы рашэнне ЦК ВКП(б) аб становішчы палітычнай агітацыі на Балахнінскім папяровым камбінаце.

16. Абавязаць аддзел партпрапаганды і агітацыі арганізаваць перадачу па радыё для агітатараў і прапагандыстаў не менш двух раз у месяц дакладаў і лекцый па пытаннях бягучай палітыкі партыі і совецкай улады, соцыялістычнага будаўніцтва СССР і БССР.

Аддзелу партпрапаганды і агітацыі ўнесці на зацверджанне бюро ЦК план арганізацыі гэтых дакладаў і лекцый і спіс дакладчыкаў.

17. Пленум падкрэслівае велізарнае значэнне завочнага навучання для партыйна-комсамольскага актыва, комуністаў-адзіночак і абавязвае АК, ГК і РК КП(б)Б звярнуць сур'ёзную ўвагу на арганізацыю нармальнай работы радыёаўдыторый (тэхнічнае абсталяванне, радыёжыўленне, утульнасць і т. д.) і забяспечыць штодзеннае кіраўніцтва завочнай партыйнай вучобай комуністаў.

18. Пленум ЦК абавязвае цэнтральныя газеты арганізаваць сістэматычнае асвятленне ў друку становішча партыйнай прапаганды і агітацыі, паказваючы добрыя ўзоры работы школ, прапагандыстаў, агітатараў, ідэйна-палітычны рост паасобных членаў партыі і кіраўніцтва партарганізацый партыйнай прапагандай і палітычнай агітацыяй па сутнасці.

19. Абавязаць аддзел партпрапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б арганізаваць справу інфармацыі па пытаннях партыйнай прапаганды і палітычнай агітацыі так, каб своечасова рэагаваць на ўсе недахопы ў пастаноўцы гэтай важнейшай галіны партыйнай работы.

20. Пленум ЦК абавязвае горраййкомы КП(б)Б і пярвічныя партарганізацыі арганізаваць сістэматычную дапамогу комсамольскім арганізацыям у пастаноўцы палітычнай вучобы комсамольцаў, звярачаючы асаблівую ўвагу на пытанні падбору прапагандысцкіх кадраў для комсамольскай сеткі і кіраўнікоў для семінараў комсамольскіх прапагандыстаў.

21. Лічыць неабходным заслухоўванне на бюро ГК і РК КП(б)Б дакладаў РК ЛКСМБ аб палітычнай вучобе комсамольцаў, паасобных прапагандыстаў комсамольскіх школ і т. д., аказваючы ім практычную дапамогу ў павышэнні ідэйна-палітычнага ўзроўню комсамольцаў.

22. Пленум ЦК КП(б)Б патрабуе ад усіх партыйных арганізацый сапраўднага выканання рашэнняў пленума ЦК КП(б)Б і сур'ёзнай практычнай работы ў справе большэвіцкага правядзення беларусізацыі марксісцка-ленінскага выхавання.

Цэнтральнае месца ў палітычнай агітацыі і партыйнай прапагандзе ў бліжэйшы час павінна заняць глыбокае вывучэнне кожным комуністам, рабочым, работніцай, калгаснікам, прамовы таварыша Сталіна на ўсесаюзнай нарадзе стаханаўцаў, стаўшай праграмай дзеяння ўсёй партыі і ўсяго рабочага класа, і рашэнняў пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

Пленум асабліва адзначае, што праверка партдакументаў паказала няведанне членамі партыі гісторыі нашай партыі.

«Трэба паставіць на належную вышыню выкладанне гісторыі партыі сярод членаў партыі, вывучэнне ўсіх і ўсякіх антыпартыйных груповак у гісторыі нашай партыі, іх прыёмаў барацьбы з лініяй партыі, іх тактыкі і тым больш—вывучэнне тактыкі і прыёмаў барацьбы нашай партыі з антыпартыйнымі групоўкамі, тактыкі і прыёмаў, даўшых нашай партыі магчымасць перамагаць і разбіць на галаву гэтыя групоўкі. Трэба, каб члены партыі былі знаёмы не толькі з тым, як партыя змагалася і перамагала кадэтаў, эсэраў, меншавікоў, анархістаў, але і з тым, як партыя змагалася і перамагала трацкістаў, «дэмакратычных цэнтралістаў», «рабочую апазіцыю», зіноўеўцаў, правых ухілістаў, правалявацкіх вырадкаў і т. д.

Нельга забываць, што веданне і разуменне гісторыі нашай партыі з'яўляецца важнейшым сродкам, неабходным для таго, каб забяспечыць поўнасцю рэволюцыйную пільнасць членаў партыі».

Пленум ЦК папярэджвае ўсе партарганізацыі, што высокая якасць партыйнай прапаганды можа быць забяспечана толькі пры рашучай барацьбе з фармалізмам, шаблонам, самацёкам у арганізацыі партасветы, пры самым сур'ёзным і дакладным падборы прапагандысцкіх кадраў, прыцягненні ўсяго партактыва да прапагандысцкай работы, пры сапраўды большэвіцкім кіраўніцтве кіраўнікоў партарганізацый гэтай асноўнай галіной унутрыпартыйнай работы, ідэйна ўзбройваючы і выхоўваючы кожнага члена партыі ў духу вучэння асновапаложнікаў марксізма-ленінізма—Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

---

